ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

10 лютага 1995 г. № 6 (3778) Кошт 200 руб.





*Анатоль ЯРМОЛЕНКА ды Ігар ЛУЧАНОК.*

# АДСВЯТКАВАЛА ЛІРА ЗАЛАТАЯ...

Эстрада, гэтая капрызлівая легкадумная модніца, зусім сур'ёзна ставіцца да ўласнай гісторыі. Тым больш, калі ў яе гісторыі штосьці — упершыню. Дык вось: выпушчаны магнітальбом (аўдыёкасета) лепшых песень, якія гучаць па-беларуску, гучаць у выкананні "зорак" і маладых спевакоў. Упершыню ў гісторыі нашай эстрады!

А цяпер — сёе-тое з перадгісторыі. Тэлегледачы, пэўна, ведаюць музычную праграму БТ, у якой паводле традыцыі праводзіцца конкурс на лепшыя песні года. Вось і на зыходзе 94-га праграма "Залатая ліра" падвяла свае вынікі. У конкурсе ўдзельнічала 30 песень. Журы складалася з публікі, якая запоўніла залу Дома афіцэраў, дзе адбываліся тэлездымкі фінальнага канцэрта. Гледачы, атрымаўшы праграмкі, мусілі адзначаць упадабаныя песні. Падсумоўвала гэткае досыць дэмакратычнае "судзейства" сацыялагічная група (яе ўзначальвае А. Фларызяк) тэлерадыёкампаніі. Аўтары і выканаўцы, якія атрымалі найбольшую колькасць галасоў, узнагароджаны прэміямі "Залатой ліры". Гэта кампазітар А. Елісеенкаў, паэт А. Бадак ды спявачка І. Афанасьева — 3-яе месца за песню "Сарамлівая дзяўчынка"; Э. Ханок, Н. Гілевіч ды Алеся — песня "Жаўраначка", 2-ое месца; І. Лучанок, Л. Дранько-Майсюк ды "Сябры" з салістам А. Ярмоленкам — "Полька беларуская", 1-ае месца.

*(Працяг на стар. 13)*




*Эдуард ХАНОК з дачкой Святланай, выканаўцай песень.*

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Яшчэ нейкі месяц, і Беларусь ахопіць, закруціць у сваім віры выбарчая кампанія. Сёняшні час можна ахарактарызаваць як зацішша перад бурай. Але дыханне блізкіх выбараў усё адчувальней. Народ, заняты клопатамі як пракарміцца, яно яшчэ не закранула. Аднак вярхі ўжо заварушыліся. Адчуваецца гэта найперш па друку і тэлебачанні. Партыі ствараюць блокі, лідэры выкладаюць праграмы, тлумачэнні дае Цэнтральная выбарчая камісія, ствараюцца ці аднаўляюць сваю работу клубы выбаршчыкаў... Мяркуючы па ўсім, будучым чальцам выбарчых акруг не пазайздросціш. Ужо сёння відавочна, што па кожнай акрузе будзе вылучацца не 2–3 кандыдаты, як раней, а — 2–3 дзесяткі... Але пры ўсім магчымым багацці выбару альтэрнатывы ў нас няма: нам патрэбны такі парламент, які б настойліва і паслядоўна адстойваў курс на незалежнасць і самастойнасць нашае дзяржавы.***

## *ВІЗІТ ТЫДНЯ*

На жаль, з нашых сродкаў масавай інфармацыі маем мы вельмі сціплую і павярхоўную інфармацыю (даруйце няўклюдны каламбур) пра візіт прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі ў блізкую нам Летуву. Ведаем, што прэзідэнты дзвюх дзяржаў падпісалі дагавор пра добрасуседства і супрацоўніцтва, ведаем, што "зняты ўсе пытанні адносна мяжы паміж нашымі краінамі", бачылі і чулі, як выступаў наш прэзідэнт у Сейме. Па-беларуску і без ніякага акцэнту (ні расейскага, ні ангельскага, хоць тыя мовы, у адрозненне ад нашай, "чалавечыя"). І выказаў па-беларуску ўсё, што хацеў, і зразумелі яго летувісы, і змаглі перакласці на сваю мову. На жаль, не ведаем, чым быў выкліканы зварот прэзідэнта да роднай мовы. Але можам засведчыць: у Вас нядрэнна атрымліваецца, Аляксандр Рыгоравіч! Вельмі натуральна.

## *АБСУРД ТЫДНЯ*

Вось пахвалілі прэзідэнта і тут жа вымушаны паўшчуваць. І ўсё з-за таго, што на мінулым тыдні з ягонай падачы зноў усплыло пытанне аб рэферэндуме па беларускай сімволіцы, двухмоўі і дэнансацыі белавежскіх пагадненняў. У сённяшняй палітычнай сітуацыі распачынаць гэта — значыць ператварыць Беларусь у пасмешышча ў вачах міжнароднай супольнасці. Чым вам не падабаецца гістарычны бел-чырвона-белы сцяг і старажытны герб Пагоня, Аляксандр Рыгоравіч? І, галоўнае, што вы прапануеце ўзамен: серп і молат ці двухгаловага арла? Не менш абсурднымі з'яўляюцца сёння і іншыя пытанні, па якіх прэзідэнт краіны прапануе правесці рэферэндум (няма і не будзе ўжо дзяржавы СССР, за захаванне якой некалі галасавалі беларусы. Ёсць Расійская імперыя, у якой Беларусь стане не еўрапейскай дзяржавай, а суб'ектам федэрацыі, як Чачня). Цэнтрвыбаркам ужо аднойчы адмовіўся праводзіць рэферэндум па гэтых пытаннях, назваўшы іх антыканстытуцыйнымі. Спадзяёмся, што і на гэты раз зойме ён прынцыповую пазіцыю. Не дадасць гэтая "ініцыятыва" і палітычнага капіталу прэзідэнту, які прыслухоўваецца не да голасу беларускага народа і інтэлігенцыі, а да лямanту кучкі "сабораўцаў". З пачаткам вайны ў Чачні адносіны беларусаў да Расійскай імперыі моцна змяніліся. А таму прэзідэнту варта было б проста "забыцца" пра гэтую сваю заяву і больш ніколі не прыгадваць яе.

## *ЦЫТАТА ТЫДНЯ*

"Я лічу, што нацыянальная ідэя — гэта рухавік, які можа паскорыць станаўленне і росквіт дзяржавы... Нацыянальная свядомасць не даецца чалавеку ад нараджэння, яна выхоўваецца акружэннем, яе фарміраванне залежыць ад таго, наколькі ў грамадстве паважаюцца духоўныя каштоўнасці і нацыянальныя традыцыі. І, безумоўна, галоўнае нацыянальнае багацце — мова, бо праз яе ажыццяўляецца нацыянальнае адраджэнне. Менавіта нацыянальная ідэя дапаможа кансалідаваць нацыю, зберагчы Беларусь ад эканамічнага і духоўнага краху. Стварэнне моцнае Беларускае дзяржавы — вось мэта і сэнс нацыянальнай ідэі. Якой я яе бачу? Праз вывучэнне, разуменне і павагу да гісторыі, культуры і мовы нашага народа. Выхаванне моладзі ў духу павагі і любові да нашай гісторыі, традыцый і нацыянальных асаблівасцяў. Недаацэнка гэтых фактараў у развіцці нашае дзяржавы недапушчальная".

*(З адказу Аляксандра Герасіменкі на пытанні карэспандэнта "Народнай газеты", 8 лютага г.г.)*

**P.S.** Падаём адказ Аляксандра Міхайлавіча ў перакладзе на беларускую мову. Друкуючы інтэрв'ю па-руску, рэдакцыя "НГ" вымушана была зрабіць тлумачэнне: "Александр Михайлович Герасименко предлагал вести диалог на белорусском языке, но, к сожалению, молодой журналист, который вызвался взять у него интерв'ю, уступая пока в знаниях национального языка, склонил интервьюируемого к ведению разговора на русском". Няма слоў: такое магчыма толькі на Беларусі...

## *НЕДАЎМЕННЕ ТЫДНЯ*

Сімпатыі прэзідэнта да "Советской Белоруссии", нарэшце, набылі канкрэтнае ўвасабленне: 1 лютага А. Лукашэнка падпісаў распараджэнне аб перадачы Адміністрацыі прэзідэнта правоў заснавальніка гэтага выдання ў сувязі са спыненнем паўнамоцтваў Савета Міністраў. Пасля гэтага яшчэ больш незразумелай выглядае назва газеты. Советская Белоруссия даўно стала Беларуссю (Беларуссю) прэзідэнцкай, а не савецкай.

## *НАВІНА ТЫДНЯ*

У пасольстве Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі адбылася адметная падзея: тут упершыню ў гісторыі пасольства зарэгістраваны грамадзянін Беларусі. Дакладней — грамадзянка. Ёю стала дачка ваеннаслужачага Ігара Елісеева, што вучыцца ў Маскве, — Аляксандра, якая нарадзілася ў адным з маскоўскіх радзільных дамоў. Шчаслівым бацькам уручана пасведчанне аб нараджэнні.

## *ЗАГАЛОВАК ТЫДНЯ*

В. Гончар утверждает: "Бог наказал Лукашенко властью, я молю Бога, чтобы он побыстрее помиловал его".

*("Свободные новости плюс", N 5)*

## *ЗДАРЭННЕ ТЫДНЯ*

Пра гэта прыкра пісаць... 2 лютага на вядомага ў нашай краіне чалавека, народнага артыста СССР Расціслава Янкоўскага быў зроблены бандыцкі напад у самым цэнтры Мінска, на праспекце Машэрава. Расціслаў Іванавіч вяртаўся дамоў пасля прэм'еры ў родным тэатры з кветкамі і падарункамі ўдзячных гледачоў. Ля крамы "Алеся" дарогу яму перагарадзілі тры нягоднікі і збілі з ног ударам кастэта... "Ахоўнікаў парадку" блізка не аказалася... Нягледзячы на траўмы, Расціслаў Іванавіч назаўтра зноў выйшаў на сцэну, а 5 лютага падараваў гледачам сапраўднае свята — адзначыў у тэатры сваё 65-годдзе. У бенефісе ўдзельнічала ўся вялікая сям'я Янкоўскіх. Дзякуй, Расціслаў Іванавіч!

## *ЧУТКА ТЫДНЯ*

Як сказаў карэспандэнту "Свабоды" "адзін інфармаваны чалавек", прэзідэнт Лукашэнка ў вузкім коле паплечнікаў заявіў, што цяпер Беларусь для яго "пройденный этап", наступная мэта — "кабинет в Кремле". Наш прэзідэнт і сапраўды непрадказальны?..

# НЕ ЎПАДЗІЦЕ Ў ГРЭХ...

## АДКРЫТЫ ЛІСТ ПРЭЗІДЭНТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СПАДАРУ ЛУКАШЭНКУ АЛЯКСАНДРУ РЫГОРАВІЧУ

У мінулым годзе, напярэдадні першага тура прэзідэнцкіх выбараў, я, нязначная жанчына, памкнулася праз шматтыражную "Народную газету" звярнуцца да высокай дзяржаўнай асобы — спадара Кебіча Вячаслава Францавіча, каб ён адмовіўся ад салодкага кандыдацтва са спадзяваннем на поспех, каб не зашорваў больш суайчыннікам вочы, каб не праглынуў горкай пілюлі свайго неабрання, бо наш прастадушны беларус мае кемлівы розум, і позірк востры ў яго, і ўсе прыманкі і абяцанкі, здзейсніць якія ў прэм'ера шмат было часу, хутчэй за ўсё адмяце з хітраватай усмешкай. І далей, прабачце, васпан прэзідэнт, і не інкрымінуйце наіўнай прамалінейнай жанчыне зняважанне Вашай асобы, бо далей, па-жаночы інтуітыўна, хацелася б засцерагчы люд беларускі, каб не кінуўся ў роспач за тым палітыкам, хто яшчэ не аперыўся, а распінаецца ў моцы і напышліва ў аглоблі чаперыцца, каб мурашом упрэгчыся ў нагружаны воз. На жаль, артыкул, паабяцаўшы надрукаваць, затрымалі, каб нідзе не даць яму ходу. Хто ведае, можа, і наўмысна, каб, на карысць іншай асобы, збіць папулярнасць Зянона Станіслававіча Пазняка, за якога я агітавала. Прабачце.

Грамадзянскі абавязак кожнага чалавека — дбаць аб будучыні краіны народа, нацыі, сямейнага клана. Спакон веку кожнага здрадніка інтарэсаў радзімы чакала суровая кара. Тысячагоддзямі грэшныя чалавечыя вусны з пакаяннем да Бога вымаўляюць палымяныя словы малітваў. Сярод іх і пяцідзесяты псалом, у якім асабліва часта гаворыцца пра беззаконні. Ці ж не беззаконне таксама таптаць, як засеянае поле, дзейсныя законы аб дзяржаўнай мове, дзяржаўных сімвалах? Якім заганным кляймом Вы можаце надзяліць не толькі сябе, але і ўвесь свой родавы клан, калі будзеце па-ранейшаму родную мову, як збітага з ног нядужага чалавека, жорстка адштурхоўваць уладарным ботам, замест таго, каб з міласэрным клопатам дапамагчы ёй узняцца? Дапамажы Вам, Магутны наш Божа, зразумець памылковасць, катастрафічнасць сваёй пазіцыі, дапамажы не ўпадаць у грэх, гэтае найстрашнейшае для чалавека ліха з немінучай расплатай; дапамажы ўсвядоміць, што на адным "ура" самому сабе, зазіраючы ўмільна ў вочы суседу, стоячы спіною да маці-радзімы, доўга не пратрымацца; як з раны кроў, абавязкова будзе прасочвацца здрада.

З павагай —

**Ларыса РАБЦЭВІЧ-БРАНАВІЦКАЯ**

*г. Мінск*

# ЧАРНОБЫЛЬ У КАРЦІНАХ І ЛІЧБАХ

## З НАГОДЫ АДНОЙ СУСТРЭЧЫ

На пярэднім плане на высокай трыбуне спінамі да гледача стаяць некалькі мажных мужчын у аднолькавых плашчах і капелюшах з узнятымі ў вітанні рукамі. У левым ніжнім кутку карціны — святочная калона дэманстрантаў з чырвонымі сцягамі і транспарантамі, гатовая рушыць перад трыбунай. Справа тая ж калона выходзіць з-за трыбуны ўжо з трунамі на плячах. Такая вось алегорыя. Называецца карціна: "Першамайская дэманстрацыя 1986 года" і пераносіць нас у першыя трагічна-змрочныя дні, што пачалі свой адлік пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Калі паспрабаваць у канцэнтраваным выглядзе неяк адлюстраваць увесь ідыятызм, крывадушнасць пануючых тады камуністычных улад, дык лепшага прыкладу, чым іх рашэнне вывесці 1 Мая (праз 5 дзён пасля выбуху на АЭС) народ на вуліцы, атручаныя міязмамі радыенуклідаў, адшукаць цяжка.



*Здымак, зроблены ў час сустрэчы — Я. КАНАПЛЯ, С. ДАВІДОВІЧ, І. КЕНІК.*

Аўтар гэтага палатна, як і ўсёй экспазіцыі, выстаўленай у той вечар у канферэнц-зале Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі і цалкам прысвечанай чарнобыльскай трагедыі, — Сяргей Давідовіч. Прозвішча, адзначым, у выяўленчым мастацтве пакуль што малавядомае, хоць бы па той прычыне, што Сяргей Фёдаравіч — не прафесійны мастак. Служыў у праваахоўных органах, цяпер — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, старшыня адной з парламенцкіх камісій, член Прэзідыума Вярхоўнага Савета.

Сустрэча з выставай карцін С. Давідовіча была для мяне нечаканай, бо ў запрашэнні, якое атрымала рэдакцыя, гаварылася толькі пра сустрэчу з міністрам па надзвычайных сітуацыях і абароне да наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС Іванам Кенікам і старшынёй Каардынацыйнага Савета па навуковых праблемах чарнобыльскай катастрофы акадэмікам Я. Канаплёй. Ды задуму арганізатараў сустрэчы, а найперш, відаць, старшыні прэзідыума Белтакса Арсеня Ваніцкага — спалучыць яе з дэманстрацыяй карцін С. Давідовіча — можна лічыць удалай. Удалай хоць бы ўжо таму, што сухая мова лічбаў, якой абавязкова аздабляецца кожны расказ аб чарнобыльскай бядзе, пачутых з вуснаў афіцыйных асоб, лічбаў, якія ад шматразовага паўтарэння губляюць сваю вастрыню, у гэты вечар успрымаліся інакш і, у першую чаргу, дзякуючы, відаць, таму, што былі праілюстраваны трагічнымі вобразамі, што паўставалі з карцін.

70 працэнтаў радыенуклідных выкідаў пасля аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі прыпалі на Беларусь, атруціўшы 46 тысяч квадратных кіламетраў, або 23 працэнты нашай тэрыторыі з колькасцю насельніцтва ў два мільёны чалавек. За гады, што сплылі пасля аварыі, з забруджаных радыенуклідамі раёнаў было адселена 149 тысяч чалавек. Паводле дзяржаўнай праграмы ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай аварыі пабудавана для адселенага насельніцтва 46 тысяч дамоў і кватэр, пабудавана школ на 33 тысячы месц і г. д. Паўсюдна наладжаны кантроль, што мае мэтай паставіць трывалы заслон распаўсюджанню забруджанай прадукцыі, і г. д. Гэта — з даклада Івана Альбінавіча Кеніка. Акадэмік Яўген Фёдаравіч Канапля, які выступіў за ім, больш гаварыў пра медыка-біялагічны аспект наступстваў атамнай катастрофы, пра ўклад у вывучэнне гэтай праблемы беларускіх вучоных, у прыватнасці, медыкаў і г. д.

Многае з таго, пра што апавядалі паважаныя дакладчыкі, успрымалася з цікавасцю, але, разам з тым, у нейкія моманты цяжка было пазбавіцца адчування, што яны кіруюцца аднойчы і назаўсёды знойдзенай схемай, у якой няма месца пошукам новых шляхоў і падыходаў у вырашэнні многіх складанейшых "чарнобыльскіх" праблем.

На просьбу вашага карэспандэнта пракаментаваць нядаўна зробленую ў Гомелі заяву віднага японскага медыка, што ён не лічыць поўнасцю даказанай залежнасць павелічэння колькасці захворванняў на рак шчытападобнай залозы ад чарнобыльскага выбуху, што тут могуць адыгрываць сваю ролю і іншыя фактары, якія трэба вывучаць, акадэмік Я. Канапля рашуча адказаў, што лічыць японскага калегу некампетэнтным у гэтым пытанні. Сцвярджэнне, хутчэй за ўсё, самаўпэўненае, калі мець на ўвазе асобу японскага медыка, узброенага хірасімскім вопытам.

Не сказаў І. Кенік, што не ўсё было да канца ўзважана складальнікамі дзяржаўнага плана ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай аварыі. Інакш чым яшчэ вытлумачыць, што некалькі пасёлкаў для "адсяленцаў" з чарнобыльскай зоны аказаліся пабудаванымі на забруджаных землях. І хто падлічыў, колькі мільёнаў рублёў было ў дадзеным выпадку кінута на вецер?

Тайнай палішынеля з'яўляецца і той факт, што тысячы жыхароў, адселеных у мінулыя гады з забруджанай зоны, вярнуліся ў свае вёскі, раджаюць тут дзяцей, трымаюць агароды, адным словам, ладзяць новае (старое) жыццё.

Можна з пэўным недаверам гаварыць і пра дэклараваную І. Кенікам надзейнасць радыелагічнага кантролю за прадуктамі харчавання, якая ажыццяўляецца ў рэспубліцы. Многія факты, у тым ліку і з допісаў нашых аўтараў у газету сведчаць, што тоны прадуктаў, асабліва на рынках, паступаюць да спажыўцоў без усялякай праверкі, ды і ў дзяржаўным гандлі кантроль за якасцю прадукцыі пакідае жадаць лепшага.

Вось такія думкі-асацыяцыі нараджаліся ў час аповядаў Івана Кеніка і Яўгена Канаплі. Хоць, з другога боку, ці маглі яны гаварыць пра ўсё шчыра ў прысутнасці запрошаных на сустрэчу паслоў некаторых замежных краін, па адрасе якіх дакладчыкі, між іншым, не скупіліся на пахвалы за аказаную гуманітарную і іншую дапамогу? Не прайшло міма ўвагі і тое, што ніводзін з дыпламатаў не задаў ім ніводнага пытання, нічым у іх не пацікавіўся. Твары іх выказвалі толькі халодную ветлівасць.

Добра, каб гэта было прадыктавана толькі дыпламатычным пратаколам.

**М. ЗАМСКІ**

# ПАЛІТЫКІ + ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ = КЛУБ

На нашых вачах ствараюцца і раскідваюцца партыі, аб'яднанні, альянсы... Усё такое рухомае, плыткае, няпэўнае, але не ад залішняй дынамікі руху, а, наадварот, ад запаволенасці яго, нявызначанасці курсу, няведання механізма, якім выпала кіраваць. Адны відныя фігуры адыходзяць у цень, чакаючы свайго часу, другія дзейнічаюць і рэгулярна напамінаюць аб сваім існаванні.

Адна з актыўных, перспектыўных у палітыцы асоб — Станіслаў Багданкевіч. З гэтым імем звязана ўтварэнне грамадскага аб'яднання, якое выбрала галоўнага банкіра сваім старшынёй. Яно займела назву "Нацыянальны клуб "Усход—Захад".

Ля вытокаў ініцыятывы — кіраўнік Цэнтра сацыялагічных даследаванняў "Усход—Захад—Поўнач—Поўдзень", вядомы палітолаг А. Майсеня, чые аналітычныя артыкулы не засталіся незаўважанымі грамадскасцю.

За круглым сталом блакітнай залы былога абкома, а зараз штаб-кватэры СНД сабралася тры дзесяткі ўплывовых людзей рэспублікі: прадпрымальнікі, прамыслоўцы, банкіры, палітыкі. Назавём фірмы і канцэрны, чые прадстаўнікі адгукнуліся на запрашэнне аргкамітэта. Гэта "Атлант-М", "Амкадор", "Дайнова", "Інтэкс", "Нов и К", "Рампа", "Пушэ", "Энергія", "Белтрансгаз" і іншыя. Ад выканаўчай улады — М. Мясніковіч, У. Сянько, М. Марыніч, А. Дубко, Л. Сініцын, У. Ярмошын. Такім чынам, перад намі спроба збліжэння камерцыйных і дзяржаўных чынікаў, інспіраваная людзьмі палітыкі.

Павестка ўстаноўчага сходу прадугледжвала абмеркаванне і прыняцце статута, выбары савета, дысцыплінарнага камітэта (прыём і выключэнне) і рэвізійнай камісіі. Большасць з прысутных удзельнічала моўчкі. Рэй вялі В. Ганчар і А. Майсеня, а з прадпрымальнікаў — А. Хусаінаў ("Атлант-М") і А. Палюховіч ("Дайнова"). Актыўнічалі І. Каратчэня і М. Мясніковіч. У прыватнасці, І. Каратчэня выказаў сумненне наконт назвы клуба "Усход—Захад", але прапанаваныя варыянты не прайшлі, перамагла, як заўсёды, маўклівая большасць. Гучалі жарты адносна "дысцыплінарнага камітэта" — ці не былая гэта "парткамісія"? Альтэрнатывы, аднак, не знайшлося, пастанавілі падумаць.

Цікава, што ніхто не спрачаўся наконт гучнага вызначэння "Нацыянальны клуб", якое было патлумачана як удзел у аб'яднанні асоб з беларускім грамадзянствам.

Галоўныя заўвагі тычыліся канцэпцыі, недастаткова, мабыць, прадуманай: дык эканамічнай ці палітычнай дзейнасцю будзе займацца клуб? Ад палітыкі арганізатары дружна адхрысціліся. У зручныя моманты выказваліся лаяльнасць прэзідэнту (з паглядамі ў бок прысутнага Сініцына), хаця прадугледжаны зварот да прэзідэнта быў адхілены. Адна з рэплік падалася сімптаматычнай: "Элітарныя клубы існуюць па сто гадоў, а прэзідэнты прыходзяць і адыходзяць".

Наконт магчымых "ста гадоў" і ўвогуле жыццяздольнасці грамадскага новаўтварэння ў мяне асабіста вялікія сумненні. Занадта розныя і рознаскіраваныя людзі сабраліся за круглым сталом: маладыя нуворышы з кіслымі мінамі, задубелыя функцыянеры, удачлівыя кар'ерысты з "новых" і тыя, ад каго часова адвярнулася ўдача... Вы скажаце, што цяжкія часы аб'ядноўваюць і больш стракатую публіку (у гісторыі процьма таму прыкладаў), але на "камітэт нацыянальнага выратавання" гэты клуб падобен мала. Можна было падумаць, што тут сабраліся вярхі эканамічна стабільнай, нават працвітаючай краіны, якім толькі кантактаў і не хапае. Пра эканамічны заняпад усе маўчалі, як маўчаць пра вяроўку ў доме вісельніка. Слова "рэформа" не згадвалася ўвогуле. Не адчувалася нейкага жывога нерва, нейкай яднаючай ідэі ці хаця б агульнага інтарэсу, дзеля якога варта было б гуртавацца. Ці ўсё-такі інтарэс нейкі ёсць? Здавалася, што некаторыя прыйшлі сюды нехаця, не ведаючы, што ўвогуле атрымаецца з гэтай задумы. Штосьці нявыказанае лунала ў прыгожай высокай зале з пілястрамі. Значыць, не час выказвацца...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

# БЕНЕФІС МАЙСТРА



Падзеяй у культурным жыцці Мінска стаўся бенефіс народнага артыста СССР Расціслава Янкоўскага, што адбыўся 5 лютага ў Рускім драматычным тэатры імя Горкага.

За 45 гадоў творчай працы ў тэатры Расціслаў Іванавіч стварыў на сцэне дзесяткі і дзесяткі роляў, сярод якіх і гістарычныя асобы, і нашы сучаснікі.

Павіншаваць майстра сабралася амаль уся дынастыя Янкоўскіх. Бенефіс Расціслава Іванавіча стаў прызнаннем яму ў любові тысяч аматараў яго таленту.

*На здымку: віншаванні прыхільнікаў.*

*Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАРМ*

Анонс

# ТРЫ ВЕЧАРЫ З АГІНСКІМ

Нацыянальнае тэатральна-канцэртнае аб'яднанне "Беларуская Капэла" зноў ладзіць фэст. На гэты раз тры фестывальныя вечары прысвячаюцца музыцы "гордага сваім паходжаннем ліцвіна" — Міхала Клеафаса Агінскага. 14 лютага — адкрыццё: у Вялікай зале філармоніі адбудзецца прэм'ера балета "Паланез" у выкананні навучэнцаў Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага вучылішча (пастаноўка Л. Сінельнікавай). 16-га ў Зале камернай музыкі — праграма вакальных твораў, якія ці не ўсе ўпершыню прагучаць у Мінску. А яшчэ праз дзень у гэтай самай зале, што на Залатой Горцы, будзе іграць Ігар Алоўнікаў, які прадставіць клавірную музыку М. Кл. Агінскага на трох інструментах: раялі, клавесіне ды аргане.

**Н. К.**

# "А ЧЫТАЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ ЁН УМЕЕ..."

ПРАГУЧАЛА З ПАРЛАМЕНЦКАЙ ТРЫБУНЫ

Я хацеў бы адзначыць, што днямі споўнілася 5 гадоў, як уступіў у сілу Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь. Ад імя Таварыства беларускай мовы хацеў бы павіншаваць з гэтай падзеяй усіх прысутных у зале і выказаць вялікую падзяку тым дэпутатам Вярхоўнага Савета, якія карыстаюцца ў сваіх выступах дзяржаўнай мовай і, перш-наперш, Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета спадару Грыбу. Я лічу, што спадар Грыб у гэты нялёгкі час, калі ідуць масіраваныя хвалі цкавання ўсяго беларускага, заняў адмысловую грамадзянскую пазіцыю.

Я раіў бы ўзяць прыклад у гэтым са спадара Грыба спадару Прэзідэнту А. Лукашэнку і спадару Старшыні Кабінета Міністраў М. Чыгіру.

Я звяртаюся да дэпутатаў Вярхоўнага Савета з просьбай падтрымаць маю папраўку ў Закон аб Прэзідэнце, якую чамусьці адхіліў спадар Леўчык і якая ўтрымлівала наступнае патрабаванне: "Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь усе свае афіцыйныя выказванні па радыё, тэлебачанні, у прэсе, перад грамадзянамі Рэспублікі Беларусь рабіць на дзяржаўнай мове". Калі спадар прэзідэнт не здольны гэтага робіць, то хай возьме сабе пісьменнага саветніка, які будзе пісаць яму гэтыя тэксты. А чытаць па-беларуску ён умее, і ў гэтым мы не раз пераконваліся. Тое самае я хацеў бы параіць спадару Чыгіру. Шаноўны спадар Чыгір! Калі вы сустракаецеся з беларускай эміграцыяй за межамі краіны, вы цудоўна гаворыце па-беларуску і нават апладысменты зрываеце. Пара гэта ўжо рабіць і перад уласным народам ва ўласнай дзяржаве.

Таксама я хацеў бы зрабіць запыт новаму рэдактару газеты "Рэспубліка". Вось перада мной учарашні нумар гэтай газеты, тут па-беларуску толькі назва і маленькі матэрыяльчык. Я хацеў бы пажадаць спадару рэдактару поспехаў у працы на новай пасадзе і ўсё ж такі не забываць, што гэта газета, як мінімум, павінна на 50 працэнтаў выходзіць на дзяржаўнай мове.

У гэтай газеце ўчора з вялікім артыкулам выступіў вядомы беларускі тэатральны дзеяч Барыс Луцэнка — дарэчы, адзін з кіраўнікоў новай Грамадзянскай партыі. Палову свайго артыкула ён прысвяціў крытыцы культурнай і моўнай палітыкі БНФ. Я хацеў бы сказаць яму: шаноўны спадар Луцэнка, пакіньце свае погляды камуністам, сацыялістам і Славянскаму сабору. Не адбірайце ў іх хлеб і не зарабляйце палітычны капітал на крытыцы беларускай мовы.

**А. ТРУСАЎ,**
**народны дэпутат**
**Рэспублікі Беларусь**

Рэпліка

# УСЕ АНЯМЕЛА МАЎЧАЛІ...

Нядаўна ў Гомелі, праводзячы сваю "вертыкаль" улады, наш прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка заявіў перад тэлекамерай (гэта чулі тысячы гледачоў), што, быццам, людзі, якія гавораць па-беларуску — здатныя толькі гаварыць, але не рабіць што-небудзь значнае. Усе змаўчалі, сцярпелі гэтую нацыянальную абразу. А трэцяга лютага, у будынку былога ЦК КПБ на прэс-канферэнцыі, у прысутнасці прадстаўніка расійскага парламента Івана Рыбкіна, Аляксандр Рыгоравіч сказаў, што суверэнітэт нікому непатрэбны на Беларусі — суверэнітэт абвешчаны Вярхоўным Саветам рэспублікі. Слухачы зноў змаўчалі. Працягваючы логіку чалавека, абранага прадстаўляць беларускі народ, можна спытаць: "А ці патрэбны тады прэзідэнт, хоць бы які?.."

Уся гэтая сітуацыя мне нечым нагадвае вядомую казку славутага Андэрсена, у якой легкаверны кароль (легкаверны, ці, можа, у яго трохі з'ехаў дах набакір) паверыў сваім краўцам, што яны апранулі яго ў незвычайную вопратку, пашытую з цудоўнай тканіны, якая нікому не бачная. І кароль сігануў на людзі.... зусім голы. Усе анямела маўчалі. Але малы хлопчык закрычаў:

— А кароль жа голы!..

Шкада, што ў нас не ўсюды ёсць такія праўдзівыя, смелыя хлопчыкі.

**Аляксей РУСЕЦКІ**

# КУРС "ЗАЙЦА": СТАБІЛІЗАЦЫЯ АБО ПРЫЦЯГВАННЕ ЗА ВУШЫ?

ЭКСПРЭС-КАМЕНТАРЫЙ

Вось ужо амаль месяц, як долар і яго менш папулярныя "браты" прыпынілі сваё пераможнае і досыць легітымнае шэсце па тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Нягледзячы на крытычную ў цэлым ацэнку дзеянняў Нацбанка на дадзеным адрэзку часу, меру па ўтаймаванні СКВ трэба прызнаць даволі разумнай, хоць і крыху запозненай. Але звернемся да гісторыі пытання.

Да таго, як цяперашні Кабінет у канцы 1994 года ўзяўся за валютнае рэгуляванне, усё было нашмат прасцей. Іншымі словамі, захоўвалася шматгадовая практыка нашага грашовага абароту, якая выцякае, дарэчы, не з "рэакцыйнасці" папярэднікаў, а з самой структуры грашовай масы і абароту — безнаяўны "заяц" таннейшы за наяўны, як напрамую, так і праз долар.

У ходзе рэфармавання ў процілеглы бок з'явілася іншая схема: — танней (і нават больш прыбыткова) "обналичить" "зайцаў" праз долар, чым проста зняць іх з рахунка ў банку (заплаціўшы, дарэчы, нехай не ўсе, але хоць нейкія бюджэтныя падаткі).

Выглядае аперацыя так: купіў за "безнал" безнаяўны ж долар на біржы, перавёў яго на афшор, "обналичил" там без праблем і прадаў у Беларусі ці Расіі за наяўныя. Прыбытак ад такіх аперацый даходзіў не так даўно да 15 працэнтаў, як кажуць, на рукі.

Бяда не ў тым, што экспартную выручку стала выгадна пакідаць за мяжой (так было заўсёды), і нават прывезеную не часткі — пераганяць за мяжу. Бяда ў іншым — парушэнне "кансерватыўнай" практыкі, натуральна, у сукупнасці з крызісам неплацяжоў прывяло да павышанай патрэбнасці абароту ў наяўных "зайцах", паступовага "обналичивания" грашовай масы, і, адпаведна, павелічэння "неучтенки" — абароту, свабоднага ад падаткаабкладання.

Відаць, Нацбанку і ўраду значна цяжэй змагацца з такой небяспечнай інфляцыйнай тэндэнцыяй, як павышэнне долі наяўных грошай у структуры сукупнай грашовай масы, калі працэс "обналички" вельмі танны. Ва ўсякім разе, пры сярэдніх тэрмінах праходжання плацяжу ў адзін тыдзень і тыднёвых тэмпах інфляцыі ў 10—15 працэнтаў проста "па жыцці" выгадней заплаціць 6—8 працэнтаў банку за выдачу "нала" і ажыццявіць плацяжы дзень у дзень.

Аднак аб'яўленыя Нацбанкам рашэнні аб абмежаванні свабоднага хаджэння інвалют у Беларусі заслужылі і досыць пазітыўную службу. Валютны рынак трапіў у стан часовай раўнавагі. Асаблівасцю апошніх дзён стала збліжэнне ўзроўняў першапачатковага попыту і прапановы, з аднаго боку, і супадзенне канчатковых аб'ёмаў продажаў з пачатковым аб'ёмам заявак на продаж валюты — з другога.

Відаць, гэты вынік дасягаецца дзякуючы растучаму прафесіяналізму Нацыянальнага банка, які імкнецца захаваць адносную раўнавагу на рынку. Такая праграма Нацбанка, падбадзёранага да таго ж цёплымі наказамі прэзідэнта, можа быць апраўдана, у прыватнасці, неабходнасцю забяспечыць спакойнае развіццё падзей на валютнай біржы на фоне агульных эканамічных правалаў.

Разам з тым, у захаванні адноснай устойлівасці курсу могуць быць зацікаўлены і самі камерцыйныя банкі. Набліжэнне даты падвядзення гадавых балансаў прымушае іх сканцэнтраваць асноўную ўвагу на ўнутраных арганізацыйна-фінансавых праблемах і часова адысці ад актыўных аперацый на біржы.

Больш таго, павышаная дэфіцытнасць рублёвых рэсурсаў, характэрная для заканчэння фінансавага года, вымушае банкі пераводзіць валютныя актывы ў рублёвыя, а стабільны курс долара для гэтага вельмі дарэчы.

Такім чынам, становішча, якое часова ўсталявалася на біржавым валютным рынку, у нейкай ступені задавальняе ўсіх яго ўдзельнікаў, і, відаць, у бліжэйшы час ніхто з іх не будзе прадпрымаць сур'ёзных спроб вывесці курс долара з адносна ўраўнаважанага стану.

Падсумоўваючы сказанае, можна заўважыць, што Нацбанк ўшчыльную заняўся адной са сваіх асноўных задач — упарадкаваннем нацыянальнай валюты. І ўсё ж валютны кантроль можа мець толькі абмежаванае значэнне, хоць і захоўвае яго перавагі, звязаныя з раўнавагай валютнага рынку і раўнавагай знешніх плацяжоў. Аднак гэтыя перавагі часовыя, а з пункту погляду эканамічнага валютны кантроль уяўляе сур'ёзныя нязручнасці.

Дастаткова сказаць, што ў былых "валютках" абменны курс "зайца" мінімум на 10% заніжаны нават у адносінах да біржавога. І ўвогуле, як кожная рэгламентацыя і любое абмежаванне, празмерны валютны кантроль не садзейнічае гандлю з замежнымі краінамі, заахвочваючы тэндэнцыі да пратэкцыянізму, да замыкання ў сабе.

Такім чынам, больш жорсткі валютны кантроль у Рэспубліцы Беларусь можа разглядацца толькі як адна з мер, якія дазваляюць спраўляцца з эканамічным крызісам.

**Аляксандр МАМЕТАЎ,**
**эканамічны аглядальнік**
**"ЛіМа"**

# ЗАКОН АБ МОВАХ — ЗАКОН ДЛЯ ЎСІХ!

***31 студзеня ў Доме літаратара адбыўся "круглы стол" з нагоды 5-й гадавіны прыняцця Закона "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь". Удзельнікі пасяджэння прынялі заяву, у якой гаворыцца:***

"У выніку аналізу стану ажыццяўлення палажэнняў арт. 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і Закона аб мовах, праведзенага за "круглым сталом" Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны і Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, пры ўдзеле адказных работнікаў шэрагу органаў дзяржаўнага кіравання, актывістаў грамадска-культурных арганізацый Беларусі, канстатуецца наступнае:

— Нягледзячы на тое, што закон уступіў у сілу яшчэ 1 верасня 1990 г. многія палажэнні згаданага закона не выкананы ў маштабе краіны ў выніку яго ігнаравання многімі адказнымі работнікамі дзяржаўных і недзяржаўных структур. Адзначанае датычыцца арт. 11, 27, 28, 29, 31, 32, 35, якія павінны былі цалкам выкананы больш як год назад, а таксама арт. 4, 7, 12 — 8, 10, 13, 14, 23, на ажыццяўленне якіх адведзены тэрмін ад 3 да 5 гадоў. Многія дзяржаўныя служачыя нават не азнаёмлены са зместам Закона аб мовах і працягваюць спасылацца на нібыта ўстаноўлены для ажыццяўлення ўсіх яго палажэнняў тэрмін у 10 гадоў.

Асабліва ўзмацніліся тэндэнцыі да прававога нігілізму ў галіне моўна-культурнага заканадаўства пасля публічных выступленняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з крытыкай палажэнняў Закона аб мовах і антыканстытуцыйнымі заклікамі вярнуцца для так званага "двухмоўя" — за гэтым, як вядома, заўсёды было прыхавана імкненне канчаткова вывесці беларускую мову з грамадска-дзяржаўнага ўжытку ў краіне. Далёка не ў поўнай ступені выконваюць свае абавязкі па нагляду за ажыццяўленнем заканадаўства ў дачыненні да Закона аб мовах і органы пракуратуры рэспублікі.

У шэрагу сродкаў масавай інфармацыі, у тым ліку і дзяржаўных, у недапушчальных для цывілізаванага грамадства формах аспрэчваецца права народа Беларусі на прыярытэтнае становішча беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай у краіне, а разам і яго права на сваю ўласную нацыянальную дзяржаўную сімволіку і саму дзяржаўнасць.

Нярэдка пры садзейнічанні тых высокіх службовых асоб краіны, якія непрыхільна ставяцца да беларускай мовы і канстытуцыйнага ладу незалежнай Беларусі, а таксама пры падтрымцы замежных арганізацый, якія адмаўляюць народу Беларусі ў праве на дзяржаўнасць і на сваю мову ў рэспубліцы, працягваюць адкрыта дзейнічаць разнастайныя экстрэмісцка-антыбеларускія грамадскія ўтварэнні.

У выніку вышэйадзначанага грамадзянам краіны, незалежнай Рэспубліцы Беларусь наносяцца вялікія сацыяльна-палітычныя і маральныя страты, штучна стрымліваецца развіццё нацыянальнай культуры, пашырэнне ў грамадска-дзяржаўным ужытку беларускай мовы.

У гэтай сувязі вышэйшым органам улады і кіравання Рэспублікі Беларусь, у шэрагу іншых неадкладных захадаў, накіраваных на выкананне канкрэтных палажэнняў Закона аб мовах, прапануецца ажыццявіць наступныя меры:

1. Вызначыць у органах дзяржаўнай улады і кіравання службовых асоб, адказных за ўсебаковае выкананне палажэнняў Закона аб мовах, іншых нарматыўных актаў, прынятых у краіне з мэтай пашырэння ў грамадска-дзяржаўным ужытку беларускай мовы і моваў нацыянальных супольнасцей Беларусі і надзяліць іх неабходнымі паўнамоцтвамі дзеля выканання адпаведных службовых абавязкаў.

2. Звярнуцца да Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь з прапановай правесці калегію, на якой дэталёва абмеркаваць стан выканання Закона аб мовах і прыняць неабходныя рашэнні, якія здольны прадухіліць прававы нігілізм службовых асоб краіны розных рангаў у дачыненні да моўна-культурнага заканадаўства і якія забяспечвалі б яго тэрміновае і поўнае ажыццяўленне.

3. Увесці ў практыку дзейнасці органаў улады і кіравання краіны на час, адведзены на ажыццяўленне Закона аб мовах, справаздачнасць у межах кампетэнцыі адносна стану яго выканання перад вышэйстаячымі дзяржаўнымі структурамі, у тым ліку і адпаведнымі камісіямі выбарных органаў прадстаўнічай улады і самакіравання.

4. Звярнуцца да праваахоўных органаў краіны з просьбай прыняць у адпаведнасці з дзейным заканадаўствам вычарпальныя меры па недапушчэнні антыканстытуцыйнай, антызаконнай дзейнасці тых грамадскіх структур, якія, прыкрываючыся лжывымі лозунгамі забеспячэння правоў той ці іншай нацыянальнай меншасці, сталі на шлях знішчэння беларускай дзяржаўнасці, яе атрыбутаў і абмежавання правоў беларускай мовы.

5. Звярнуцца да дзяржаўных і недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі краіны з просьбай гранічна далікатна асвятляць пытанні, звязаныя з дачыненнямі нацыянальных супольнасцей Беларусі, узаемадзеяннем іх моў і культур, а таксама з павагай і з пачуццём належнага грамадзянскага абавязку перад Бацькаўшчынай адлюстроўваць працэсы нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі, пашырэння ў грамадска-дзяржаўным ужытку беларускай мовы".

Адгалоскі

# НЕ РАТУЮЦЬ, А ГУБЯЦЬ

Два матэрыялы, што цалкам занялі пятую старонку "ЛіМа" за 20 студзеня — гутарка з міністрам культуры і друку А. Бутэвічам і пісьмо чытачкі газеты Галіны Г., — безумоўна заслугоўваюць увагі грамадскасці. Першы спакойна распавядае пра атэстацыю кадраў ведамства, якім ён кіруе, а другая ці не са слязамі на вачах піша пра дзікія выпадкі ў Мінску, звязаныя з ужываннем роднай мовы. Тэматыка тут бясспрэчна розная, але ў карэспандэнцыі ставяцца моўныя пытанні, якія, упэўнены, нельга было не закрануць, няхай і ў іншай плоскасці, гаворачы пра кваліфікацыю адказных работнікаў культуры, выдавецтваў, кніжнага гандлю... Таму, даруйце, водгук мой — адразу на абедзве публікацыі.

На жаль, у інтэрв'ю, дзе ўзнімаюцца і праблемы, слова "мова" нават не нагадваецца. Стаў думаць — чаму? Што, у сферы культуры зусім няма ніякіх балючых пытанняў, цяжкасцей з выкананнем моўнага закона? Можа, вось-вось здзейсняцца вядомыя палажэнні 4-га і 8-га артыкулаў (апошні тэрмін іх паступовага ўвядзення ў дзеянне заканчваецца 1 верасня) або ўжо паўтара года на ўсю катушку працуе 28-ы ? На мой розум, нам яшчэ далёка да таго часу, калі запануе родная мова ў нацыянальнай культуры, калі ўсе чыноўнікі і творчыя работнікі галіны будуць шанаваць матчына слова.

Згодзен з паважаным Анатолем Іванавічам, што галоўнае — увага да людзей. Але дзе яшчэ, калі не на пасяджэнні калегіі, прысвечанай атэстацыі, знайсці больш зручны выпадак, каб тактоўна спагнаць з даўжніка "штраф", а таго, хто канчаткова падарваў свой крэдыт, мо ўзяць за вушка дый асцярожна выставіць на сонейка? Бо нежаданне ці няздольнасць кіраўніка вывучыць дзяржаўную мову — гэта элемент той жа запушчанасці спраў, якая з'явілася падставай для таго, каб сяму-таму адмовіць у заключэнні працоўнага кантракта. Балазе, сам міністр, у адрозненне ад пераважнай большасці сваіх калег, добра валодае роднай мовай, прылюдна выступае і размаўляе на ёй. І, мяркую, не лічыць моўнае пытанне другарадным.

Ну, а на правядзенне атэстацыі і — адпаведна — на змест гутаркі, відаць, паўплывалі абставіны, што склаліся апошнім часам на Беларусі. Сумнавядомыя выступленні прэзідэнта высветлілі яго рэзка адмоўнае стаўленне да нацыянальнага Адраджэння, паслужылі штуршком для разгортвання агрэсіўных дзеянняў антыбеларускіх сіл, якіх хапае і ва ўладных структурах. Як тут не зрабіць выснову, што мова не закранала ся ў інтэрв'ю і, хутчэй за ўсё, на калегіі, каб не дражніць гусей?

Толькі ці будзе карысць ад вельмі далікатных адносін да тых, хто зневажае беларускую мову, парушае заканадаўства і Канстытуцыю краіны? Лічу, што не. З глыбіні стагоддзяў прыйшло выслоўе: як гукнеш, так і адгукнецца. Не, я не заклікаю падкідваць дроўцаў у агонь. Аднак жа, калі сёння, як слушна піша Галіна Г., робіцца небяспечна гаварыць па-беларуску, дык што, дадам ад сябе, чакае нас, надта ветлівых і памяркоўных, заўтра? Поўнасцю падзяляю погляды чытачкі "ЛіМа" і патрабую ад улад зрабіць захады супраць разгулу "жывёльнага шавінізму". Дарэчы, мне самому прыходзілася сутыкацца з яго праявамі не толькі з боку цывільных, але і вайскоўцаў (сам я былы афіцэр). Аднойчы падчас размовы ў гарнізоннай паліклініцы, дзе мы чакалі ўрачэбнага прыёму, нейкаму падпалкоўніку не спадабалася працытаванае мной вядомае выказванне Адама Міцкевіча пра беларускую мову. Не знайшоўшы пераканаўчых слоў для адказу, ён нечакана падскочыў да мяне са сціснутымі кулакамі. Праўда, пусціць іх у ход не ўдалося: мой сусед паспеў адвесці рукі ваякі...

Не выклікае ніякага сумнення духоўная блізкасць сучасных шавіністаў-"звышінтэрнацыяналістаў" са Сталіным. Дык вось, нават вусаты, праўда, яшчэ на пачатку сваёй крывавай кар'еры, калі яшчэ не быў "отцом всех народов" і не называў сябе ў трэцяй асобе, — нават ён гаварыў у 1921 годзе: "Существует белорусская национальность, у которой имеется свой язык, отличный от русского, ввиду чего поднять культуру белорусского народа можно лишь на родном его языке" [са стэнаграфічнай справаздачы X з'езда РКП(б)]. Агульнавядома: бальшавікі заўсёды казалі адно, а рабілі другое. І ўсё ж у 20-я гады апарат, што кіраваў культурным будаўніцтвам у рэспубліцы, як і яе вышэйшыя органы дзяржаўнай улады, быў поўнасцю беларусізаваны. Прыхільнасць да мовы карэннай нацыі і яе культуры лічылася справай гонару.

Нават на пачатку 30-х гадоў (тады ўжо ішла кампанія па "выкрыцці" нацдэмаў) не дужа ўтульна адчуваў сябе, калі дрэнна ведаў беларускую мову, не толькі кіраўнік якой-небудзь установы культуры, але, напрыклад, і адказны работнік свінаводтрэста. Я сам, тады яшчэ дашкольнік, быў сведкам таго, як наш кватарант, які прыехаў з Падмаскоўя і працаваў у згаданым трэсце, пацеў над падручнікам беларускай мовы. А пасля здачы іспытаў з радасці купіў мне рэдкую для таго часу механічную цацку (пэўна, таму і запомніўся мне добра гэты даўні эпізод).

Ніякавата робіцца і ад такой паралелі. Калі ў нас не было ўласнай арміі (і не мроілася аб гэтым), дык у Смаленску, дзе знаходзіўся штаб Беларускай ваеннай акругі, некалькі гадоў (1928—1935) выходзіла газета на беларускай мове "Чырвонаармейская праўда". Яна не дубліравала асноўнае выданне — рускамоўную "Красноармейскую правду" і, мяркуючы па некалькіх нумарах, якія захоўваюцца ў мяне, адрознівалася нацыянальным каларытам. Цяпер жа, калі ў нас ёсць свае Узброеныя Сілы, публікацый на роднай мове ў адзінай вайсковай газеце Беларусі "Во славу Родины" амаль няма (гады два-тры таму такія публікацыі з'яўляліся больш-менш рэгулярна). І гэта нягледзячы на тое, што ў пасведчанні, выданым рэдакцыі Міністэрствам інфармацыі (зараз — культуры і друку), запісана: газета выдаецца на дзвюх мовах — беларускай і рускай. ("Во славу Родины", заўважу ў дужках, не адчувае сябе самотна: тое ж робяць шматлікія іншыя выданні розных тыпаў і прызначэнняў).

Дагэтуль на "великом и могучем" дзеячы культуры "пастаўляюць" у маладое войска песні, а выдаўцы — літаратуру. Матчына слова не ўчуць ні ў салдацкай казарме, ні на плацы, ні на палявых занятках. І няма гарантый, што пасля службы сёй-той з нашых беларускіх хлопцаў не папоўніць рады манкуртаў, не прыгрозіць той жа Галіне Г.: "Говори на человеческом языке".

Каб спыніць новую хвалю русіфікацыі Бацькаўшчыны, патрэбны агульныя намаганні, у тым ліку і Міністэрства культуры і друку. Вось нядаўна яно звярнулася з заклікам да журналістаў няўхільна выконваць закон, які з 1 студзеня забараняе рэкламу алкагольных напіткаў і тытунёвых вырабаў ва ўсіх сродках масавай інфармацыі. Гэта добра, але чаму тое ж міністэрства не патрабуе ад рэдакцый тых жа газет цвёрда трымацца яшчэ аднаго закона — моўнага, пяцігоддзе якога адзначалася якраз у дні, калі быў абнародаваны згаданы зварот?

... Ёсць паданне аб тым, што аднойчы гусі сваім гагатаннем пабудзілі варту і тым самым выратавалі Рым ад нашэсця ворага. Нашы "гусі", калі мы не будзем бараніць сваю мову і культуру ўсімі магчымымі сродкамі, пагубяць не толькі іх, але і беларускую нацыю.

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ**

## "ГЭТА — МАЁ КРОЎНАЕ..."

**На жаль, не надта радуе цяпер выдавецтва "Беларусь" альбомамі чытачоў. Калі не так даўно іх штогод набіралася добры дзесятак, а то і болей, дык цяпер у лепшым выпадку адзінкі. Што ж, фінансавыя цяжкасці. І тут нічога не зробіш. І на звычайных кнігах выдавецтва церпіць вялікія страты, а што ўжо казаць пра альбомы. Тым не менш, нешта робіцца. Прынамсі, задавальненне многім ужо прынёс фотаальбом "Беларусь" (тэкст пададзены на беларускай і англійскай мовах, аўтар яго М. Гілевіч, пераклад на англійскую У. Чарнышова, фота В. Ганчарэнкі, В. Ждановіча, Г. Ліхтаровіча і іншых).**

**Не проста чарговы альбом атрымаўся, а прызнанне ў любові да Бацькаўшчыны. Дарэчы, пра гэта гаворыцца і ў прадмове: "Паспрабуйце самі адказаць на просценькае, здавалася б, пытанне — за што, чаму я люблю сваю краіну? — І вы сутыкняцеся з невырашальнай праблемай.**

**Наўрад ці хто здолее адказаць.**

**Наўрад ці хто здолее зразумець.**

**І ніхто не здолее растлумачыць ні асаблівую чысціню роднага неба, ні асаблівы смак роднага паветра, ні асаблівую мяккасць роднай зямелькі, ні асаблівую прыгажосць роднага чалавека. Мы толькі зможам сказаць: гэта — маё кроўнае, жывое, адзінае. Гэта тое, што дадзена мне Богам і толькі Богам можа быць забранае".**

**Прэзентацыя альбома "Беларусь" прайшла ў рамках штомесячнай выстаўкі кнігі, што рэгулярна праводзіцца Міністэрствам культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Перад прысутнымі выступілі дырэктар выдавецтва "Беларусь" М. Кавалеўскі, галоўны рэдактар выдавецтва Л. Законнікава, мастакі Г. Мацур і А. Кулажэнка.**

## УАЙЛЬД У "ЛЯЛЬЦЫ"

**Беларускі тэатр "Лялька" запрасіў юных і дарослых гледачоў Віцебска на прэм'еру спектакля "Хлопчык-зорка" паводле казкі выдатнага ангельскага пісьменніка мяжы 19—20 стагоддзяў Аскара Уайльда (пераклад на беларускую мову — Уладзіміра Сіўчыкава). Хрысціянска-маралізатарская дыдактыка літаратурнай першакрыніцы сталася ідэйным грунтам новай пастаноўкі. Кожнаму з нас наканавана несці свой крыж, ды што і ёсць наша жыццё як не бясконцы ланцуг выпрабаванняў — магчыма, гэтымі пытаннямі задаваліся рэжысёр-пастаноўшчык спектакля Віктар Клімчук, сцэнограф Алесь Сідараў, кампазітар Алег Залётнеў, артысты Таццяна Атарава, Ларыса Мартынава, Вольга Корзун, Святлана Лунёва, Вольга Маханькова, Ганна Кір'янава, Юрась Сяменчанка, Алег Рыхтар ды Уладзімір Бубякоў.**

**Новая пастаноўка добра ўпісваецца ў агульны кірунак эстэтычных пошукаў "Лялькі" (маю на ўвазе спалучэнне стылёвай вытанчанасці, нават эстэцтва з традыцыйным псіхалагізмам абразцоўскага ўзору). І разам з тым сваёй мастацкай выбітнасцю значна адрозніваецца ад папярэдніх спектакляў тэатра.**

Юрась ІВАНОЎСКІ

## НА БУЙНІЦКІМ ПОЛІ



**Напярэдадні 50-годдзя Вялікай Перамогі на Буйніцкім полі пад Магілёвам пачата ўзвядзенне мемарыяла абаронцам горада. Дагэтуль памяць іх увекавечваў толькі камень, на якім былі высечаны час бітваў і нумары воінскіх падраздзяленняў, што змагаліся тут у 1941 годзе.**

**Творчы калектыў архітэктараў абласнога цэнтра пад кіраўніцтвам Уладзіміра Чаленкі стварыў праект мемарыяла, у якім пяць архітэктурных элементаў — капліца, звон памяці, вёска, возера "Слёзы мацярок", алея Сіманава.**

Сяргей ХАЛАДЗІЛІН, БЕЛІНФАРМ

*Фота аўтара*

# ЯГО ВЯЛІКАСЦЬ АРХІЎНЫ ДАКУМЕНТ

САСТАРШЫНЁЙ ДЗЯРЖАЎНАГА КАМІТЭТА ПА АРХІВАХ І СПРАВАВОДСТВЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ А. МІХАЛЬЧАНКАМ ГУТАРЫЦЬ КАРЭСПАНДЭНТ "ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА" М. ЗАМСКІ.

**М. ЗАМСКІ: — У чалавека маладасведчанага пры слове архіў перад вачыма адразу паўстае такі "відэарад" — змрочнае, ці не паўпадвальнае памяшканне, пад самую столь застаўленае паліцамі з шэрымі ад пылу папкамі. Ну і, вядома, абавязковая мясцовая "фауна" — пацукі, для якіх папера — найлепшы пачастунак. Ці не адсюль з'явіўся на абывацельскім узроўні і зняважлівы выраз "архіўны пацук", але ўжо пра чалавека, які тут працуе...**

**А. МІХАЛЬЧАНКА:** — Што ж, сапраўды, пыл і пацукі — сур'ёзныя ворагі кожнага архіва. Але скажу адразу — з гэтай праблемай мы спраўляемся досыць паспяхова. Усе нашыя сховішчы рэгулярна апрацоўваюцца пыласосамі, што ж тычыцца пацукоў, дык за апошнія гады ў нас не было ніводнага выпадку пашкоджання дакументаў грызунамі.

**— Прабачце, што з такіх дробязей я пачаў нашу гутарку. Але зараз давайце ўзаб'ёмся на больш важкае. Што сёння ўяўляе сабой архіўная гаспадарка рэспублікі?**

— Гэта шэсць абласных архіваў з іх філіяламі — кожны на 5—6 раёнаў. У сталіцы ж знаходзіцца Беларускі дзяржаўны архіў, Нацыянальны архіў, створаны на базе былога гістарычнага архіва і партархіва ЦК КПБ, а таксама архіў-музей літаратуры і мастацтва і архіў кінафотадакументаў (у Дзяржынску). У нашай сістэме працуе навукова-даследчы цэнтр дакументавядзення, архіяграфіі і архіўнай справы.

**— Цэнтр адыгрывае ролю своеасаблівага лоцмана ў архіўным моры?**

— Амаль. Я вам назаву такую лічбу: штогод у нашай краіне ствараецца каля 5 мільярдаў дзелавых папер. Што з іх трэба пакінуць на захаванне, што пусціць у макулатуру — рэгулюецца распрацаванымі НДЦ інструкцыямі і методыкамі, якія вызначаюць правілы руху папер. Я не кажу ўжо пра тое, што кожны больш-менш важны архіўны дакумент трэба ўвесці ў навуковы зварот, даць яму ацэнку і г. д.

А наогул я б ахарактарызаваў архіўную галіну як комплекс арганізацый і ўстаноў, якія забяспечваюць захаванне гістарычнай спадчыны нашага народа ў дакументальнай памяці.

**— Колькі дакументаў захоўваецца ў беларускіх архівах?**

— Архіўны фонд рэспублікі ўтрымлівае больш як 12 мільёнаў адзінак захоўвання. Растлумачу, што адзінка захоўвання можа складацца і з адной старонкі і з дваццаці. Гледзячы які гэта дакумент. Самы стары з іх памечаны XIV стагоддзем.

**— У Законе "Аб Нацыянальным архіўным фондзе і архівах у Рэспубліцы Беларусь" распісаны па гадах тэрміны захоўвання архіўных дакументаў. Напрыклад, для дакументаў вышэйшых дзяржаўных органаў, Пракуратуры рэспублікі, Нацбанка, прадпрыемстваў, устаноў і да т. п. — 15 гадоў, для дакументаў органаў замежных спраў, дзяржбяспекі, унутраных спраў, абароны — 30 гадоў. Але нешта я не чуў, каб у нас збіраліся выдаваць дакументы, скажам, таго ж Міністэрства замежных спраў. І наўрад ці калі-небудзь мы зможам прачытаць дакументы, якія б засведчылі поўную залежнасць, як гэта было на самай справе, нашага знешнепалітычнага ведамства ад МЗС Савецкага Саюза, які дыктаваў Беларусі, як ёй сябе паводзіць на міжнароднай арэне. Я не кажу ўжо пра дакументы Камітэта дзяржбяспекі, большасць якіх наўрад ці будзе калі раскрыта.**

— Так, нагаданыя вамі матэрыялы сапраўды яшчэ не апублікаваны, але вы не маеце рацыі, кажучы, што няма доступу да іх, напрыклад, тым жа навукоўцам.

Што датычыць прадугледжаных прынятым законам пэўных тэрмінаў абмежаванняў доступу да тых ці іншых дакументаў, дык гэта практыка, якая ўжываецца ва ўсім свеце. Калі вы заўважылі, самы доўгі тэрмін захоўвання — 75 гадоў — прадугледжаны для запісаў актаў грамадзянскага стану і натарыяльных дзеянняў, дакументаў па асабовым складзе. І гэта вельмі правільна, хоць гэтыя дакументы і не складаюць якой-небудзь дзяржаўнай тайны. Але ж яны, напрыклад, могуць утрымліваць падрабязныя звесткі аб усынаўленні ці ўдачарэнні дзіцяці чужымі бацькамі, а гэта тайна, якую людзі берагуць да скону дзеля спакою іх прыёмных дзяцей. Я вам скажу, што адкрыццё нават партыйных дакументаў, асабовых спраў членаў КПСС таксама не заўсёды пажадана. Як вядома, партыя трымала пад пільным наглядам і прыватнае жыццё сваіх членаў. Ці мала каму можа прыйсці ў галаву выкарыстаць гэта нават і сёння. Для таго ж шантажу... Або, скажам, медыцынскія дакументы: нехта мог лячыцца ў псіхіятра...

**— На Захадзе толькі сам факт звяртання па псіхіятрычную дапамогу можа папсаваць чалавеку палітычную кар'еру. Не шкодзіла б звесткі аб псіхічным здароўі палітычных дзеячаў публікаваць і ў нас. Мне здаецца, гэта ўжо наспела. Але пагадзіцеся, што ў нас яшчэ "сядзіць" савецкі сіндром засакрэчвання ўсяго і ўся. Савецкі Саюз быў краінай сакрэтаў.**

— Гэта так, да вайны засакрэчваліся, напрыклад, дадзеныя аб раённых нарыхтоўках сена, бо па іх, лічылася, можна было даведацца аб пагалоўі коней, якія мелі не апошнюю ролю ва ўмацаванні баяздольнасці Чырвонай Арміі.

І, разам з тым, гэтая амаль паталагічная страсць улад да засакрэчвання самых розных дакументаў спрыяла таму, што ў першыя ж дні наступлення фашыстаў архівы былі спешным парадкам эвакуіраваны ў тыл краіны і такім чынам захаваліся. А то мы з таго даваеннага перыяду нашай гісторыі не мелі б сёння ніводнага дакумента.

**— Я хачу звярнуць вашу ўвагу, Аляксандр Мікалаевіч, на тое месца ў законе, дзе гаворыцца, што ў склад Нацыянальнага архіўнага фонду Рэспублікі Беларусь уваходзяць і дакументы органаў дзяржбяспекі і ўнутраных спраў. Гэта нешта новенькае. Дакументы КДБ заўсёды былі тайнай за сямю пячаткамі. І раптам — такі паварот...**

— У распрацоўцы праекта Закона аб нацыянальным архіўным фондзе прымала ўдзел і наша ведамства. І мы ўнеслі прапанову ўключыць у дзяржаўны архіўны фонд і дакументы праваахоўных органаў, і Вярхоўны Савет нас у гэтым падтрымаў.

**— Яшчэ каб законы нашы выконваліся... Вы пачалі перавозіць ужо архівы КДБ да сябе?**

— У нас няма куды іх перавозіць. Але з цягам часу гэта будзе зроблена.

**— Пасля таго, як кэдэбісты адпаведным чынам іх прафільтруюць?**

— Ну, пагадзіцеся, не ўсё ў іх ведамстве можна зрабіць аб'ектам галоснасці. Скажам, тую ж аператыўную інфармацыю...

**— Або спісы "стукачоў"? Але ж у Чэхіі і Германіі апошнія гады склад сакрэтнай палітычнай агентуры быў для грамадскасці раскрыты.**

— Складанае пытанне. Але многія дакументы органаў дзяржбяспекі адкрыты для вывучэння. Асабліва тыя, што звязаны са сталінскімі рэпрэсіямі. Менавіта на падставе гэтых дакументаў наш супрацоўнік Уладзімір Адамушка нядаўна выдаў цікавую кніжку: "Палітычныя рэпрэсіі 20—50-х гадоў на Беларусі".

**— Паняцце "архіў" мы звычайна атаясамліваем з пэўнай дзяржаўнай установай, куды, пры патрэбе, мы звяртаемся па якую-небудзь даведку, дзе можна папрацаваць з нейкім гістарычным дакументам і г. д. Але ж паглядзіце, Аляксандр Мікалаевіч, вельмі рэдка якая сям'я мае свой уласны архіў, які б дазволіў прасачыць, так бы мовіць, сувязь часоў, рэгенераваць гістарычную памяць. Ці можа аказаць у гэтым плане нейкую дапамогу ваша ведамства?**

— Што і казаць, большасць з нас ведае сваіх продкаў не далей трэцяга пакалення — дзядоў і бабуль, а далей (ці глыбей) усё пакрыта змрокам невядомасці, бо ніякіх дакументаў з тае пары ў пераважнай большасці сем'яў не захавалася.

Вы пытаецеся, як тут можа дапамагчы дзяржаўны архіў? Фактычна дзяржархіў — гэта і наш агульны сямейны архіў, бо менавіта тут захоўваюцца звесткі аб метрычных кнігах, прафесіі, службовых пасадах і г. д. Адным словам, на кожнага грамадзяніна заведзена больш-менш поўнае дасье. Толькі не шукайце за гэтым словам нейкага палітычнага падтэксту. Гэта не тое, з чым мы прывыклі атаясамліваць паняцце "дасье" як нейкі збор даносаў, розных кампраматных звестак і да т. п.

Прывяду адзін прыклад. Аднойчы, лежачы ў бальніцы, я пазнаёміўся з таксама хворым па прозвішчы Забела. Ён шмат расказваў пра сябе, між іншым, паведаміўшы, што родам яны, Забелы, са Случчыны і па сямейным паданні дзядуля яго да рэвалюцыі належаў да дваранскага саслоўя, пра што ў савецкія часы ніколі не ўспамінаў, баючыся непрыемных для сябе наступстваў.

Вярнуўшыся на працу, адразу папрасіў прынесці мне дарэвалюцыйны спіс дваран Мінскай губерні. І што вы думаеце, у тым спісе значыўся і дзядуля майго бальнічнага знаёмага. Скажу болей, удалося прасачыць дваранскі радавод слуцкіх Забелаў, які, як аказалася, браўся аж з 1693 года. Адшукалі мы і іх дваранскі герб.

Культываванне гістарычнай памяці мае неацэннае значэнне. У гэтым сэнсе мяне вельмі прываблівае вопыт Ізраіля, дзе кожны школьнік абавязаны весці радавод сваёй сям'і.

**— Вось бы і ў нашых школах увесці такую дысцыпліну...**

— Ведаеце, мы зараз распрацоўваем спецыяльную праграму, якая так і называецца — "Радавод". Мэта яе — дапамагаць грамадзянам рэспублікі адшукваць свае гістарычныя карані. Ці магчыма гэта? Скажам, ужо сёння мы можам прасачыць сялянскі радавод на 6—7 пакаленняў. Але зноў жа — стрымлівае наша беднасць, крайні недахоп тэхнікі, асабліва камп'ютэрнай. Дзе-дзе, а ў вядзенні радаводу без закладзеных у камп'ютэрную памяць дадзеных абысціся немагчыма.

**— Мне даводзілася неаднойчы чуць ад навукоўцаў, якія шмат часу праводзяць у архівах, што тутэйшае тэхнічнае аснашчэнне — не дай Бог... Некаторым з іх даводзілася працаваць у архівах Германіі, Польшчы і кантраст ва ўмовах працы паміж імі і намі, па іх словах, велізарны. Скажам, там няма праблемы зняць ксеракопію з любога дакумента, у нас жа, як правіла, яны перапісваюцца ад рукі...**

— Капіравальная тэхніка ў нас таксама ёсць. Іншая справа, што яе вельмі мала. І да таго ж, каб апраўдаць выдаткі на яе набыццё і эксплуатацыю, аплату персаналу, мы вымушаны браць за старонку скапіраванага дакумента амаль паўдолара. Каму гэта сёння па кішэні?

**— Плаціць павінен, відаць, не навуковец са сваёй кішэні, а арганізацыя, якую ён прадстаўляе...**

— Згодзен з вамі, і мы ставілі пытанне аб аплаце менавіта такім чынам, але ніводная арганізацыя на гэта не пайшла. Скажам, той жа Інстытут гісторыі АН Беларусі, адзін з нашых самых пастаянных кліентаў...

**— Што сёння ўяўляе сабой архіўны работнік? Трэба ж, відаць, мець спецыяльную падрыхтоўку, наогул быць высокаадукаваным чалавекам. Наколькі я ведаю, у былым СССР адпаведныя кадры рыхтаваў толькі адзін Маскоўскі гісторыка-архіўны інстытут...**

— Недзе 10 працэнтаў усіх нашых архіўных работнікаў маюць за плячыма менавіта гэтую навучальную ўстанову. Цяпер мы сталі рыхтаваць сваіх архівістаў. Па нашай прапанове ў Белдзяржуніверсітэце на гістарычным факультэце створана аддзяленне, якое будзе рыхтаваць архівістаў і музеязнаўцаў.

Павінен сказаць, што архівіст — гэта досыць складаная прафесія, якая патрабуе самых разнастайных ведаў, каб разабрацца ў дакуменце, скласці яго анатацыю, увесці ў навуковы зварот, даць наведвальніку вычарпальную кансультацыю па яго змесце. Дайце нават адукаванаму чалавеку прачытаць дакумент XV—XVI стагоддзяў, калі ён не спецыяліст, дык нічога ў ім не зразумее. Я не кажу ўжо пра тое, што ў нас захоўваюцца дакументы на самых розных мовах — ад стараславянскай да старафранцузскай.

**— І ў вас ёсць знаўцы той жа старафранцузскай?**

— Даводзіцца шукаць. Хоць і не заўсёды гэта ўдаецца. Вось зараз у Брэсце ў нас ёсць вялікі камплект дакументаў на яўрэйскай мове і няма каму іх перакласці. А для гісторыі яўрэйскага народа на Беларусі гэтыя дакументы бясспрэчна ўяўлялі б немалы інтарэс.

**— Зноў жа спашлюся на сведчанні навукоўцаў, якім даводзіцца шмат працаваць у архівах — праблема з праблем, публікацыя архіўных дакументаў. Мне расказвалі, што ў гады Айчыннай вайны немцы вывезлі ў Германію ўвесь Смаленскі архіў. Пасля разгрому нацыстаў ён трапіў у рукі амерыканцаў, якія яго амаль поўнасцю выдалі.**

— Я ведаю пра гэты выпадак — гэта быў смаленскі партархіў. Ёсць што публікаваць і нам. Вось зараз у нас падрыхтаваны ў рукапісах 8 зборнікаў цікавейшых архіўных матэрыялаў, якія мы не можам выдаць з-за адсутнасці сродкаў. Вы ведаеце, нават кнігу аб генацыдзе беларускага народа ў гады 2-й Сусветнай вайны, якая амаль цалкам складалася з назапашаных у нашых архівах дакументаў, мы вымушаны выдаваць за ўласны кошт і сродкі спонсараў, ледзь-ледзь наскробшы для гэтага грошы. Мінфін наадрэз адмовіўся субсідзіраваць гэтае выданне.

Апошнім часам мы набылі так званую малую паліграфію — рэзограф, на якім можна набраць і надрукаваць рукапіс дзесяцітысячным тыражом. А вось зброшураваць усё гэта, каб атрымалася кніга, няма на чым. Дарэчы, і сама эксплуатацыя рэзографа для нас становіцца непераадольнай раскошай — няма сродкаў на паперу, фарбы, аплату спецыялістаў.

**— З вашага дазволу, Аляксандр Мікалаевіч, я зноў звярнуся да прынятага Закона аб архівах. У артыкуле 10 "Прыватныя архіўныя фонды" гаворыцца, што "дакументы, якія ўтварыліся ў працэсе жыцця і дзейнасці адной асобы, сям'і, роду, сабраныя ці набытыя імі шляхам атрымання ў спадчыну і неперададзеныя ва ўласнасць дзяржавы, складаюць прыватныя архіўныя фонды грамадзян і з'яўляюцца часткай нацыянальнага архіўнага Фонду Рэспублікі Беларусь". Як жа так — і прыватныя і, у той жа час, дзяржаўныя? А калі я хачу, напрыклад, належачыя мне асабіста архіўныя дакументы аддаць (ці прадаць) за мяжу? Гэта процізаконна? Я маю на ўвазе крымінальны кодэкс. Так, я ведаю, было раней...**

— Не, крымінальнай адказнасці чалавек за такія дзеянні несці не будзе. Але калі гаварыць пра патрыятычны абавязак кожнага грамадзяніна Беларусі паважаць культурныя і гістарычныя здабыткі сваёй краіны, дык такі ўчынак, пагадзіцеся, выглядае не вельмі прыстойна. Па законе аб архівах дзяржава мае пераважнае права на набыццё прыватных і асабістых архіваў. А калі мець на ўвазе матэрыяльны бок справы, дык па дамоўленасці абодвух бакоў.

**— У рэспубліцы ёсць цікавыя архівы ў асабістай уласнасці.**

— Ёсць. З вядомых прычын я б не хацеў раскрываць імёны, скажу толькі, што мы вядзём з іх уладальнікамі перамовы на прадмет продажу нам іх калекцый і збораў дакументаў.

У рэшце рэшт, наш архіўны фонд літаратуры і мастацтва амаль цалкам складаецца з асабістай перапіскі нашых славутых пісьменнікаў, артыстаў, кампазітараў, музыкантаў, іх рукапісаў, успамінаў і г. д.

**— І зноў пра закон... У артыкуле 12 "Аб гістарычнай спадчыне Рэспублікі Беларусь, якая знаходзіцца за межамі яе тэрыторыі" гаворыцца, што дзяржава заахвочвае і фінансуе пошук і вяртанне на Радзіму сабраных і гістарычна звязаных з Беларуссю дакументаў. Што і казаць, Беларусь многія стагоддзі з'яўлялася арэнай войнаў і кожны раз захопнікі пакідалі потым краіну не з пустымі рукамі.**

— Праблема вяртання нацыянальных каштоўнасцей у рэспубліку вельмі набалелая. "Роскід" нашага культурнага нацыянальнага багацця, якое асела на іншаземных тэрыторыях, ахоплівае дзесяткі краін як у межах былога СССР (у першую чаргу Расія), так і Еўропы, сярод якіх Польшча, Германія, Аўстрыя і г. д. Назапашаны салідны банк дадзеных аб тым, дзе, што і як "ляжыць" з самых цікавых беларускіх дакументаў і гістарычных рэліквій за межамі рэспублікі. Але пакуль што мы не маем магчымасцей (у асноўным, звязаных з адсутнасцю сродкаў) пакарыстацца гэтымі дадзенымі.

**— Вы маеце на ўвазе сродкі на іх выкуп?**

— Не, ёсць дакументы, якія існуюць у адзіным экземпляры і ніхто іх ніколі не прадасць. Я маю на ўвазе сродкі на навуковыя камандзіроўкі ў замежныя архівы, зняцце копій і да т. п.

**— Відаць, ільвіная доля архіўных дакументаў, звязаных з Беларуссю, знаходзіцца ў Маскве?**

— Так. Напрыклад, у тутэйшых архівах ляжыць увесь комплекс дакументаў, у якіх адлюстраваны ход ваенных дзеянняў, што праходзілі на тэрыторыі Беларусі ў час першай і другой сусветных войнаў.

**— Але ж у Белдзяржмузеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны назапашана шмат дакументаў менавіта гэтага перыяду нашай гісторыі. Навошта ехаць у Маскву?**

*(Працяг на стар. 12)*

# ПРАПАНУЮЦЬ ВЫДАВЕЦТВЫ



**Другі Мінскі міжнародны кніжны кірмаш працаваў у рэспубліканскім выставачным цэнтры. У ім прынялі ўдзел больш за дзвесце выдавецтваў і кнігагандлёвых фірм Расіі, Украіны і нашай рэспублікі. У экспазіцыі кірмашу быў прадстаўлены ўвесь дыяпазон выпускаемай сёння літаратуры — спецыяльнай, мастацкай, дзіцячай, навукова-папулярнай і іншай.**

*На здымку: вядучы рэдактар выдавецтва "Народная асвета" Мікалай Станкевіч знаёміць дырэктараў кнігарань з Брэста з новымі падручнікамі.*

*Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БЕЛІНФАРМ*

# У "МАЛАДОСЦІ" — СВАЕ ПЕРАМОЖЦЫ

**Рэдакцыя часопіса "Маладосць" разгледзела публікацыі 1994 года і прысудзіла прэміі за лепшыя творы. Лаўрэатамі сталі: Вольга Угрыновіч (падборка вершаў), Алесь Ветах (кніга прозы "Ружовая знічка"), Алесь Карлюкевіч (кніга эсэ "Вяртанне да...Беларусі"), Насця Дунец (вернісаж у часопісе N 8 і мастацкае афармленне "Бібліятэкі "Маладосці", N 9, N 10), Язэп Янушкевіч (кніга крытыкі "У прадчуванні знаходак").**

# У ЭКСПАЗІЦЫІ — "АЎТОГРАФЫ"

**Выстаўка работ Уладзіміра Крука "Аўтографы" працуе ў мінскай школе-ліцэі N 16. Вядомы фотамайстра, добра знаёмы чытачам "ЛіМа" (Уладзімір Андрэевіч у штотыднёвіку працаваў не адзін дзесятак гадоў, а цяпер з'яўляецца, актыўным нештатным аўтарам), прадставіў каля 60 партрэтаў беларускіх пісьменнікаў. Як тых, каго вучні ведаюць па падручніках, так і літаратараў, чые творы ў школьную праграму не ўвайшлі.**

**Адметнасць экспазіцыі ў тым, што на кожнай з работ змешчана некалькі слоў-пажаданняў (а часам і верш), напісаных удзячнымі героямі аўтару здымкаў. Дарэчы, самы ранні з іх датуецца яшчэ 1955 годам, і на ім — класік нацыянальнай літаратуры Якуб Колас.**

**З ліку адзіннаццацікласнікаў у ліцэі падрыхтаваны экскурсаводы, і з гэтай выстаўкай пазнаёмяцца па чарзе ўсе класы.**

# "ТЭАТРАЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ", N 1

**Пра творчасць І. Чыгрынава (найперш драматурга) разважае ў артыкуле "У чаканні кароны" С. Лаўшук. Тут жа змешчана драматычная аповесць І. Чыгрынава "Брат караля". У жанры драматургіі спрабуе свае сілы А. Зэкаў — п'еса-фантазія "Як Гаўка ў космас збіраўся".**

**"Бабруйчане ў сталіцы" — уражанні В. Грыбайлы ад гастроляў Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча. "Усмешка Радзялоўскай" — згадкі Б. Бур'яна пра адну з беларускіх актрыс.**

**Сярод іншых матэрыялаў — артыкулы В. Козел "Філасофскі тэатр Раберта Чулі", Л. Дабравольскай "Выстаўка тэатральнага мастака", М. Козенкі "Беларускі народны танцавальны этыкет" (па матэрыялах Чачэрскага раёна), М. Макарцова "Свята старажытнага Друцка", гістарычны нарыс І. Лісвеўскага "Гродна, Брэст, Беласток — тэатральныя", успаміны П. Пруднікава "Яшчэ адна спроба стаць акцёрам", гумарыстычныя вершы І. Стадольніка і П. Глазавога (яго пераклаў М. Базарэвіч).**

*Уражанне*

# ПРАВА НА ЎСМЕШКУ. ЯКУЮ?

Што такое чытач?

Гэта, найперш, чалавек, для якога мы пішам.

Ці мае ён права на тое, каб кніжка, якую ён узяў у рукі, не падманула яго спадзяванняў?

Безумоўна! Ён — такі ж чалавек, як і аўтар, і яму, як і аўтару, уласцівы і спагада, і любоў, і нянавісць, карацей — усе тыя пачуцці, якім чалавецтва дало назву і без якіх яно не здольнае існаваць.

Але, у адрозненне ад аўтара, чытач — не піша. Ён толькі ўспрымае тое, што для яго напісалі. І калі ён не прымае — ці аўтара, ці таго, што напісана ў кнізе, — ён не будзе яе чытаць; зашпурне куды-небудзь, абы яму не назалялі недалёкімі развапжаннямі ці сентэнцыямі, якія ён даўно вывеў для сябе сам. Чытач жадае новага — таго, што магло б зрабіцца ягоным, і толькі тады ён будзе ўдзячны аўтару як суразмоўніку, а то — і як адзінаму ў свеце сябру.

Што зробіць чытач з танюткаю кніжачкай прозы Анатоля Крэйдзіча, якая выйшла дадаткам да часопіса "Маладосць" у канцы 1994-га? Зашпурне? Прытуліць да сэрца? Ці проста пасміхнецца?

Гаварыць ад імя ўсіх — немагчыма і нельга. Таму перакажу толькі свае ўражанні. Як чытача.

Творы А. Крэйдзіча неаднаразова сустракаліся мне і ў часопісах "Першацвет" і "Маладосць", і ў "ЛіМе", з'яўляючыся ў іх з нейкай здзіўляючай рэгулярнасцю: не паспеў адысці ад адных, а ўжо, калі ласка, новыя! І гэта пакідала прыемнае ўражанне — не ад таго, што чалавек піша многа, а ад таго, што не паўтараецца і, было прыкметна, працуе над сабой сур'ёзна, без скідак на маладосць.

І я — каюся! — трошкі прыспешваў сябе (а тым самым, напэўна, і аўтара, хоць ён і не ведаў пра гэта): калі ж я нарэшце прачытаю шэдэўр, бо тое, што я чытаў, было добрай харошай прозай, але мне, прабачце ўжо за такую патрабавальнасць, хацелася нечага большага — можа, глыбіні, але я стрымліваў сябе, разумеючы, што глыбіня, якой я жадаў, — справа будучага, мо не так і далёкага: як ні кажы, а жыццёвы вопыт для пісьменніка — гэткая ж самая неабходнасць, як і талент. І таму заўсёды рабіў невялічкую скідку для аўтара і жыў прадчуваннем, што маё чаканне — не дарэмнае.

І вось я трымаю ў руках не асобныя апавяданні, а кніжку з загадкавай назвай: "Права на ўсмешку". Чыё права? І на якую ўсмешку? Здзеклівую? Ці светлую ў сваёй лёгкасці і шчырасці?

Каб не маніць вам, прызнаюся адразу, што, перачытваючы тыя апавяданні, якія давялося чытаць раней, я, так бы мовіць, купаўся ва ўжо знаёмых хвалях, якія, як я ўжо ведаў, не прынясуць мне скрухі, але — дзесьці падсвядома, на ўзроўні таемнага жадання — хацеў, каб якая з гэтых хваляў добра шкамутнула мяне, прымусіла ці то спалохацца, ці то адмовіцца ад хаця і прыемнага, але трошкі бяздумнага і лагоднага пагойдвання... не, не на хвалях — на хвальках!...

І вось яны, "хвалькі", данеслі мяне... да "Разграфаванага сшытка ў белай вокладцы", а наперад — яшчэ да "Вар'ята" (якога цяпер прачытаў інакш)... Няхай мне сто разоў кажуць, што гісторыя, занатаваная ў гэтым сшытку, — спрэс банальная, што сюжэтныя хады, магчыма, і не вытрымліваюць строгай крытыкі, але што мне да крытыкі, калі, чытаючы гэту нібыта банальную гісторыю, мне зрабілася жудасна. Але зусім не гэтак, як ад твораў Хічкока (там жудасць жывёльная і зусім не выратавальная), а па-іншаму — па-чалавечы! — бо я адчуў, што гераіня "Сшытка" жыве побач са мною, я неаднойчы сустракаў яе, але памагчы анічым не мог — напэўна, не хапала мужнасці, — і таму ўвесь час адчуваў сябе вінаватым, што прайшоў міма, не памог... А вось у аўтара хапіла гэткай мужнасці, і ён падзяліўся ёю са мной — спалоханым і разгубленым ад такой страшнай і бязлітаснай "прозы" жыцця... Але цяпер я ўжо ведаю, што рабіць: трэба памагаць людзям, якімі "вар'ятамі" яны ні здаваліся б; у тым, што яны гэткія, вінаватыя і мы з вамі, вось што сцвярджае сваім "банальным" апавяданнем Анатоль Крэйдзіч.

Крытыкі ды літаратуразнаўцы яшчэ скажуць сваё важкае слова наконт кнігі маладога аўтара, пазначаць, напэўна, тыя ці іншыя недахопы, аддадуць належнае і тым вартасцям, пра якія я не казаў — знарок не казаў, каб захаваць пачуццё, якое ахапіла мяне пасля прачытання кнігі — пачуццё ўдзячнасці за ўсмешку, якую падарыў мне аўтар.

Якая ж яна? Лепшымі сваімі апавяданнямі Анатоль Крэйдзіч пераканаўча даводзіць нам, што мае права на вось гэткую — горкую! — усмешку, усмешку ўдумлівага маладога чалавека, якому не ўсё роўна, як усміхаюцца ці плачуць людзі, якія жывуць побач з ім.

**Анатоль КІРВЕЛЬ**

*г. Санкт-Пецярбург*

*Сярод кніг*

# У БУДУЧЫНЮ — З ФРАНЦІШКАМ СКАРЫНАМ

"Гэтае выданне — адно з трох, прысвечаных прарокам беларускага Адраджэння. Хто ж яны? Відаць, чытачы згодзяцца са мной, што ў апошні час сярод дзеячаў нашага мінулага асабліва папулярныя — у друку, сярод даследчыкаў, сярод моладзі — тры: Францішак Скарына, Кастусь Каліноўскі, Уладзімір Караткевіч. Можна назваць і іншыя велічныя постаці: Максім Багдановіч, Францішак Багушэвіч, Алесь Гарун, Максім Гарэцкі, Якуб Колас, Янка Купала, Браніслаў Тарашкевіч, Кузьма Чорны (свядома падаю ў алфавітным парадку)... Іх спадчына, скіраваная ў будучыню, таксама сугучная нам, сведкам і ўдзельнікам духоўнага абнаўлення. Але гэтыя трое сёння, як кажуць, па-за канкурэнцыяй. Прычыніліся да таго і іх юбілеі — мінулыя і будучыя", — так піша ў прадмове да кнігі "Слаўны сын Беларусі" дырэктар Нацыянальнага культурна-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны Адам Мальдзіс. Кніга гэтая, прысвечаная знакамітаму друкару і асветніку, аднаму з самых выдатных людзей, якіх ведала на працягу сваёй гісторыі чалавецтва, Францішку Скарыне, з'яўляецца першай з задуманай выдавецтвам "Юнацтва" серыі. Дзве наступныя, як і згадвае Адам Іосіфавіч, пазнаёмяць чытачоў адпаведна з К. Каліноўскім і У. Караткевічам.

Сапраўды, кажучы словамі А. Мальдзіса, "гэтыя трое сёння... па-за канкурэнцыяй". Што ж аб'ядноўвае іх, людзей розных эпох? І на гэтае пытанне таксама дае адказ аўтар прадмовы: "Францішка Скарыну, Кастуся Каліноўскага і Уладзіміра Караткевіча аб'ядноўвае тое, што яны жылі і дзейнічалі ў часы, якія раней называліся эвалюцыйнымі, а сёння звычайна застойнымі. Дакладней, пад самы канец гэтых часоў, калі выспявалі новыя, рэвалюцыйныя з'явы. І такія людзі былі носьбітамі новага, яго прадвеснікамі.

Скарына, Каліноўскі і Караткевіч апярэджвалі свой час. Прытым намнога. І таму іх не разумелі, і таму ім цяжка жылося".

Не разумелі сучаснікі — імкнуцца зразумець наступнікі. А паколькі Скарына аддалены ад нас куды больш, чым іншыя з гэтай слаўнай тройцы, таму ён і больш зразумелы ўжо. І дзіўнага ў гэтым нічога няма. Проста была ўжо магчымасць неаднойчы асэнсаваць значнасць здзейсненага ім, праз стагоддзі, дзесяцігоддзі, гады адчуць, наколькі прыцягальная сіла ягонага таленту і як ярка свеціць зорка духоўнасці, калісь запаленая ім. Разам з тым да Скарыны яшчэ набліжацца і набліжацца. І не толькі праз новыя даследаванні, а і па-новаму прачытваючы (і перачытваючы!) тое, што пра яго сказана ўжо. Такую мажлівасць і дае кніга "Слаўны сын Беларусі".

Укладальнік С. Панізнік паруліўся, каб сабраць разам найбольш значныя на сённяшні дзень матэрыялы, якія, з аднаго боку, даюць мажлівасць "гаварыць" самому Скарыне, а з другога — тым, хто ў розны час далучаўся да яго неўміручага генія. Пачатак жа гэтай гаворкі пра Скарыну і яго час — з прадмоў першадрукара. Далей ідзе спіс кніг, выдадзеных ім. А затым — вершы М. Багдановіча "Кніга" і "Безнадзейнасць". Апошні хочацца працытаваць цалкам, бо ён з'яўляецца першым творам беларускай паэтычнай Скарыніяны, пра што заўважае і складальнік:

**Скарына, доктар лекарскіх навук,**
**У доўгай вопратцы на вежы сочыць зоры.**
**Яны спрыяюць! Час! З рухавых рук**
**Скарыны п'е адвар**
**пан земскі пісар хворы,**
**І ўраз пабачыў ён, што ізумруд**
**У пярсцёнку залатым на пальцы**
**штось імгліцца,**
**Што блеску ў ім няма... І з болем тут**
**Ён зразумеў, што ўжо к жыццю**
**не вараціцца.**

Дарэчы, М. Багдановіч (пра гэта таксама гаворыць С. Панізнік) меў жаданне стаць першым бібліёграфам Скарыны, аб чым сведчыць яго ліст у рэдакцыю "Нашай Нівы" за 21 кастрычніка 1913 года: "Калі таварыства імені Скарыны закладзецца, я ахвотна запішуся ў члены. Узяўся б і напісаць жыццеапісанне Скарыны, калі б таварыства даручыла мне гэта".

Пра Скарыну прамаўляюць М. Гарэцкі (эсэ "Фантазія", урывак з кнігі "Гісторыя беларускае літаратуры"), У. Караткевіч (артыкул, эсэ "Подзвіг Францыска Скарыны" і "Вера ў сілу дабрыні, або Сын Беларусі, сын Прагі"), А. Дудар (верш "Скарына").

У падборцы ж "На мацерыку — пад сонцам і месяцам" — лаканічныя выказванні вучоных, пісьменнікаў, дзеячаў культуры. Толькі некалькі імёнаў — В. Адамчык, А. Адамовіч, С. Александровіч, Я. Брыль, У. Казбярук, А. Лойка, М. Лужанін, Б. Сачанка, В. Чамярыцкі, К. Чорны, М. Шчакаціхін...

Ёсць мажлівасць пазнаёміцца з "Лістом да палачан" Я. Купалы, яго вершамі "Роднае слова", "І прыйдзе", аповесцямі А. Клышкі "Францыск Скарына, альбо Як прыйшла да нас кніга" і А. Лойкі "Скарына на Градчанах", скарочаным варыянтам нарыса І. Дварчаніна "Послужити посполитому люду..." (пераклад з чэшскай мовы Т. Кароткай), эсэ Ф. Янкоўскага "Настаўнікавы рукі". У цыкле ж А. Салаўя "Гуманізм", напісаным у ваенным 1943-ым, Ф. Скарына паўстае поруч з Васілём Цяпінскім і Сымонам Будным, і кожнаму з іх прысвечаны асобны верш.

Між іншым, кніга і пабудавана такім чынам, што расказвае не пра аднаго Скарыну, а і дае мажлівасць адчуць, наколькі справа ягоная аказала жыватворны ўплыў на паслядоўнікаў. Адзін з раздзелаў так і называецца "Паслядоўнікі першадрукара". Лаканічныя звесткі пра тых жа С. Буднага, В. Цяпінскага, а таксама пра Пятра Мсціслаўца, братоў Мамонічаў, Лаўрэнція Зізанія, Спірыдона Собаля, Максіма і Васіля Вашчанкаў. Ёсць і падборка "З гісторыі кнігадрукавання" — даты, пачынаючы з 1456 года, калі Гутэнберг распачаў друкарскую справу ў Германіі, і завяршаючы 1615 годам — час выхаду ў Рызе першай царкоўнай кнігі на латышскай мове.

А падборка "Пасля зямнога жыцця" — хроніка падзей, прысвечаных ушанаванню імя Скарыны. Асноўныя з іх нядаўнія, калі адзначаліся 500-ыя ўгодкі з дня нараджэння першадрукара, якія, як вядома, набылі шырокі рэзананс дзякуючы таму, што акурат супалі з разгортваннем нацыянальнага Адраджэння.

На завяршэнне гаворкі — эсэ С. Панізніка "На цеціве рэха". Зноў жа роздум пра Скарыну, яго час, яго шматгранную дзейнасць, пра Беларусь, пра вечнасць. А яна ж пачалася з роднага Скарынавага Полацка: "Цікава, у колькі разоў старэйшы за Скарыну яго горад? У два разы, тры, чатыры? Пытаюся, бо адчуваю, каля мяне, побач з Першадрукаром, стаіўся на сваім мацерыку першадрукар чалавечых крокаў — наш Продак.

Калі ісці з імі, першадрукарамі, след у след — на цеціве рэха збяруцца промні вечнасці. А між нетрамі і нябёсамі, як і раней, займаем сваю прастору мы, звычайныя людзі. І няма нам куды падзецца, як толькі кіравацца ў будучыню.

Таму на парозе будучыні цярпліва чакае нас усіх са сваёй мудрасцю сын слаўнага места Полацкага, вучоны муж і ў лекарскіх навуках доктар Францішак Скарына".

Ісці ў будучыню разам са Скарынай, будаваць Беларусь па-сапраўднаму свабоднай і суверэннай і запрашае кніга "Слаўны сын Беларусі". Найперш запрашае маладое пакаленне. І невыпадкова яна пабачыла свет у серыі "Школьная бібліятэка", а гэта значыць, што большая частка тыражу трапіць у школы.

**А. М.**

Віншуем!

# Міколу КУСЯНКОВУ — 60

***Заўтра спаўняецца 60 гадоў вядомаму беларускаму паэту і празаіку, галоўнаму рэдактару выдавецтва "Мастацкая літаратура" Міколу Кусянкову. Віншуем Мікалая Сяргеевіча з днём нараджэння! Жадаем яму і надалей заставацца ў актыўным жыццёвым і творчым страі!***



# МАТЫЛЁК НА МОСЦЕ І... УСЁ ЖЫЦЦЁ

Што ні кажыце, а прыемна перагарнуць старонкі кнігі паэзіі, якая яшчэ пры першым знаёмстве з ёю цябе ўсхвалявала, узрушыла, пакінула ў душы той добры і прыкметны след, калі ты робішся ў нечым шчадрэйшым, а на ўвесь свет і на людзей хочацца глядзець больш прыязна. Менавіта такое адчуванне было ў мяне (ды, думаю, у іншых таксама), калі ўпершыню чытаў "Дуброву" Міколы Кусянкова, за якую, дарэчы, аўтар атрымаў Літаратурную прэмію імя Аркадзя Куляшова. Уразіла найперш тое, што кінулася ў вочы і пры знаёмстве з папярэднімі зборнікамі М. Кусянкова — "Жывіца" і "Без прывалу". У лірычным героі ці не заўсёды ўгадваўся сам паэт, колішні выпускнік Буда-Кашалёўскага ляснога тэхнікума, якому давялося быць лесаўпарадчыкам у Калінінградскай вобласці, працаваць па спецыяльнасці на Беларусі, у Сібіры. А прафесія ж гэтая, як вядома, звязана з пастаянным знаходжаннем на прыродзе. Ці не таму М. Кусянкоў піша пра хараство краявідаў — і блізкіх, і тых далёкіх, што засталіся недзе ўжо ў памяці — гэтак хораша і непаўторна? Яму няма патрэбы нешта выдумваць — дастаткова прыгадваць тое, што калісь узрушыла, усхвалявала, а таму і запомнілася.

І вось зноў "Дуброва" ў руках. За радком — радок, за вершам — верш. І творы публіцыстычнага кшталту, і самая што ні ёсць лірыка. Але што важна, дык тое, што і першыя творы, і другія напісаны нязмушана. Нязмушана ў тым сэнсе, што аўтар' менш за ўсё задумваецца, як выказанае і сказанае ім будзе ўспрынята. Для яго важней — сама споведзь, для яго на першым плане — патрэба гаварыць. Гаварыць тады, калі нельга маўчаць. А ў такім разе вершы не столькі пішуцца, колькі праманўляюцца. Тут ужо зусім не да таго, каб імкнуцца зрабіць гэта "прыгажэй", важней — данесці саму думку.

Як, скажам, у вершы "Выціскаю з сябе раба". Нешта не памятаю, каб калегі-крытыкі звярталіся да гэтага твора (урэшце, што казаць пра верш, калі па сутнасці маўчаннем абыходзіцца ці не ўся творчасць М. Кусянкова, а калі і з'яўляецца адна-другая рэцэнзія, дык гэта, як кажуць, хоць і прыемнае, але выключэнне). А між іншым "Выціскаю з сябе раба" — здзіўляючае ўменне спасцігнуць (зразумець, адчуць і адпаведна перадаць) тое, што на душы ці не ў кожнага з нас. Мы ж усе... людзі. І ўсе мы, як ні імкнёмся быць лепшымі, даволі часта далей агульных дэкларацый і разваг не ідзём. А калі нечага і патрабуем, дык толькі ад іншых. Сябе ж гатовы лічыць ва ўсіх адносінах бездакорнымі, ледзь не гэткім эталонам маральнасці. Калі ж і здатны на нейкую пераацэнку духоўных каштоўнасцей, дык звычайна спыняемся на паўдарозе.

Ды вернемся да верша, у якім відочна ўся гэтая дыялектыка пераадолення ў чалавеку як бы яго двайніка — пасіўнага і адначасова гатовага прыстасоўвацца, абыякавага і здатнага жыць па прынцыпе "мая хата з краю":

**Быў нямым і пакорным, ды баста!**
**Не бравада і не пахвальба:**
**Я з сябе, нібы з цюбіка пасту,**
**Выціскаць пачынаю раба.**

**Ён маёй не зазнае ўжо ласкі,**
**Бо не тая пара на двары.**
**Ну і раб! — і густы ён і вязкі,**
**Ды з мяне ён, зірніце, як прэ!**

Здавалася б, яшчэ адно, самае малюсенькае намаганне пры гэтым і нічога рабскага ўжо — у душы, у паводзінах — не застанецца. Здавалася б... А на самай справе ўсё інакш. Намаганні застаюцца намаганнямі і не больш, бо гэтае "рабства" вельмі ж ужылося ў характар чалавека:

**Выціскаю раба векавога —**
**Так ён падае сёння ў цане.**
**Але вельмі ж ва мне яго многа! —**
**Божа, скончыцца раб мой ці не?..**

Раб жыве ў многіх з нас, як бы мы ні адмаўляліся ад гэтага. Сама пісаць востры публіцыстычны артыкул, закранаючы найбольш важныя аспекты згаданай праблемы. Можна і артыкул, але — дастаткова і верша, калі ён такі, як "Выціскаю з сябе раба"...

А гэта ўжо лірыка — прасветленая, прачулая і надзіва чалавечная. Лірычны герой ступае дарогамі памяці, вяртаецца ў гады юнацтва, у тое імгненне, калі душа душу шукала і душа душу знайшла, а два сэрцы, яшчэ зусім нядаўна чужыя, пачалі біцца ва унісон. Хіба ж падобнае забываецца? Хіба ж можна, пражыўшы шмат, не вярнуцца да гэтага імгнення? Не тое, што ёсць патрэба вяртання. Яно проста неабходна. Як маральнае ачышчэнне. Каб зноў прадаўжаць свята пачуццяў, свята кахання:

**Вось іду я ўслед за ўласным сэрцам,**
**За ўспамінамі**
**На бераг той,**
**Дзе калісьці срэбнае вядзерца**
**Дзынкнула над светлаю вадой.**

**І хадзіў і ездзіў я далёка,**
**А такой, як ты, не стрэў нідзе.**
**Незямной была ты,**
**Хоць аблокі**
**Пад табой плылі ўсяго ў вадзе.**

Асмелюся сказаць, што М. Кусянкоў і ва ўсёй сваёй творчасці ідзе "ўслед за ўласным сэрцам". І не толькі ў паэзіі. Як вядома, на яго мастакоўскім рахунку і дзве кнігі прозы. Адна — зборнік апавяданняў "Завязь", змест другой склаў раман "Явар з калінаю". Абедзве — у многім сатканы з пражытага і перажытага, у абедзвюх — няцяжка знайсці аўтабіяграфічныя моманты. Больш таго, адно апавяданне з першай — "Насціны паляны" — амаль цалкам увайшло ў раман. А яшчэ ў тым жа рамане, уважліва чытаючы яго, няцяжка адшукаць паэтычныя радкі з ужо згаданай "Дубровы".

Тым самым М. Кусянкоў, як і многія літаратары, піша адну сваю кнігу, са старонак якой у многім паўстае абагульнены партрэт пакалення, да якога належыць аўтар. Яно ў маленстве зведала вайну. Яно ў пасляваенны час гадавалася ў голадзе і холадзе. І яно ж, гэтае пакаленне, якое сёння знаходзяцца ахвотнікі таксама папракаць у многіх грахах, шукала рамантыку, яго вабілі далёкія дарогі. І з-за гэтага забывалася часам на ўласныя карані. Але, на шчасце, многія своечасова апамяталіся, з "перакаці-поля" ператварыліся ў тых, каму дарага зямля бацькоў і хто гатовы цешыць яе, рабіць больш прыгажэйшай.

І гэта зусім не гучныя словы. Дастаткова перачытаць хоць бы апавяданні са зборніка "Завязь", каб упэўніцца, наколькі паэтычная душа ў герояў М. Кусянкова. Нават звычайныя будні не могуць паўплываць на іх светаўспрыманне, і праз гады (і праз нягоды таксама!) гатовы яны захоўваць у душы, паводзінах усё першаступеннае і нерушавае. А гэтае замілаванне зямным пачалося з іх першых працоўных крокаў.

Нельга не прыгадаць тут апавяданне "Матылёк на мосце". Нябачная хваля пяшчоты і замілавання, з якой аўтар прыгадвае маленства героя, кранаецца і твайго сэрца. Маленькі, кволенькі матылёк, які жыве ўсяго адзін дзень, назаўсёды застаўся ў памяці апавядальніка, бо гэта быў не звычайны матылёк, а матылёк, "што сядзеў на... бялюткім, толькі што пасланым намі мосце".

"Пасля я вучыўся ў лясным тэхнікуме, — прызнаецца аўтар, не хаваючы, што расказанае ім было ў сапраўднасці, — на практыцы па энтамалогіі даводзілася лавіць і калекцыяніраваць матылькоў, былі сярод іх і яркія, пярэстаафарбаваныя, але цяпер я ніводнага з іх ясна сабе не ўяўляю, усе яны даўно і назаўсёды выпырхнулі з маёй памяці... Але я не магу сказаць так пра таго матылька на мосце, я не тое што помню яго: варта мне толькі яго згадаць — і ён ажывае ў мяне перад вачамі: сядзіць на бялюткай, гладка абчасанай плошчы і заварожліва стрыжэ аксамітна-залацістымі крылцамі".

А Гаркуша — адзін з галоўных герояў рамана "Явар з калінаю"?! Столькі перажыта чалавекам, гэтулькі разоў лёс выпрабоўваў яго... Лёгка было азлобіцца на людзей, пранікнуцца да іх нянавісцю, ледзь не з пагардай ставіцца да тых, хто і цябе не надта шануе. Зразумела, і Гаркуша, як кажуць, не без граху, але ўсё ж... Ён застаўся ў асноўным такім, як і быў раней: улюбёным ва ўсё зямное і прыгожае. І аўтар не прамінае выпадку згадаць пра гэта. Зноў жа, робіцца гэта нейк тактоўна: "Так ён расказваў мне даўнюю боль, а сам заставаўся ў сваім лесе, жыў кожную хвіліну яго жыццём. Прывідна слізгануў на прагалку імгненны цень, і Гаркуша ўскінуў галаву — доўга сачыў, як напроці сонца, у бялёсай паўдзённай смузе, кружыў ледзь бачны ястраб. А пасля нешта жаўтлявае невыразна мільганула ў сасонніку, і Гаркуша спружыніста нахіліўся набок — усмешкаю прыжмураных вачэй правёў хвастатага ліса. Потым, абхапіўшы рукамі калені, гэтак жа ўсмешліва цікаваў за мурашом на рукаве. Лес, з яго дрэвамі і звярамі, птушкамі і кузуркамі, быў, несумненна, Гаркушавай стыхіяй".

У кнігах М. Кусянкова таксама часта дае знаць аб сабе гэтая стыхія лесу, прыроды... Ідучы "ўслед за ўласным сэрцам", ён — і паэт, і празаік — піша, як правіла, пра тое, што асабліва дарага і блізкае самому. Паэзія і проза М. Кусянкова — ад жыцця і яны ж, адначасова, само жыццё. Увасобленае, перададзенае, асэнсаванае таленавітым пісьменнікам.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

Мікола КУСЯНКОЎ

# З КНІГІ "ЧАГА"

•

**Няма на мне крыжа —**
**О Божа Святы,**
**Выбачай!..**
**Не тая была ў мяне вера,**
**Таму і адчай.**

**Дык з неба**
**Ратунак**
**Пашлі маёй грэшнай душы —**
**Ад новае веры**
**Падманнай**
**Мяне ўберажы.**

**Бо хто ж на зямлі**
**Мне ахоўны пашле**
**Талісман,**
**Каб д'ябал — ніколі! —**
**Не ўвёў мяне болей**
**У зман?..**

## БАЛАДА ПРА КІНО

**З Гомеля ехалі. Са шпіталя.**
**Трое. Харчовы паёк атрымалі.**
**І вось ужо суткі вайне наўздагон**
**На захад іх вёз і люляў вагон.**
**Дык і паспаць перад фронтам можна.**
**Але падхапіўся адзін трывожна:**
**"Хлопцы! Куды мы едзем? Вылазьма!**
**Зірніце — гэта ж станцыя Вязьма!**
**Мы едзем у тыл! Расстраляць яго мала,**
**Маёра таго, каменданта вакзала, —**
**Ён нас пасадзіў не на той эшалон!..**
**...Сустрэчны! Толькі б спыніўся ён!.."**

**Ля Гомеля іх затрымаў патруль:**
**"Куды кіруемся і адкуль?"**
**А потым пра тое ж спыталі і ў Смершы.**
**"Мы едзем на фронт, — адказвае першы. —**
**Бо ён жа цяпер ужо там, дзе Вісла.**
**Але памылка прыкрая выйшла:**
**Саджаў нас, ды, мабыць, п'яны, маёр —**
**І ў тыл нас ягоны цягнік папёр!**
**Такі зрабілі мы крос недарэчны:**
**Добра — хоць той эшалон сустрэчны:**
**Хутчэй пераселі, і — вось вам крыж! —**
**Едзем на фронт мы цяпер, а куды ж?"**

**Пакпілі ў Смершы: "Магчыма, магчыма..."**
**І кажа другі: "Я сваімі вачыма**
**Разгледзеў: "Вязьма"!.. А трэці салдат**
**Тлумачыць: "Таму ж мы і едзем назад,**
**На фронт. Бо за Вязьмай —**
**Масква-сталіца,**
**А нам трэба з немцам за ўсё разлічыцца —**
**Надта ж на нас ён ішоў, фарсісты..."**
**Ды грэбліва крывяцца зноў асабісты:**
**"Вязьма? Чыталі сваімі вачыма?**
**Няблага ж легенду вы ўсе завучылі,**
**Ды разам усе вы ў ёй і завязлі:**
**Едзеце ў Гомель, але ж не з Вязьмы.**
**Дзе яна ў вас? Відаць, у Бабруйску?**
**Адказвайце, вас пытаюць па-руску!"**

**Ішлі цягнікі на захад і ўсход.**
**І — "Станцыя Вязьма" — такі эпізод**
**Здымаў рэжысёр. Ён пакажа, як фрыцы**
**Беглі найперш ад Масквы-сталіцы.**
**А гэта значыць: яшчэ руіны**
**У фільме гарэць і дыміцца павінны.**
**Таму ён і мусіў здымаць так смела:**
**Тут, дзе ўчора яшчэ грымела**
**Вайна — аперацыя "Баграціён"! —**
**Знайшоў натуру патрэбную ён.**
**Вакзал абгарэлы, пустая каробка,**
**А назва ўжо — "Вязьма": такая падробка,**
**Мастацкі падман — у кіно не дзіва, —**
**Усё будзе потым у фільме праўдзіва.**

**А трое, што ўжо худыя, бы вязні,**
**На допыце зноў: "Дык з якой жа Вязьмы**
**Вы ехалі ў тыл? Прызнавайцеся шчыра:**
**Хто вы — шпіёны ці дэзерціры?**
**Кажыце, бо шчырасць ваша нямала**
**Будзе значыць для трыбунала, —**
**Якую дыверсію мелі на мэце?**
**Іначай раскажаце ўжо на тым свеце,**
**Як вы пераблыталі захад і ўсход!.."**

**Прысуд зачыталі траім — у расход!..**

**А потым, канечне ж, была перамога.**
**Быў фільм, і было ў ім трыумфу многа.**
**Класікам стаў рэжысёр даўно.**
**І ўрэшце — балада больш пра кіно,**
**Чым пра тры невясёлыя смерці, —**
**Бо гэта ж (сівым ветэранам паверце)**
**Нават і ў час ваенны, суровы**
**Надта ж выпадак быў нетыповы.**
**Тым больш — пад канец дваццатага веку**
**Сюжэт устарэлы, бо зла чалавеку**
**Не робім мы і чалавека не губім:**
**Мы ж так яму верым! Мы ж так яго любім!..**

## СВЯТА ПЕРШАГА СНЕГУ

1

**Ранак сцюдзёнай яснотаю**
**Ў чысты загледзеўся лёд.**
**Чуцен — пранізлівай нотаю! —**
**Першай сняжынкі палёт.**

**Гэтак пушынка нясмелая**
**Кружыць — зіма настае!**
**Люба мне музыка белая**
**Першага снегу яе.**

**На сенажаці за вёскаю,**
**На прыбярэжны алёс**
**Светлая музыка боская**
**Ціха сыходзіць з нябёс.**

2

**Скажуць вернікі і атэісты:**
**Першы снег пасылае нам Бог.**
**Гэткі белы і гэткі чысты —**
**Хто б яшчэ нам пасляць яго мог?**

**Першы снег — як заслона густая.**
**А пасля — гэты ясны прастор.**
**І з яго чысціні вырастае**
**Над ракою бялюткі сабор.**

**Снег жаданы! Ён выпаў на ўцеху**
**Апусцелым палям і барам.**
**Б'юць званы! Свята першага снегу.**
**Не, зямля наша ўсё-такі храм.**

3

**Першы снег!**
**Над Нямігаю звоняць званы.**
**Можа, нам яны ўрэшце**
**Сумленне пабудзяць?**
**Не спяшайцеся, людзі,**
**Выносіць на снег дываны —**
**Хай хоць трохі**
**Зямля наша**
**Чыстай пабудзе.**

## "ВЯРНІСЯ Ў САРЭНТА!.."

**"Вярніся ў Сарэнта!.." Як прывід, нашу**
**У памяці мілае тое аблічча.**
**І голас дзявочы вярэдзіць душу —**
**Няўжо ён мяне так і моліць, і кліча?**

**"Вярніся ў Сарэнта!.." Як быў бы я рад**
**Вярнуцца ці проста наведацца ў госці,**
**Каб гэта быў Кіеў або Ленінград,**
**А то ж — не вярнуцца ў гады маладосці!..**

**"Вярніся ў Сарэнта!.." Ды мушу я з тым**
**Мірыцца, што скроні сівеюць паволі...**
**Вярнуўся б — і стаў бы я там маладым,**
**Шкада — не бываў я ў Сарэнта ніколі.**

# ЗНОЎ НЕ АБЫШЛОСЯ БЕЗ НАШЫХ

І не дзе-небудзь, а на старонках зборніка сучаснага фантастычнага апавядання “Выкраданне Чарадзея”, выпушчанага выдавецтвам “Мастацкая літаратура” (уступны артыкул “Свет загадкавы, свет рэальны” і ўкладанне Г. Ануфрыева і С. Саладоўнікава). Змест гэтай кнігі склалі лепшыя творы пісьменнікаў-фантастаў з колішніх саюзных рэспублік, перакладзеныя на беларускую мову М. Шупенькам, Г. Шаранговіч, Э. Садаўнічым, П. Марціновічам, М. Татурам, Р. Саматыя... Назву кнізе дало аднайменнае апавяданне Кіра Булычова, чыя творчасць вядома далёка за межамі Расіі. А наконт нашых, дык у суседстве з аўтарамі “чужымі” годна адчуваюць сябе Уладзімір Шыцік (“Агеньчык у цемры”), Барыс Сачанка (“Карчоўнік”), Алесь Кажадуб (“Ваўкалакі”).

# ВЕРШЫ ПАХНУЦЬ ПОРАХАМ

Гомельскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў выпусціла на мясцовай фабрыцы “Палесдрук” зборнік вершаў “З дарог вайны” гамяльчаніна Васіля Габеева.

Васіль Хрысанфавіч — чалавек з цікавай біяграфіяй. Нарадзіўся ён у 1922 г. у в. Пыцькаўка Буда-Кашалёўскага раёна. У гады Вялікай Айчыннай вайны змагаўся з ворагам на паўднёва-Заходнім і 1-м Беларускім франтах, прымаў удзел у абароне Кіева і Ленінграда, у вызваленні Варшавы і ўзяцці Берліна. Пасля вайны доўгі час служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік у адстаўцы. Ён аўтар кнігі “У імя жыцця” (зборнік “Перасветы”, “Мастацкая літаратура”, 1979). Друкаваўся ў “Дні паэзіі”, часопісах “Полымя”, “Беларусь”, у штотыднёвіку “Літаратура і мастацтва”, у іншых выданнях.

Вершы В. Габеева, змешчаныя ў кнізе, здаецца, пахнуць порахам. Яны прыйшлі да нас з вайны, аб чым сведчаць даты іх напісання.

Кніга “З дарог вайны” пабачыла свет дзякуючы аблвыканкаму, які фінансаваў выданне. Напярэдадні 50-годдзя Вялікай Перамогі яна сталася падарункам і самому аўтару-франтавіку, і аматарам паэзіі.

**Васіль ТКАЧОЎ,**
адказны сакратар Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў

# ХАЙ НЕ АБМІНЕ ВАС... КАХАННЕ

Зразумела, найперш у жыцці. Але ў дадзеным выпадку маецца на ўвазе тое пачуццё, без якога не могуць абыходзіцца і героі кніг пісьменнікаў розных краін. Дзякуючы выдавецтву “Мастацкая літаратура” і Ірэне Дабрыян (укладанне зборніка) некаторыя з іх сустрэліся на старонках кнігі, што так і называецца — “Гісторыя кахання”. Ёсць магчымасць па-беларуску прачытаць аповесці Рычарда Баха “Чайка па імені Джонатан Лівінгстан” і Эрыка Сігала “Гісторыя кахання” (ЗША), Костаса Варналіса “Сапраўдная апалогія Сакрата” (Грэцыя), Ежы Анджаеўскага “Цемра зямлю ахінае” (Польшча) і Бернара Клавэля “Бацькава падарожжа” (Францыя), перакладзенымі Алесем Міхальчуком, Алесем Асташонкам, Міколам Буслам, Васілём Сёмухам і Уладзімірам Палупанавым.

# ПРАЗ ЗМАГАННЕ — ДА ІСЦІНЫ

Выдавецтва “Мастацкая літаратура” выпусціла чарговую кнігу ў серыі “Галасы беларускага замежжа”. Ёй стаў раман Кастуся Акулы “Змагарныя дарогі”, у якім аўтар па-свойму асэнсоўвае мінулую вайну, паказваючы беларусаў у самым цэнтры тагачасных падзей. Прадмову да кнігі напісаў Уладзімір Арлоў. Як бачна з назвы яго артыкула — “Змагарныя шляхі Кастуся Акулы”, ён не аддзяляе шлях, пройдзены літаратурнымі персанажамі, ад тых сцяжын, што давялося зведаць самому аўтару. Ды і на старонках рамана можна сустрэць канкрэтных гістарычных асоб.

Паэзія

Анатоль СЫС



# ПЕСНІ ПРА СЫНА

## КАЛІ ЛЮБЛЮ

Калі люблю — я веру і мане,
сказаць папраўдзе:
я займаўся сам падманам.
Маё каханне ўжо не радуе мяне,
нарэшце я хачу таксама быць каханым,

бо засталося дзевяць вершаў
мне праяжыць
у анталогіі тутэйшых любадзееў.
Каб ведаў: калі сэрца затрымціць,
хто побач, для чаго і дзе я.

Няўжо таксама ў небе ёсць жыццё,
каханне ёсць, світанкі і прадвесні?
Мо не дажыў да ісціны? Асцём —
жыццё на небе ў горле маёй песні.

Калі люблю — я веру і мане:
ёсць на нябёсах песні і прадвесні!
Няхай анёл крылом мяне кране,
калі выносіць будуць з гэтых веснiц.

А хто не верыць, ведайце: Багрым
пачаў з кажана, скончыў жаўрукамі.
Мы нават і ў нябёсах не згарым,
Птушыны Шлях намацаем нагамі!

●

Паэтам можаш ты не быць,
а беларусам абавязаны,
расейцаў можаш не любіць,
а можаш быць у іх за блазана.

Калі ж паэтам хочаш быць,
у скронь папалаваным
духам,
дык, Божа, збаў цябе
забыць,
чыя ў вачах Купалы скруха.

●

На твары шчацінне, як пожня жытнёвая,
вочы — праталіны мутнай вады...
— Мілы сынок мой, пачні жыццё новае,
грэх блазнаваць у хрыстовы гады.

— Мама, я рады б —
як пчолы на ліпень
музы лятуць на хмяльнога мяне.
Жыць без паэзіі? Гэта ж пагібель!
Жыць без віна? Гэта ж смерць удвайне.

Хто ж вінаваты, што аж з нараджэння
з мёдам смакчу я з цябе малако?
Ведаю, сохне пацўху карэнне,
хоць і жывеш над Вялікай Ракой.

Ну і няхай музам колкая пожня,
горкія вусны мае, дык няхай.
Мама, такога народзіць не кожная,
Мама,
не перажывай!

## ЁСЦЬ ДЗІЦЯТКА

*Ахвярую Ганне КАНАПЕЛЬЦЫ*

Ёсць дзіцятка, прыйдзе ў хату, скажа:
Толік... —
і так гляне — на сон можна не чытаць
Беларускі Праваслаўны Малітоўнік —
у нябесным царстве так не спяць!

Слава Табе, слава Табе, Божа!
За Твой райскі сон дзень праяжыву
плённа, мірна, весела, прыгожа —
што пасею, тое і пажну!

Ёсць каханка, прыйдзе ў хату, скажа:
Толік,
мо табе не трэба? Падары
Беларускі Праваслаўны Малітоўнік,
бессань мяне мучыць да зары.

Падару сяброўцы Малітоўнік,
яна пойдзе, ночка стане зноў
колкаю і мулкай, як цярноўнік,
боскаю малітвай за любоў.

Слава Табе, слава Табе, Божа!
За бяссонне райскае Тваё
праяжыву і гэты дзень прыгожа,
як ніхто і ў ніякіх краёх!

●

Пампрэш сыты ці галодны —
а якая розніца.
Попел цёплы. Прах халодны —
што з яго народзіцца?

Але я вось нарадзіўся,
маці кажа: з прысаку.
Быццам Бог перахрысціўся
за зямную іскарку.

Дзякуй маці!
Дзякуй Богу!
Дзякуй, свет дзівосны!
Дзякуй, хросная — дарога!
Дзякуй, посах — хросны!

●

*Р. Б., Л. Г.*

Не існуе распусных кветак,
магу пакленціся чалом.

Люблю падвыпітых паэтак,
яны, бы ў ложку — за сталом.

Віно сам Бог ім з вуснаў дорыць,
з нябёсаў цудны гэты свет!

А Вас нішчымным вершам морыць,
бо без віна — Вы не паэт.

## БУДЗЬМА!

*Ахвярую Галіне БУЛЫЦЫ*
*і Мыколу ГЫРНІКУ*

Мы не будзем дзяліць мяжы,
і таму хай слупы памежныя
нас ахоўваюць, як крыжы
косці тленныя, душы грэшныя.

Мы не будзем дажджы дзяліць
і масты залатых вясёлак,
бо смяротнаму не перажыць
нават самы кароткі золак.

Мы не будзем дзяліць туман,
нам з яго па адным не выйсці.
Песняр, Лірнік, Кабзар, Баян —
пупавіны не перагрызці.

Мы не будзем дзяліць палын,
і за долю, як за дзяўчыну,
нам не трэба чужы калым
і жаніх з касымі вачыма.

Мы не будзем дзяліць любоў,
калі ж будзем, дык толькі гора,
яно здарыцца можа, бо
вакол нас і садом, і гамора.

●

Надта хочацца ў вырай.
Мая белая лебедзь,
а ці хочаце Вы ў рай?
мне хацелася б ведаць,
мне хацелася б ведаць,
мне хацелася б верыць,
што Вы хочаце ў вырай,
мая мілая лебедзь.

Хутка восеньскі вецер
прынясе павуціну,
сумны восеньскі вечар
прыйдзе ў Вашу хаціну,
а пад раніцу шэрань —
і не ўбачыць прасвету,
у нябёсах, у шэрых
я растану без следу.

Надта хочацца ў вырай,
мая сумная лебедзь,
ляцім! З мірам, як з ліраю,
чарада нас прывеціць,
чарада нас прывеціць,
чарада нас прыкмеціць,
мая белая лебедзь,
мая мілая лебедзь.

## СЭРЦА

1

Мне на сэрцы золатам
вышывалі краты,*
кроў балюча крапала на маю душу
з голкі дыяментавай аж у тры караты —
вось якое дзіва я ў грудзях нашу.

А бывае, падаю з усяго размаху,
дык на сэрцы золатам
шэсць крыжоў звіняць
аб зямельку родную, быццам меч
аб плаху, —
ні віном, ні лекамі боль той не суняць.

Дзе ўпаду, каб ведаў я,
дык падклаў падушку б, —
але ж вочы — зоркі сочаць, на бяду,
мабыць, цяжар кратаў
датуль насіць мушу,
пакуль у магілу-матку не ўпаду.

Мне на сэрцы золатам
лёс мой вышывалі,
нітак не хапіла на апошні прэнт,
а калі паўмёртвага мяне пакідалі —
уваткнулі ў сэрца голку-дыямент.

Можа, каму трэба залатая нітка,
голка з дыяменту, я вас папрашу,
калі вам няцяжка, калі вам нябрыдка —
выратуйце сэрца, вызвальце душу!

Гэта ж вельмі проста:
нітку — у клубочак,
голку — у скарбонку,
што ў крыві — дарма,
без віны ды боязі спіце сабе ўночы,
ну, а вашым ворагам сніцца хай турма.

З матамі, вар'ятамі,
з сабакамі іклатымі,
ды пад аўтаматамі,
з залатымі кратамі
будзе
хай
яна!

2

О, каб сэрца жураўлінае**
нашым ворагам даў Бог,
немаўлячае, нявіннае,
каб ад бедаў іх бярог!

Я прагледзеў бы ўсе вочы,
я б сачыў Птушыны Шлях,
ў кожнай зорцы-патарочы
пазнаваў бы жураўля,

маё б сэрца разам білася
з жураўліным праз сто слот,
сто разоў крывёй абліласяб,
каб адолець сто нягод,

наказаў бы братам, сёстрам:
як знясілены засну,
вырай каб вялі
па вёрстах
на маю вясну-красну,
па дыханні майго сэрца,
па сцяжынках маіх слёз
з воч, адтаялых азерцаў,
поўных раем да нябёс,

наказаў бы бацьку, маці:
вунь сыходзіць снег з палёў,
каб прыбралі чыста ў хаце,
як пачуюць жураўлёў,

наказаў бы любай жонцы:
як знясілены спачну,
каб па жураўліным сонцы
навучыла жыць дачку,
каб па жураўлінай поўні
навучыла сына жыць,
каб дамоў дарогу помніў,
праз клады яна ляжыць,
на кладах магіла таты,
ён калісьці напісаў
верш пра залатыя краты —
на касца найшла каса.

Шануй сэрца жураўлінае,
ідзі босы, як ты ёсць,
чыстай паднябеснай глінаю,
і даруе Ягамосць.

О, каб сэрца жураўлінае...

---

* *радок з верша А. Філіповіча*
** *радок з верша М. Купрэева*

•

*Нябожу СЫСУ Уладзіміру*

Калі краты распілаваць,
атрымаецца шэсць крыжоў.
Калі шэсць начэй не спаць,
а бадзяцца адно з нажом —

рукі выберуць крыж — не нож,
і таму не паўтары
святатацтваў маіх, нябож,
каб не каяцца на алтары,

а цяпер ты яшчэ дзіця,
і, як ластаўчына гняздо,
на куту астые куцця —
да дзядоў я ўжо не яздок,

шэсць крыжоў на грудзях звіняць,
як вярыгі ці кайданы —
лепей краты не пілаваць,
прырaслі да вантроб яны.

## ПАСТУХІ

Пан Бог злосны, тапоршчыць вусы,
штось няладнае ў яго панстве:
ах, нябесныя каласы
долу хіляцца, бы ў паганстве,

а ў самога у барадзе —
не заснуць, так свярбяць зярняты
(дзень іх росціць, а ноч крадзе),
не Пан Бог, а мужык заўзяты.

Ах, рунее як барада!
Во, каб бачыў люд паспаліты!
Што за луг там, за гавяда!
Як звініць залатое жыта!

## ГЛІНА

*Дзякуй, Алесь, што ты ёсць*

Як іду, дык вянец мае скроні
балюча шкрабе,
а душа ўся ў балячках,
бы вопратка сейбіта ў зернях.
Я памру, землякі, а легенду
пакінце сабе,
а дакучлівых вошай шукайце
ў пакінутых цернях.

Ёсць прыгожыя словы.
Прыгожых паэтаў няма,
ды вы іх беражыце, як маці
апошняга сына,
але, зрэшты, што зробіш,
я ведаю — будзе вайна,
як адзін з вас сказаў пра жыццё:
усё гліна!

Па ёй птушка прайшла і закрэсліла
руны крылом,
пэўна, нехта шчаслівы з пацехі
параніў анёлка.
Ёсць паэтка у вас,
ае рукі зрасліся з кайлом,
о, як праўду яна вышывала
танюткаю голкай!

Ёсць агідныя словы.
Агідных паэтаў няма.
І таму, як памру — закапайце
ў палескую гліну,
жыць хачу, землякі, і легенду
аддам задарма,
а за тое, што жыў —
пасадзіце ў нагах арабіну.





*Анатоль Сыс — паэт неардынарны. І чалавек ён таксама неардынарны, якая б памоўка ні хадзіла пра гэта. "Песні пра сына" — гэтак назваў ён прапанаваную "ЛіМу" нізку вершаў. А заадно папрасіў змясціць побач з вершамі... фотаздымкі ягоных маці і нябожчыка-бацькі. Просьба беспрэцэдэнтная, аднак мы пагадзіліся з ёю, зважаючы на тое, што прапанаваныя паэтам вершы не так песні пра сына, як усё ж песні сына пра тых жа маці і бацьку...*

Там сядзіць на мяжы Пастух,
рыскі рэжа на пугавішчы,
выдае у ім кожны рух
дзеда Пастыра з пінскай Лышчы.

Але смешна так — дзед пасе
адным вокам сваіх рагатак,
а другім, у слязе-расе,
Пана Бога нябесны статак.

Так цікуюць адзін за адным,
адзін з неба, другі з зямелькі,
і па буднях, і па выхадных,
Пан Бог з жыта, а дзед з канапелькі.

"Да другога прышэсця ёсць
зіма, лета, вясна і восень,
паміраць не ахвота штось,
а як прывіднае там калоссе?" —
сам сабе кажа мудра дзед,
яму думаць так ёсць прычына,
бо ў ягонае барадзе
зімаваць будзе рой пчаліны.

•

Як расу баравіковую
за спакутаваную душу,
слёзы плачу я ў восень новую,
сумна плачу, не галашу.

У раю ў мяне ёсць сяброўка,
дык і ёй там жыццё не мёд,
па Радзіме баліць галоўка,
бо ў раю тым чужы народ.

Ёсць і ў пекле ў мяне сяброўка,
яна ў пекла сама пайшла —
праз вакно.
Ні слязы, ні слоўка,
што жадала, мо там знайшла?

А ў нас, родныя, восень новая.
Запяжарыла на любоў
наша Раечка Баравіковая,
можа Бог дасць Купалу зноў.

## ПЕСНЯ ПРА СЫНА

Жыццё — камень на баране,
цягну і нешта сею,
а лёс папугай б'е мяне,
я ў полі і згібею.

Мой сын загінуў на вайне,
цягну і скруху сею,
ён згінуў па маёй віне.

Я ж ваяваць не ўмею —
адправіў сына за сябе
апошнім шляхам зрэбным,
а сам застаўся на сяўбе.
Каму мой хлеб патрэбны?

Яго ні людзі не ядуць,
ні коням на патраву,
за сына ўсё мяне клянуць,
што на вайну адправіў.

Жана ёсць. Музаю завуць,
з вайны нямая ходзіць,
і толькі тыя са мной п'юць,
хто сына не народзіць,

бо, кажуць, будзе зноў вайна,
таму сыны навошта,
маўляў, у Сціксе сатана
даўно сцягі палошча.

А Муза змрочная маўчыць,
а салаўі галосяць,
а пад паэта закасіць —
лягчэй чым сена косяць.

. . . . . . . . . . . .

Мой сын не згінуў на вайне,
шчаслівы той — хто шчыры:
хай Беларусь вайна міне.
За вас!
За сына!
З мірам!

Лідзія АРАБЕЙ

# ПАЛІТЫЧНАЯ АКТЫЎНАСЦЬ

## ЗАМАЛЁЎКА З НАТУРЫ

Стаяў душны ліпеньскі дзень. Ужо з месяц, як тэмпература паветра ў цяні падбіралася пад трыццаць, вялі кветкі на газонах, плавіўся асфальт, людзі сплывалі потам. Ідучы з работы, шмат хто марыў пра душ, пра ванну, але якая ванна, які душ, калі ўжо тры тыдні, як у раёне адключылі гарачую ваду, рамантуюць там нейкі бойлер, а на газе вады не нагрэешся, па-людску не памыешся, так крыху паплюхаешся, змыеш зверху пыл. І ў лазні, што на вуліцы Багдана Хмяльніцкага — чарга. У мужчынскім аддзяленні — меншая, у жаночым — большая.

У вестыбюльчыку, што пры касе, сядзяць, стаяць жанчыны, стомлена перамінаюцца з нагі на нагу, перакладаюць з рукі ў руку цэлафанавыя торбачкі з чыстаю бялізнаю, з мылам ды мачалкамі. Стаяць цярпліва — ці прывыкаць нашым жанкам да таго чакання, як сталі ў чаргу дзецьмі, так і стаяць да старасці — то за кілбасою, то за крупамі, то за алеем. Але цярплівыя не ўсе, кабета сярэдніх гадоў з куксаю, у якую ўваткнуты грабянец, падае голас:

— А чаго гэта яны ўсіх нас трымаюць? Няхай бы пускалі па адной — адтуль выходзяць, адсюль заходзяць.

Спачатку ёй ніхто не адказаў, мусіць, прапусцілі яе словы як не вартыя адказу. Толькі адна, сіваватая, у майцы з намаляваным на грудзях канём, абазвалася:

— А яны хочуць, каб тыя ўсе выйшлі, залю прыбяруць, а потым нас усіх запусцяць...

— Запусцяць, запусцяць, — прабурчала кабета з грабянцом у куксе. — Няхай яны сваіх касманаўтаў запускаюць, а мы тут...

Было няясна, хто — "яны" і што "мы тут", але ў чарзе, здаецца, усё зразумелі, хаця бурчання кабецінага не ўхвалілі і не падтрымалі, іхняе маўчанне быдта казала: "Іч, нецярплівая, мы тут з гадзіну парымся ўжо, і нічога, трываем, а яна толькі ўваткнулася, і ўжо правы качае..."

Кабета з грабянцом у куксе, здаецца, зразумела сваю нетактоўнасць і прыціхла, прыперлася плечуком да сцяны, вільготнай ад пары, якая пранікала ажно сюды.

Падыходзілі новыя жанкі, пыталіся:

— Хто крайні?

— Хто апошні?

Займалі чаргу і цярпліва чакалі, некаторыя перамаўляліся.

— Скора ўсю незалежную Беларусь з'ядуць вошы, — казала белатварая кабеціна ў стракатай сукенцы другой, што стаяла з ёю побач — дробненькай, худзенькай, але з жывымі цёмнымі вочкамі. — Гэта ж падумаць толькі — кавалак мыла каштуе болей чым дзесяць тысяч рублёў!

— Мілачка, — адказвала ёй дробненькая ды худзенькая, — не толькі вошы — кароста апануе... Лякарства не дакупішся, за лякарства шмат тысяч плаці!

— Яны хочуць, каб мы, пажылыя, хутчэй павыміралі ад сваіх хвароб, — падтрымала яе белатварая.

— Цяпер, Мілачка, і маладыя хварэюць... Яны і маладых не шкадуюць...

Зноў было няясна, хто — "яны", але кабеты, мабыць, ведалі, каму належыць той займеннік, бо не перапытвалі адна адну.

У гэты час узмакрэлая цётка ў цыратавым фартуху расчыніла дзверы, што вялі ў доўгачаканае царства гарачай вады і пары, і жанчыны навыперадкі, штурхаючы адна адну, падаліся туды — займаць лаўкі, шуфлядкі ды хапаць шайкі, быццам ад той скорасці залежаў цяпер лёс кожнай з іх.

Хутка ўсе яны аказаліся ў апратцы, у якой нарадзіла іх маці, і ўжо цяжка было пазнаць, як нядаўна па сукенках ды майках — каторая з іх і дзе. Але адкрылася тут тое, што хавалі тыя майкі ды сукенкі, і па тым ужо можна было адрозніць адну ад адной, нягледзячы на пару, якая, нібы туман, апавіла іх бліскучастыя целы.

Сіпела вада, ірвучыся з кранаў, звінеў душ, бразгалі шайкі, шоргалі мачалкі, гудзелі галасы.

На адной каменнай лаўцы апынуліся дзве тыя, што прарочылі свайму народу шмат бяды — каросту, вошы і наогул выміранне ўсіх людзей. Аказалася, што белатварая асабліва шырокая ўнізе, трымалі той ніз дзве моцныя падпоркі, ды і рукі былі гладкія, поўныя, на вока без усякіх прыкмет кароcты. Кавалачкам духмянага мыла нацерла яна мачалку і папрасіла суседку па каменнай лаўцы:

— Патры, Галубка, мне спіну...

Сама ўперлася рукамі ў тую лаўку, адтапырыла заднюю частку цела і падрыхтавалася да асалоды.

Галубка ўзяла мачалку і пачала старанна шараваць белую гладкую спіну.

— Нічога, Мілачка, — прыгаварвала яна, тручы тую спіну, — вось скора выберам Лукашэнку прэзідэнтам, і мыла патаннее, і лякарства, а тых, хто катэджаў набудаваў на нашай крыві — да сценкі паставяць!

Да гэтай хвіліны яны былі такія аднадумкі, што Галубка зусім не чакала, быццам зараз нечым не патрафіць. Але белатварая Мілачка з напалову пашараванаю ўжо спіною раптам выпрасталася.

— Каго, каго выберам?

— Лукашэнку, — адказала Галубка.

— А чаго гэта мы будзем яго выбіраць? — узвілася Мілачка.

— Як чаго? Ён навядзе парадак, ён людзям будзе служыць, а не панам савецкім!

— Шмат ты разумееш! — махнула рукамі Мілачка, ды так махнула, што мыльныя пырскі паляцелі на Галубку, трапіўшы той ажно ў вочы.

Дасюль мірная Галубка, не спаласнуўшы нават вачэй, узняла голас:

— А каго ж, па-твойму, выбіраць трэба?

— Кебіча трэба, яго ў Маскве любяць!

— А трасцу табе! — закрычала Галубка. — Кебіч нацараваўся ўжо, нахапаў сабе дабра, пры Кебічу да бяды дакаціліся!

— Пры Лукашэнку яшчэ далей закоцішся, Беларусь яму — не саўгас! — крычала белатварая Мілачка і твар яе на вачах ружавеў. Здаецца, яна забылася, чаго сюды прыйшла, шайка з вадою стаяла цяпер убаку, а яна, разгарачаная, ці ад пары, ці ад злосці, крычала на тую, што нядаўна называла Галубкаю:

— Кебіча трэба, Кебіча, ён рублёвую зону зробіць!

— Дурніца ты таўстаногая, рублёвую зону і Лукашэнка зробіць! — уваходзіла ў азарт Галубка.

— Гэта я дурніца таўстаногая? — закрычала Мілачка, схапіла шайку з бруднаю вадою і плюхнула ваду на апанентку.

Тая на міг як захлынулася, разявіла рот, потым апамяталася, убачыла ў сябе ў руцэ мачалку, якою нядаўна церла Мілачцы спіну, і з тою мачалкаю пайшла ў наступ. Яна сцебанула белае мокрае цела і раз і другі, потым схапіла кабету за мокрыя валасы і тузанула з такою сілаю, што тая паслізнулася на мокрай падлозе і ледзьве ўстояла на нагах. Але ўтрымалася і, схапіўшы Галубку за руку, пачала пляскаць тую з усяе сілы па плячы.

Белатварая была дужэйшая і ў большай вагавой катэгорыі, а хударлявая спрытнейшая. Яны матлачылі адна адну спачатку на адлегласці адной рукі, а потым счапіліся, застылі ў барацьбе, іх мокрыя бліскучастыя целы спляліся і зрабіліся падобныя на скульптуру, што высек з мармуру які-небудзь рымскі альбо грэчаскі мастак.

Ды хутка скульптура разбурылася, кабеты засталіся кожная сама па сабе і толькі крычалі адна адной у твар:

— Кебіча!

— Лукашэнку!

Адна жанчына, трымаючы над галавою шайку і збіраючыся, мусібыць, лінуць ваду на ўсё сваё цела, застыла з тою шайкаю, як карыятыда.

— Чаго гэта яны? — спыталася здзіўлена.

— Адна за Кебіча, другая за Лукашэнку, — спакойна патлумачыла маладзіца з прыгожым ружовым целам і доўгімі валасамі, якія расчэсвала грабянцом.

— Каторая за Лукашэнку? — спыталася Карыятыда.

— Во гэта, — паказала маладзіца на Галубку.

Карыятыда апусціла сваю шайку і кінулася ратаваць Галубку, а хутка ўся лазня ўвязалася ў бойку, адны біліся за Лукашэнку, другія — за Кебіча. За Лукашэнку аказалася больш, яны перамагалі, і хутка тыя, што былі не за Кебіча і не за Лукашэнку, вырашылі сказаць сваё словах. Яно заключалася ў пяці шайках халоднай вады. І бойка была спынена. Нейкі час яна прадаўжалася яшчэ на словах, накшталт:

— Дурніца!

— Ад дурніцы чую!

Але хутка і яна, як шторм пасля буры, пачала аціхаць. Толькі лукашэнкаўкі занялі адну лаўку, а кебічаўкі — другую.

Дамываліся.

З лёгкай параю! — як кажуць рускія, што вельмі любяць некаторых беларускіх кандыдатаў.

ЛіМ
ЧАСАПІС



## 35 НОВЫХ ПРАЦ



**Персанальная выстава маладой мастачкі Ірыны Магучай адкрылася ў Віцебску. На суд гледачоў аўтар вынесла 35 новых работ, выкананых пастэллю. Гэта ўжо другая выстава маладой віцяблянкі ў родным горадзе. Карціны Ірыны пабывалі і за мяжой. Шырокую цікавасць выклікалі работы Магучай у аматараў жывапісу ў Германіі і Польшчы.**

*На здымку: Віцебская мастачка Ірына Магучая.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ*

## УСЁ ЯШЧЭ ЖЫВОЕ...

**Самыя прыемныя ўражанні засталіся ад выступлення студэнцкага тэатра "Жывое слова" Мінскай педагагічнай акадэміі пад кіраўніцтвам Юрася Чарэнкі ў настаўнікаў і вучняў школ Сенненскага раёна, дзе пабывалі самадзейныя артысты. Жыхароў расійскага памежжа ўразіла праграма выступленняў, акцёрскае майстэрства будучых настаўнікаў.**

**Не засталіся ў даўгу і гаспадары. Аддзел адукацыі райвыканкама паспрыяў, каб стварыць для самадзейных артыстаў належныя бытавыя ўмовы. Не забыліся пра культурную праграму. Госці мелі магчымасць пазнаёміцца з лепшымі школьнымі музеямі, помнікамі старажытнага дойлідства.**

**Да ўзаемнага задавальнення кантакты вырашана прадоўжыць.**

**А. ЛАЗЮК**

## З ТЭАТРАМ "ШАЎБУДЭ" КАНТАКТ ТРЫВАЛЫ БУДЗЕ

**Па запрашэнні кіраўніцтва Берасцейскага тэатра лялек яго наведалі прадстаўнікі берлінскага тэатра лялек "Шаўбудэ" — мастацкі кіраўнік, старшыня Нацыянальнага цэнтра Германіі "УНІМА" спадар Герд Таўбэ і доктар мастацтвазнаўства фрау Эльке Віганд. Мэту свайго візіту нямецкія госці ахарактарызавалі коратка: знаёмства з тэатрам. А яно ўключала ў сябе прагляд новых пастановак берасцейскіх лялечнікаў, такіх, прыкладам, як "Дзед і Жораў" В. Вольскага, "Крэслы" Э. Ёнескі, "Збавіцель" І. Сідарука, абмеркаванне перспектыў далейшага ўзаемакарыснага супрацоўніцтва. Не абміналіся ў размовах і праблемы тэатраў лялек — як Беларусі, так і Германіі. Дарэчы, гэта не першае спатканне тэатра "Шаўбудэ" ды Берасцейскага тэатра лялек. Пазамінулым годам берасцейцам выпала быць першымі беларускімі лялечнікамі, якія гастралявалі ў Берліне са спектаклем "Рыгорка — ясная зорка". Цяпер гэты кантакт мае добры працяг: два тэатры лялек з Германіі запрошаны на Міжнародны фестываль, які сёлета мусіць адбыцца ў Мінску з 15 па 21 траўня.**

І. Х.

У Беларусі пазней, чым у іншых былых савецкіх рэспубліках, з'явіліся і сама кінатворчасць, і асэнсаванне яе крытыкай. У сярэдзіне 20-х гадоў руская кінематаграфія ўжо мела вядомыя кінатворы "Браняносец "Пацёмкін" С. Эйзенштэйна, "Маці" У. Пудоўкіна, "Арсенал" А. Даўжэнкі, дакументальныя фільмы Дзігі Вертава, Эсфіры Шуб. У кінамастацтве і кінакрытыцы Расіі на той час ужо былі традыцыі, значны вопыт; у Беларусі ж усё пачыналася пасля пастановы СНК БССР (17 снежня 1924 г.) аб стварэнні Упраўлення па справах кінематаграфіі (Белдзяржкіно). Гэтай арганізацыі надавалася манапольнае права вытворчасці і пракату фільмаў — дакументальных, навукова-прапагандысцкіх і ігравых. Пачынаў складвацца кінапрацэс, а ў ім сваё месца павінна была заняць і крытыка. Пачыналася на прасторы журналістыкі — у перыядычным друку.

рот, Б. Брадзянскі, А. Ляжневіч, Р. Кобец, У. Барашка, К. Губарэвіч), або самі рэжысёры (Ю. Тарыч, У. Корш-Саблін, У. Гардзін).

Даволі падрабязна асвятляўся працэс стварэння першага ў Беларусі ігравога фільма "Лясная быль" — ад пошукаў сцэнарыя, супрацоўніцтва рэжысёра Ю. Тарыча з пісьменнікам-маладняюоўцам М. Чаротам, потым здымкаў у Прылуках, што пад Мінскам, да прэм'еры ў сталіцы рэспублікі 25 снежня 1926 года. З газеты "Рабочий" ад 14 снежня 1928 г. даведваемся, што Ю. Тарыч збіраўся ставіць і працяг "Лясной былі", дзяліўся з чытачамі звесткамі, што там галоўны герой — Грышка-свінапас, які зрабіўся партызанам, будзе дзейнічаць ужо на гаспадарчым фронце, стане перадавым будаўніком сацыялістычнага грамадства. Задума не ажыццявілася. У 1929 г. Тарыч паставіў зусім іншы фільм — "Да заўтра", аб моладзі Заходняй Беларусі, якая змагаецца за ўз'яднанне з Усходняй. "Звезда" паведамляла аб здымках юбілейнага фільма (да 10-годдзя ўтварэння БССР) "У агні народжаная" — дэбютнага для У. Корш-Сабліна, які дагэтуль працаваў (разам з І. Пыр'евым) асістэнтам Ю. Тарыча, здымаўся ў ягоных фільмах.

лівага кінапрацэсу не мела таго ўзроўню, які б сведчыў аб асэнсаванні мастацкіх тэндэнцый: калі яны плённыя, а калі рамесніцкія. У сувязі з гэтым варта вылучыць такі "нетыповы" факт з практыкі друку, праз які адбывалася станаўленне беларускай кінакрытыкі. Летам 1930 г. у Маскве праходзіла першая Усесаюзная алімпіяда мастацтва народаў СССР. Ад Беларусі на ёй былі прадстаўлены канцэртныя праграмы, спектаклі, фільмы. Уражанні аб іх рэдакцыя газеты "Рабочий" папрасіла выказаць вядомага ўжо тады кінарэжысёра Усевалада Пудоўкіна. 4 ліпеня 1930 г. у сваім артыкуле-аглядзе ён пісаў: "А вось што можна сказаць аб "Белдзяржкіно"? На жаль, яно не вызначаецца тымі добрымі якасцямі, якія ўласцівы беларускаму тэатру". Якія фільмы бачыў Пудоўкін — невядома, але можна меркаваць, што гэта былі "Лясная быль", "Да заўтра", "У агні народжаная" — найбольш адметныя сярод дзесяці выпушчаных на той час ігравых карцін з маркай "Белдзяржкіно".

# "ЯНА ЯШЧЭ НЕ МЕЛА МОЦЫ..."

## ЛЯ ВЫТОКАЎ БЕЛАРУСКАЙ КІНАКРЫТЫКІ

Публікацыі аб нараджэнні і станаўленні беларускага кіно з'явіліся ў газетах "Звезда", "Рабочий", "Савецкая Беларусь", "Літаратура і мастацтва" адначасова са стварэннем і выхадам на экраны фільмаў вытворчасці "Белдзяржкіно": "Лясная быль" і "Да заўтра" Ю. Тарыча (1926—1928 гг.), "Забітая жыццём" ("Прастытутка") А. Фрэліха (1927 г.), "Кастусь Каліноўскі" і "Песня вясны" У. Гардзіна (1928—1929 гг.), "У агні народжаная" У. Корша, "Гатэль "Савой" А. Файнцымера (1930 г.). Іх стваральнікі і газетныя рэпарцёры распавядалі аб рабоце над кінастужкамі, задачах і асаблівасцях "нацыянальнага рэвалюцыйнага кінамастацтва". Кіраўнік "Белдзяржкіно" Галкін у газеце "Савецкая Беларусь" 9 сакавіка 1927 г. пісаў пра тое, як ён разумее ідэйна-тэматычны накірунак станаўлення беларускай кінематаграфіі. Па-першае, ствараць нацыянальныя фільмы, зразумелыя рабочым і сялянам, па-другое, "перарабляць" мастацкія каштоўнасці на агульнасавецкія і нават агульныя для ўсяго свету інтэрнацыянальныя тэмы"... Зразумела, што з пачаткам у рэспубліцы кінавытворчасці ўзнікла праблема прыналежнасці яе прадукцыі да нацыянальнай культуры. У друку з'яўляліся матэрыялы аб "сцэнарным забеспячэнні" "Белдзяржкіно". "Звезда" (1928, N 15) змясціла артыкул драматурга А. Ляжневіча "Рэпертуар для кіно". На старонках газет ішла дыскусія, дзе будаваць кінастудыю — у Мінску, Віцебску, Гомелі ці Магілёве. Пакуль грамадскасць абмяркоўвала, кіраўнікі ўпраўлення па справах кіно знайшлі месца ў Ленінградзе — на Канале Грыбаедава, 90, дзе размяшчаўся кінатэатр. Друк асвятляў будаўніцтва кінатэатраў, кінаабслугоўванне насельніцтва, рэпертуар кінапракату.

У пачатку 1928 года ў Маскве адбылася Усесаюзная нарада кінематаграфістаў, на якой прысутнічаў Сталін. Ён падкрэсліў, што кіно — важны сродак ідэалагічнага выхавання, і партыя павінна "ўзяць гэтую справу ў свае рукі". Беларускія кінематаграфісты віталі гэты лозунг, відаць, тады і не падазраючы, якімі жорсткімі акажуцца "кіруючыя рукі". Фактычна з гэтага часу пачала ўсталёўвацца ідэалагічная цэнзура ў кінематографе, як і ў іншых сферах мастацтва. Яна звужала межы творчых пошукаў, прыводзіла да прасталінейнасці і дэкларатыўнасці...

Фільмы беларускага кіно 20—30-х гадоў ацэньваліся і ў саюзным друку (газетах "Правда", "Красная газета", часопісах "Киногазета", "Кино", "Советское кино"). Там ужо складвалася крытыка, якая пры аналізе фільмаў звяртала ўвагу не толькі на "сацыяльны заказ", але і на мастацкі ўзровень. З'явіліся прафесійныя кінакрытыкі Х. Херсонскі, М. Лебедзеў, В. Шклоўскі, А. Піятроўскі, пісалі пра кіно таленавітыя пісьменнікі і публіцысты — А. Луначарскі, Ю. Тынянаў, М. Кальцоў, С. Трацякоў, спалучаючы аналіз канкрэтных твораў з распрацоўкай тэорыі кінамастацтва. Асэнсоўвалі ўласны вопыт і спецыфіку кіно рэжысёры-пастаноўшчыкі. У Беларусі першыя крокі кінакрытыкі — гэта водгукі аб новых фільмах, ацэнка актуальнасці і значнасці тэмы, сацыяльна-палітычнай скіраванасці. Гаварылася аб класавай сутнасці вобразаў герояў. Пад публікацыямі такога плана нават прозвішчы не заўсёды ставіліся ці з'яўляліся толькі літары (напрыклад, "Б", "Л" і гэтак далей). За пяро крытыка час ад часу браліся аўтары, якія пісалі сцэнарыі (М. Ча-

Адной з надзённых праблем беларускага кіно на пачатку яго гісторыі і пасля быў рэпертуар. Яму заўсёды не ставала нацыянальнай адметнасці. Газета "Звезда" двойчы выступала з прапановай выпускаць фільмы для юных гледачоў. У N 15 за 1928 год адзін з першых беларускіх сцэнарыстаў А. Ляжневіч у артыкуле "Рэпертуар для кіно", падкрэсліваючы значэнне такога накірунку дзейнасці маладой кінематаграфіі, называў тэмы і літаратурныя творы, на аснове якіх можна ствараць выхаваўчыя фільмы. У ліку іх — аповесці і апавяданні Я. Коласа, М. Чарота, З. Бядулі. Прапановы А. Ляжневіча падтрымліваў і дапаўняў у N 17 журналіст С. Рывес. Відаць, друк і падштурхнуў кінематаграфістаў да выпуску фільма "Здарэнні Грышкі-свінапаса". Змест яго склалі кадры, якія не ўвайшлі ў "Лясную быль". Хаця ў беларускім кіно тады яшчэ не было зарыентаванага на юнацтва накірунку (ён склаўся ў пасляваенны час), пачатак яму далі "Грышка-свінапас", "Да заўтра", "Сонечны паход", "Баям насустрач", "Палескія рабінзоны". Калі ў 1931 годзе ў вытворчасць запускаўся фільм "Ураган" па сцэнарыі Б. Брадзянскага і Р. Кобеца (аўтара ўжо вядомай тады п'есы "Гута"), рэдакцыя "Звезды" (N 134) заклікала вучыцца "кінадраматургічнай справе".

У кінапракат 20-х — пачатку 30-х гадоў трапляла значная колькасць камерцыйных стужак (у тым ліку і замежных). Газеты ў сваіх публікацыях прапаноўвалі наркамату асветы, якому ў той час падпарадкоўваўся і кінематограф, устанавіць абмежаванні, даваць праз Галоўліт спісы карцін, якія можна паказваць дзецям. Увага кінематаграфістаў скіроўвалася на ідэалагічнае выхаванне маладога пакалення. Лічылі, што гэтай справе будзе садзейнічаць адна з нямногіх тады стужак аб сучаснасці "Ураган" (дзеянне адбываецца на будоўлі, куды выязджае брыгада рэдакцыі з Мінска). "Звезда" асвятляла ход здымак гэтага фільма, запрасіла на свае старонкі аўтараў сцэнарыя Б. Брадзянскага і Р. Кобеца, рэжысёра У. Вайнштока. У тым жа N 134 за 1931 г. змяшчаўся заклік арганізаваць ударныя брыгады рабкораў, якія вучыліся б пісаць сцэнарыі. Пачынанне не прынесла плёну. Сцэнарная справа вымагае не калектыўнага энтузіязму, а прафесійнай творчасці. Хаця магло быць і так, што грамадскае абмеркаванне сцэнарнай праблемы садзейнічала таму, што вясковы літаратар — пачатковец Кастусь Губарэвіч па камсамольскай пацёўцы паехаў у Маскву вучыцца на сцэнарыста. Р. Кобец напісаў сцэнарый для фільма "Двойчы народжаны" (1934 г.). У гэты час з кінематаграфістамі супрацоўнічаў маладняковец Анатоль Вольны (па ягонай прозе і сцэнарыях былі пастаўлены фільмы "У агні народжаная" (1930 г., рэж. У. Корш-Саблін), "Гатэль "Савой" (1930 г., рэж. А. Файнцымер), "Сонечны паход" (1931 г., рэж. У. Корш-Саблін).

У друку з'яўляліся водгукі і нататкі аб фільмах вытворчасці "Белдзяржкіно", артыкул У. Корш-Сабліна "Створым беларускага "Чапаева" ("Звязда", 1935, 11 сакавіка). Пэўных эстэтычных крытэрыяў у гэтых публікацыях яшчэ не было, з'явы ацэньваліся найперш па іх грамадскім гучанні. Асвятленне супярэч-

Для кінакрытыкі прынцыповае значэнне мелі артыкулы У. І. Пудоўкіна 30-х гадоў "Патрэбна сапраўдная крытыка" (1932 г.), "На вяршыні савецкай культуры" (1933 г.), "Нам патрэбна вычарпальная ацэнка фільмаў" (1933 г.), "Нашы патрабаванні да друку" (1935 г.). Праз дзесяць год С. Эйзенштэйн таксама выкладзе свае погляды на крытыку (у артыкуле "Буйным планам", напісаным з нагоды аднаўлення часопіса "Искусство кино"). Згодна яго канцэпцыі, неабходны тры ўзроўні (планы) кінакрытыкі: інфармацыйна-пазнавальны, ацэнка на ўзроўні ідэі, сюжэта, персанажа, і "буйны план фільма" — усебаковы яго аналіз.

На такі ўзровень асэнсавання кінамастацтва беларускі друк у даваенны час не выходзіў. І ўсё ж ў 30-я гады адбыліся прыкметныя зрухі: у друку часцей пачалі змяшчацца аналітычныя матэрыялы пра кіно — рэцэнзіі, артыкулы. Спрыяла гэтаму газета "Літаратура і мастацтва", якая пачала выходзіць у 1932 годзе. Разлічаная на пэўнае кола чытачоў, газета больш патрабавальна ставілася да твораў. Сярод яе аўтараў-кінакрытыкаў з'явіўся К. Губарэвіч, які атрымаў адукацыю кінадраматурга і рэдактара. К. Губарэвіч даволі строга ацэньваў прадукцыю кінастудыі, на якой сам працаваў у сцэнарным аддзеле. Да прыкладу: у фільме "Двойчы народжаны" з таленавітым артыстам-купалаўцам Уладзімірам Крыловічам у галоўнай ролі (былога канакрада Лапуха, які пад уплывам новай рэальнасці робіцца руплівым працаўніком), прызнаючы творчую перамогу яго стваральнікаў (аўтар сцэнарыя Г. Кобец, рэжысёр Э. Аршанскі, аператар Б. Рабаў), К. Губарэвіч знаходзіў істотныя хібы. "Не толькі асобныя калізіі, — пісаў ён, — але і цэлыя вобразы вызываюць уражанне штучных неарганічных адносін да сюжэтна-фабульнага арганізма фільма" ("ЛіМ", 1934, N 4).

У параўнанні з публікацыямі "Звезды", іншых газет агульнага тыпу, лімаўскія матэрыялы мелі прафесійную лексіку і выходзілі, паводле вызначанай С. Эйзенштэйнам "Іерархіі", на другі план крытыкі — аналіз калізій, фабулы, характараў. У той жа рэцэнзіі (фільма "Двойчы народжаны") К. Губарэвіч звяртаў увагу на аператарскую работу: "цікавыя кампазіцыі кадраў дапамаглі рэжысёру ўтрымліваць фільм на вышыні здаровага жыццёвага настрою". Тут не зусім ясна, што канкрэтна мелася на ўвазе, але бачна, што крытык падыходзіць да твора з эстэтычнымі меркамі. І не палохаецца выказаць нязгоду з іншымі ацэнкамі. Рэдакцыя запрасіла чытачоў да рознабаковага абмеркавання фільма, які ўвайшоў у гісторыю беларускага кіно як твор значны і адметны.

Калі пра фільм "Двойчы народжаны" даследчыкі беларускага кіно вядуць размову як пра набытак нацыянальнай культуры, то другі (1929 г. выпуску) "Сосны шумяць" ("Атаман Аса") звычайна толькі ўпамінаецца. У свой час ён меў поспех у гледачоў (у ім распавядалася пра няўлоўнага партызанскага важака Міхася Асу — сюжэт узяты рэжысёрам Л. Малчанавым з аповесці А. Вольнага "Двое"). Аднак рэцэнзенты меркавалі пра яго як пра неперакананаўчы і прымітыўны. "Хвоі калышуцца, шумяць, пакрыўджана ківаюць вершалінамі, — пісаў рэцэнзент пад крыптанімам В. М., — а

пастаноўшчыкі... яны не саромеюцца, "накручваюць" усё новыя і новыя эпізоды нечаканых і сапраўды "кінематаграфічных прыгод" ("Звезда", 1929, N 158).

"ЛіМ" у даваенны час хаця і не выпрацаваў сістэму асэнсавання кінематаграфічнага працэсу, але садзейнічаў павышэнню прафесіяналізму кінакрытыкі. Той жа К. Губарэвіч даволі грунтоўна, з адчуваннем асаблівасцяў жанру (прытчы-фарсу) разглядаў вельмі папулярны фільм "Паручнік Кіжэ" (1934 г., рэжысёр А. Файнцымер) паводле аповесці вядомага рускага пісьменніка і літаратуразнаўцы Ю. Тынянава. Фільм на доўгі час захаваўся ў рэпертуары, меў паўторны наклад, выпускаўся на экраны ў пасляваенныя гады, паказваўся па тэлебачанні, увайшоў у юбілейную афішу да 70-годдзя беларускага кіно.

Рэдакцыя "ЛіМа" заўважала і ацэньвала найперш значныя фільмы "Белдзяржкіно". Апрача "Паручніка Кіжэ", аналізаваліся экранізацыі твораў А. П. Чэхава ("Маска", "Налім", "Мядзведзь", "Чалавек у футарале"). Даволі патрабавальна лімаўскі рэцэнзент пісаў пра фільмы "Шлях карабля" Ю. Тарыча, "Залатыя агні" і "Маё каханне" У. Корш-Сабліна.

У першым выпадку ("ЛіМ", 1935, N 14) К. Губарэвіч, аналізуючы "Шлях карабля", прыходзіць да высновы, што ён мае "адносную мастацкую каштоўнасць", у другім, — шматтэмнасць абумовіла расплывістасць сюжэта, фрагментарнасць дзеяння. Рэдкай і знамянальнай творчай удачай назваў К. Губарэвіч фільм У. Корш-Сабліна па сцэнарыі І. Зельцэра і Р. Кобеца "Шукальнікі шчасця" ("ЛіМ", 1936, N 34). Вызначыўшы жанр кінатвора — лірычная камедыя, агучаная цудоўнай музыкай І. Дунаеўскага, адзначыўшы зладжаны акцёрскі ансамбль, дзе галоўная роля належыць М. Блюменталь-Тамарынай (Двойра) і У. Зускіну (Піня), рэцэнзент параўноўвае "Шукальнікаў шчасця" з іншымі пастаноўкамі рэжысёра. Гэта дазволіла крытыку звярнуць увагу на майстэрства У. Корш-Сабліна: у "Шукальніках шчасця" ён пазбавіўся "дыдактычнай схемы, якая бязлітасна праследавала яго амаль у кожнай яго карціне". Можа, і залішне рэзка сказана наконт "дыдактычнай схемы", але ўвогуле правільна. Пазней У. Корш-Саблін прызнаваўся, што з усіх пастаўленых ім карцін яму найбольш падабаюцца "Першы ўзвод" (1934 г.), "Шукальнікі шчасця" (1936) і "Чырвонае лісце" (1958 г.).

Праз чатыры гады пасля "Шукальнікаў шчасця" рэжысёр паставіў вядомую многім пакаленням кінагледачоў карціну "Маё каханне" (1940, сцэнарый І. Прута, музыка І. Дунаеўскага). Меладраматычны сюжэт з жыцця маладой дзяўчыны Шуры, якая страціла каханага пасля таго, як усынавіла дзіця памерлай сястры, увасоблены з верай у шчасце і прыгажосць савецкіх людзей. Жыццярадасная атмасфера, музыка, шчырасць пачуццяў дэбютанткі ў кіно Лідзіі Смірновай, песні пра каханне і дружбу забяспечылі кінастужцы папулярнасць. Нягледзячы на тое, што відавочныя яе ідылічнасць, уяўная канфліктнасць. За гэта рэжысёра папракалі маскоўскія і ленінградскія крытыкі. К. Губарэвіч таксама адзначаў яе хібы, адрасуючы асноўны папрок да сцэнарыста, які "не палічыўся з жыццёвай праўдай і стварыў надуманую схему сюжэта з надуманымі героямі і пачуццямі". ("Советская Белоруссия", 1940, N 165). Чаму ж карціна мела такую папулярнасць? На гэтае пытанне крытык дае такі адказ: цудоўная музыка, песні — мары гераіні, яе абаяльнасць (і шчырасць пачуццяў, душэўная прыгажосць, — можна дадаць). Цяпер сацыёлагі ў такіх выпадках канцэнтруюць увагу на настальгіі па прыгажосці, якую ігнаруе сучаснае мастацтва.

З іншых, што ў даваенны час пісаў пра беларускае кіно, нагадаю Я. Садоўскага, В. Вольскага, І. Дорскага, М. Модэля. Яны выступілі з водгукамі і нататкамі аб новых фільмах. З'яўляліся рэдакцыйныя артыкулы, звароты аўтараў фільмаў да грамадскасці. Але ўсё гэта, можна сказаць, эпізадычныя выступленні. Сістэматычна з'яўлялася ў друку толькі імя Канстанціна Лявонцьевіча Губарэвіча. Маючы кінематаграфічную адукацыю, ён здольны быў спасцігаць спецыфіку экраннага адлюстравання. Ён любіў кіно, дбаў пра яго. На маю думку, яго і трэба лічыць першым беларускім кінакрытыкам. Пасля Вялікай Айчыннай вайны шмат гадоў працаваў у "ЛіМе", загадваў аддзелам тэатра і кіно, быў галоўным рэдактарам сцэнарнага аддзела кінастудыі "Беларусьфільм". У 30-я гады ягоныя агляды навін кіно з'яўляліся і на старонках "Полымя рэвалюцыі" (так называўся часопіс "Полымя" ў 1932—1940 гг.).

З тых прыкладаў, якія прыведзены, можна зрабіць высновы: у даваенны час кінакрытыка ў Беларусі толькі нараджалася. Яна яшчэ не мела моцы, каб заняць належнае месца ў кінапрацэсе, але ўплыў на яго мела, у прыватнасці на рэпертуар студыі і пракату. Станаўленне беларускай кінакрытыкі спыніла фашысцкае нашэсце. Пасля вайны трэба было пачынаць наноў. Адраджалася кінематаграфія, сталела крытыка, узнікла кіназнаўства, што пацверджана выданнем (пачынаючы з 60-х гадоў) шэрагу даследчых прац.

**Ефрасіння БОНДАРАВА,**
**доктар філалагічных навук, прафесар**

Кіно

# НА ЧАРЗЕ — БЕЛАРУСКІ?

## ЗАПОЗНЕНЫЯ НАТАТКІ

Першы кадр фільма (блакітны) абвясціў, што кінастужку прадстаўляе Незалежная студыя, а наступны (чорны) — строга дадаў: па заказе Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. У такой лёгка-кплівай танальнасці распачынаецца карціна Міхаіла Пташука "Кааператыў "Палітбюро". Тэлевізійны паказ быў абвешчаны прэм'ерным, хоць фільм, створаны ў 1992 г., ужо аб'ехаў сталіцы суседніх заходніх краін (Варшаву, Бон, Бялград). А вось у беларускіх гарадах, па звестках рэжысёра, гледачы пакуль не дачакаліся гэтага твора. Падобная заява — з шэрагу мастацкіх гіпербалаў. Сама бачыла фільм на мінскіх экранах у Доме афіцэраў і ў кінатэатры "Кастрычнік". Дарэчы "Кааператыў "Палітбюро" стаў фаварытам журналісцкага журы на фестывалі постсавецкага кіно "Лістапад-94".

Тым не менш, трансляцыя па нацыянальным тэлеканале — сапраўды ўседзяржаўная прэм'ера: фільм атрымаў магчымасць увайсці літаральна ў кожны дом. І хто ж прыйшоў? ... Легендарныя зомбі савецкай гісторыі — Сталін, Брэжнеў, Хрушчоў, Чапаеў. Гэтыя амаль фальклорныя (калі прыгадаць колькасць анекдотаў) маскі, сабраныя ў агітбрыгадны квартэт, цешаць правінцыйную публіку. Ці то дзеля забавы, ці то ўсур'ёз?..

Драматургічны матэрыял карціны (аўт. сцэнарыя Я. Грыгор'еў і Р. Белякоўская) абапіраецца на так званы геральдычны прынцып — спектакль у фільме. Прафесійныя (і на самай справе, і на кінасюжэце) акцёры А. Пятрэнка, В. Іўчанка, В. Бачкароў, І. Кашынцаў ладзяць — разам і паасобку — анімацыйны атракцыён. Вось "Чапаеў" сышоў з экрана на сцэну, за ім — "Брэжнеў" ледзь "бровы вынес" на публіку, а тут "Хрушчоў" грамыхнуў абцасам па трыбуне і, нарэшце, сам таварыш Сталін з'явіўся народу. Гульня з глядзельнай залы паступова прасочваецца ў рэальнае жыццё гарадка, дасягаючы маштабаў пляцавага тэатра. Так бы мовіць: камедыя dell'arte па-савецку. Аднак сюжэтная калізія мае іншую прыроду — трагіфіласофскую. І калі сіла жанру пераадольвае акцёрскія аўтарытэты, менавіта тады атрымліваюцца лепшыя эпізоды карціны: сцэнічныя карыкатуры, званы абед у дачным "бункеры" партыйнага боса, "Чапай" сярод вайскоўцаў. Дарэчы, заўважу, што драматургічны прыём (канцэртны характар дзеяння) супаў з рэжысёрскім стылем М. Пташука. У параўнанні з папярэдняй яго карцінай "Наш бронецягнік" (1988 г.), дзе сольныя "нумары" выканаўцаў А. Пятрэнкі, М. Ульянава, А. Філіпенкі існуюць аднаасобна, неяк бенефісна, падобны падыход у фільме "Кааператыў "Палітбюро" абумоўлены канкрэтнай мастацкай логікай. І спрыяе пашырэнню вобразнага аб'ёму карціны. Чаго, на жаль, не скажаш пра масоўку. Напрыклад, чарга па гарэлку, дзе адсутнічаюць яскравыя тыпажы, проста здаецца фальшывай нотай у партытуры фільма. Фінал стужкі таксама, на мой погляд, сапсаваны штучнымі наслаеннямі. Неабавязковы трагізм апошніх кадраў спрошчвае агульны мастацкі эфект... Усе правадыры — не больш, чым марыянеткі Часу, саламяныя лялькі Гісторыі, якіх звычайна спальваюць у вогнішчы з надыходам адлігі. Маскі, думаю, павінны былі гарэць, а не персанажы фільма. Тым больш, што па законах сусвету хутка пасля вясны зноў вяртаецца зіма. А ў тэатры масак распачынаецца новы акт чалавечай камедыі...

Калі змяніць ракурс і разглядаць стужку "Кааператыў "Палітбюро" ў кантэксце сучаснай кінагісторыі, то можна заўважыць цікавую тэндэнцыю. У шэрагу кінематаграфій (перадусім — венгерскай і польскай) атрымаў моцнае развіццё так званы "разрахункавы фільм" — своеасаблівая спроба разліку з таталітарным (а дакладней — сталінскім) мінулым. Са значным спазненнем гэтай мэты дасягнуў і савецкі экран. Кропкай адліку, прынамсі, стаў кінатвор Т. Абуладзе "Пакаянне" (1986 г.). На Беларусі першыя крокі ў той бок зрабіў М. Пташук. Менавіта дзве яго апошнія карціны ("Наш бронецягнік" і "Кааператыў "Палітбюро") адкрываюць рэспубліканскі спіс разрахункавага кіно. І на чарзе, спадзяюся, — ужо не савецкі, не постсавецкі, а, нарэшце, **беларускі** фільм. Ці доўга будзем чакаць?..

**Наталля АГАФОНАВА**

Пошта

# А ГЭТА Ж — XII СТАГОДДЗЕ!

Пакрысе Віцебск пачынае асэнсоўваць наканаванае яму гістарычным лёсам месца ў сусветнай культурнай прасторы. Там-сям нават чуюцца галасы аб неабходнасці ўключэння горада ў Спіс сусветнай спадчыны UNESCO. У дачыненні да Віцебска гэта можа адбыцца, зразумела, не за наяўнасць рэальна зберажоных помнікаў архітэктуры, а за тую своеасаблівую метафізічную прастору, якая панавала ў Віцебску ў канцы XIX — пачатку XX ст. і прынесла гораду міжнародную славу. Вядомыя ўсяму свету імёны Шагала, Малевіча, Стрэмінскага, Лісіцкага, Ахола-Вало, Дабужынскага, Фалька, Хадасевіч, Пэна і шэрагу іншых назаўсёды ўвайшлі ў мастацкі пантэон Віцебска.

Аднак каштоўнасць такога мемарыяла, відавочна, не будзе дастаткова пераканаўчай для сусветнай супольнасці, калі агульная панарама горада не будзе садзейнічаць стварэнню іміджу. У гэтым сэнсе ідэі аднаўлення асобных куткоў старажытнага горада выклікаюць задавальненне і падтрымку гараджан.

Нарэшце дайшла чарга і да найстаражытнейшага помніка архітэктуры на Беларусі — Дабравешчанскай царквы (XII ст.). Актыўныя будаўнічыя работы на рэштках архітэктурнага будынка тым не менш выклікаюць занепакоенасць і шэраг пытанняў. Вядома, што даследаванні Дабравешчанскай царквы неаднаразова праводзілася як беларускімі, так і расійскімі археолагамі. Але ці ёсць упэўненасць, што знойдзены адказы на ўсе пытанні? Ці не перашкодзіць у далейшым распачатае будаўніцтва (у тым выглядзе, у якім яно зараз вядзецца) даследаванню культурных пластоў, што пад царквой і вакол яе? Ці змогуць наступныя пакаленні даследчыкаў дабрацца да падмурка, пахавальных склепоў?

Няма ўпэўненасці, што выкарыстанне звычайных (не заўсёды дабраякасных) будаўнічых матэрыялаў, сучаснай тэхналогіі і метадаў будаўніцтва не прывядзе да таго, што адноўлены храм будзе выглядаць горш за свае рэшткі, а разбурацца пачне яшчэ хутчэй? Знішчэнне і да таго нешматлікіх фрагментаў помніка дазваляе з меншымі цяжкасцямі ўзводзіць новыя. Гэта зразумела з пункту гледжання будаўнікоў: за даволі марудную і адказную высокакваліфікаваную працу прадугледжана вельмі малая плата. А як на такую новабудоўлю глядзяць рэстаўратары?

Азначаныя пытанні не адзінкавыя, невыпадковыя і зусім небеспадстаўныя, асабліва для Віцебска. Як кажуць, "пра набалелае" кожны дзень нам нагадваюць сумныя вынікі аднаўлення (немагчыма гэта назваць рэканструкцыяй, не тое што рэстаўрацыяй!) шэрагу архітэктурных помнікаў, сярод якіх і Пакроўская царква. Дапусціць такое ў дачыненні да царквы Дабравешчання — нельга. Гэты аб'ект патрабуе асабліва пільнай увагі і нагляду з боку навукоўцаў — даследчыкаў старажытнай архітэктуры, археолагаў.

**М. ЦЫБУЛЬСКІ**

# ЭФЕКТЫЎНЫ СРОДАК?

Нячаста, аднак слухаю Беларускае радыё ды й дзіву даюся — відаць, гэта адзінае радыё ў свеце, дзе рэдактар падчас размовы задае пытанні па-беларуску, адказы ж найчасцей гучаць па-руску, прычым адчуваецца, што размоўца не расійскага паходжання. Пра нежаданне размаўляць па-беларуску напісана і сказана так шмат, што, даруйце, гэта ўжо нецікава. Цяжка, безумоўна, штосьці рабіць з распаўсюджваннем мовы, калі і сам прэзідэнт на ўвесь свет патраліць абвясціць, што ягоная (а можа, не ягоная, Бог яго ведае) мова бедная. Зрэшты, чалавек другой нацыянальнасці, які шануе іншых і не ў першую чаргу самога сябе, так не скажа — больш чым упэўнены ў гэтым.

У мяне ёсць толькі адна практычная парада для радыйцаў. Сам я доўгі час працаваў рэдактарам, а пасля быў кіраўніком польскай рэдакцыі Літоўскага радыё і маю сякое-такое права прыкласці свае тры грошы, як той казаў.

Безумоўна, у Літве не кожны мог мне гаварыць у мікрафон па-польску, хоць многія, хто слаба ведаў польскую мову, а выступіць у нашай перадачы хацеў, сур'ёзна да гэтага рыхтаваўся. Я не меў права адказваць па-літоўску ці па-руску, хоць нашыя слухачы ведалі гэтыя мовы. Дык мы, як гэта і прынята ва ўсім свеце, рабілі так званыя накладкі, нягледзячы на тое, кім працаваў размоўца і якое службовае становішча займаў. (Для непаінфармаваных: накладка — гэта калі даецца некалькі сказаў размоўцы, выцішаецца гук і далей ідзе пераклад-пераказ у патрэбнай мове.)

Дык, можа, хай бы паспрабавалі і рэдактары беларускіх перадач накладаць свой тэкст-пераклад на ўсе іншамоўныя выказванні, з прэзідэнцкімі ўключна? Праўда, гэта патрабуе дадатковай працы, але вынік можа быць неспадзяваны.

**Уладзіслаў СТРУМІЛА,**
**журналіст**

*г. Вільня*

# КАБ ПАБОЛЕЙ ТАКІХ ШАНЦАЎ...

Падобна, пашанцавала Берасцейскаму тэатру лялек з ягоным спонсарам — малым прадпрыемствам "Шанц". Менавіта па ініцыятыве апошняга ўжо адбылося некалькі дабрачынных спектакляў у дзіцячых установах вобласці. Спачатку артысты ды прадпрымальнікі наведалі хворых абласной дзіцячай бальніцы. Паказалі ім спектакль "Незвычайныя спаборніцтвы", які дадаў юным пацыентам добрага настрою і, хочацца спадзявацца, здароўя, а таксама ўручылі маляўнічыя шакаладныя наборы, якраз прэзентаваныя МП "Шанц".

А яшчэ праз тыдзень берасцейскія лялечнікі ды іх фундатары выправіліся ў Бучымлянскі дзіцячы дом-інтэрнат, жыхары якога не хавалі сваёй незвычайнай радасці ад такога нечаканага візіту. І гэтага разу ў якасці падарункаў дзятве былі падораныя не толькі тэатральная пастаноўка ды майстэрства акцёраў, але і розныя прысмакі, іншыя сюрпрызы ўсё ад таго ж "Шанца". А самае прыемнае, што, як высветлілася, рыхтуецца чарговая падобная акцыя.

**І. Х.**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## А Ў "ПЕРШАЦВЕТА" — СВАЕ ПРЭМІІ

**І з'явіліся яны дзякуючы тым, каму неабыякавы лёс беларускай літаратуры, развіццё якой, безумоўна, залежыць ад таго, наколькі ўпэўнена сцвердзяць сябе маладыя таленты. "Прэміі перспектывы" ад Уладзіміра Клімовіча атрымалі: Сяргей Мандрык (апавяданне "Чарлі Чаплін", аповесць-прысутнасць "Міф пра смерць") і Ірына Шаўлякова (артыкул "Узмах бясконцага крыла").**

**Беларуска-германскае інфармагенцтва NN(NOVAJA NIVA) (старшыня праўлення Валерый Грышановіч, каардынатар аргкамітэта Анатоль Сыс) адзначыла: Інгу Гараву (нізка вершаў), Алеся Дуброўскага (паэма "Вызваленне" і нізка вершаў), Анатоля Брусевіча (нізка вершаў).**

## ЧУЙНАСЦЬ ГЭТАЙ СПОВЕДЗІ...

**"Постаці творцаў беларускай гісторыі ў кантэксце часу" — такі падзагаловак мае калектыўны зборнік "Вяртання маўклівая споведзь", выпушчаны выдавецтвам "Вышэйшая школа". Змест гэтай кнігі склалі артыкулы, нарысы, на старонках якіх "ажываюць" вобразы такіх выдатных дзеячаў нацыянальнага Адраджэння, як Вацлаў Ластоўскі, Антон Луцкевіч, Алесь Гарун, Францішак Аляхновіч і іншыя. Не абыдзены ўвагай і прадстаўнікі беларускага замежжа. Прынамсі, расказваецца пра Алеся Салаўя, Наталлю Арсенneву.**

## ЧАРАЎНІЦЫ І ПРЫЎКРАСЫ



**Паводле паведамленняў з Магілёва, у афішы абласнога драматычнага тэатра па-ранейшаму вядуць рэй дзіцячыя спектаклі. Казкі — па бальшыні свайй. Самая старая і самая новая — "Чараўнік Смарагдавага горада" і "Васіліса Прыўкрасная". "Чараўнік..." леташнім лістападам адзначаў свае чароўнае дзесяцігоддзе, пра што, мяркуем, з "ЛіМа" цікава будзе даведацца рэжысёру-пастаноўшчыку казкі Венедыкту Растрыжэнкаву (ён па-ранейшаму не цураецца казак на сцэне і ягонаю апошняю прэм'ераю сталася казка Сяргея Кавалёва "Драўляны рыцар" на сцэне Мінскага абласнога драматычнага тэатра). Нягледзячы на тое, што прызначаны рэжысёрам колішні склад выканаўцаў амаль цалкам змяніўся, спектакль не расчароўвае магілёўскую дзятву і карыстаецца глядацкім попытам. Як тут не згадаць, што ў свой час менавіта за выкананне ролі ў казачным спектаклі акцёр Аляксандр Ташкіноў быў узнагароджаны прэміяй СТД, што Рыгор Белацаркоўскі, Альбіна Чарнякова, Людміла Гурына, мабыць, асвойтаўшыся з чараўніцтвам (актрысы, дарэчы, і выконваюць ролі чараўніц), паспяхова "падчароўваюць" і ў іншых спектаклях... Радасці своеасаблівага юбілею не зазнаў старэйшы выканаўца Леў Палонскі, — чалавечы век перапыніўся, не падуладны сцэнічным чарам...**

**"Васілісу Прыўкрасную" за руку вывеў на сцэну рэжысёр Ігар Пералёлкін: Яўгенія Белацаркоўская выканала сваю першую вялікую і, бадай, важную ролю. У ролі Мядзведзя дэбютаваў Леанід Тарасаў, выпускнік культасветвучэльні; сваю другую ролю сыграў Уладзімір Саўчыкаў (Іван). Акраса спектакля — дасведчаныя магілёўскія акцёры Рыгор Белацаркоўскі, Наталля Абрамава, а таксама выканаўцы другога складу — Святлана Сасулёва і Аляксандр Паноў.**

*На здымку: Я. Белацаркоўская (Васіліса).*

*Фота Вадзіма КУСТОВА*

Лаўрэаты-94

# У АБАРОНУ БЕЛАРУСКАСЦІ

Сёння, як, бадай, ніколі раней, мы пачынаем задумвацца над уласнымі вытокамі, прыгадваць людзей, якія ў розны час сваімі справамі праслаўлялі Бацькаўшчыну, рабілі ўсё магчымае (а часам і немагчымае), каб пра беларусаў ведалі ў свеце. І тут, безумоўна, цяжка пераацаніць значэнне кніг, якія знаёмяць з жыццём і дзейнасцю нашых знакамітых землякоў. У шэрагу іх — і зборнік гісторыка-краязнаўчых нарысаў Анатоля Мяснікова "Нацдэмы". Аб яго змесце гаворыць падзагаловак: "Лёс і трагедыя Фабіяна Шантыра, Усевалада Ігнатоўскага і Язэпа Лёсіка".

Аўтар кнігі, вядомы журналіст, кандыдат гістарычных навук А. Мяснікоў, невыпадкова засяродзіў позірк акурат на гэтых выдатных адраджэнцах. Менавіта Шантыр, Ігнатоўскі і Лёсік — пры ўсёй рознасці іхніх лёсаў — падобны між сабой, падобны найперш апантаным служэннем Беларусі, адданасцю нацыянальнай ідэі, сваёй рэвалюцыйнай і адраджэнскай дзейнасцю. Не кажучы ўжо пра тое, што ўсе яны — людзі трагічнага лёсу.

Фабіян Шантыр, "змагар за нацыянальнае Адраджэнне", для прыкладу, стаў першай ахвярай бальшавікоў сярод тых, хто ўваходзіў у беларускі савецкі ўрад З. Жылуновіча. У ім Фабіян Гіляравіч быў наркомам нацыянальных спраў. У лютым 1920 года яго мабілізавалі ў Чырвоную Армію, а вясной таго ж года арыштавалі, абвінавацілі ў контррэвалюцыі і расстралялі. Усяго трыццаць тры гады пражыў гэты сумленнейшы чалавек.

Узнаўляючы асноўныя моманты жыцця і дзейнасці Шантыра, А. Мяснікоў імкнуўся выкарыстаць матэрыялы, якія, няхай і ўскосна, даюць мажлівасць прасачыць, як і пры якіх умовах адбывалася фарміраванне яго характару, як паступова далучаўся ён да рэвалюцыйнай барацьбы. Прынамсі, выкарыстаны артыкул Л. Клейнбарта "З мінуўшчыны беларускай грамадскасці", у якім пераканаўча ўзнаўляецца атмасфера ў Капылі ў канцы мінулага — пачатку нашага стагоддзя, дзе Шантыр і прайшоў першую сваю змагарную загартоўку. А пра тое, якіх ідэй прытрымліваўся Фабіян Гіляравіч, гаворыць яго асноўная праца "Патрэбнасць нацыянальнага жыцця для беларусаў і самаадзначэння народу", у якой востра (і правільна!) ставяцца пытанні неабходнасці нацыянальнага абуджэння і адраджэння. Гэтую працу і аналізуе аўтар нарыса.

Увогуле, расказваючы пра Шантыра, А. Мяснікоў, ішоў, можна сказаць па цаліку. Будучыя даследчыкі мецьмуць пад рукой многія архіўныя матэрыялы, якіх сам А. Мяснікоў, зразумела, не бачыў. Па той простай прычыне, што нарысы пісаліся (асобнай кнігай выйшлі ў 1993 годзе ў выдавецтве "Беларусь"), калі многае знаходзілася яшчэ ў так званых "спецхранах".

Гэта ў пэўнай ступені тычыцца і нарысаў "Першы прэзідэнт" (У. Ігнатоўскі) і "Жывіце без мяне..." (Я. Лёсік). А. Мяснікоў стаў адным з першых, хто дакрануўся да лёсаў людзей, чые імёны не на адно дзесяцігоддзе былі выкраслены з нацыянальнай гісторыі. Праўда, пры напісанні згаданых нарысаў яму працавалася куды лягчэй. Усё ж пасля Ігнатоўскага і Лёсіка засталося нямала друкаваных прац, а гэта таксама мажлівасць лепш спасцігнуць значнасць здзейсненага волатамі нацыянальнага Адраджэння.

"Нацдэмы" А. Мяснікова — кніга-роздум. І адначасова — кніга-ўчынак. Пішучы яе, аўтар узнімаў голас у абарону беларускасці, імкнуўся на прыкладах лёсу трох дзеячаў паказаць, хто мы, беларусы, адкуль на зямлі. І гэта А. Мяснікову ўдалося. Прываблівае і сама манера пісьма, і ўменне працаваць з матэрыялам. Дарэчы, на гэта звярнуў увагу ў прадмове Б. Сачанка, зазначыўшы, што кніга "напісана... удумлівым, дапытлівым даследчыкам, які ведае факты і ўмее іх аналізаваць, чалавекам нераўнадушным, улюбёным у мінулае і сучаснае свайго краю".



Па заслугах і ацэнка — за кнігу "Нацдэмы. Лёс і трагедыя Фабіяна Шантыра, Усевалада Ігнатоўскага, Язэпа Лёсіка" А. Мяснікову прысуджана Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь у галіне журналістыкі.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Віншуем!

# З ВЕЧНЫХ КРЫНІЦ

## Яўгену САХУТУ — 50 ГОД

Калі заходзіць размова пра народнае мастацтва і мастацкія промыслы Беларусі, галоўным аўтарытэтам у гэтай галіне нацыянальнай культуры без ваганняў называюць Яўгена Сахуту. Сярод выданняў манаграфічнага і агульнага характару, артыкулаў пра народнае мастацтва ў зборніках, энцыклапедыях, перыядычных выданнях яго пяру належыць пераважная большасць. У многіх выпадках даследчыцкая дзейнасць Яўгена Міхайлавіча звязваецца з азначэннем "першы". Ён першы звярнуў увагу, вярнуў з небыцця, уключыў у навуковы ўжытак такія практычна забытыя віды беларускага народнага мастацтва, як выцінанка, пісанкі, мастацкае кавальства, драўляная цацка, значна пашырыў нашы ўяўленні пра ганчарства, дрэваапрацоўку, роспіс і іншыя мастацкія рамёствы і промыслы нашых таленавітых продкаў.

А пачынаў ён у тыя часы (пачатак 70-х), калі публікацыі пра народнае мастацтва Беларусі, не кажучы ўжо пра салідныя манаграфіі, можна было пералічыць на пальцах. А калі няма публікацый — як быццам і самой з'явы не існуе. Яўген Міхайлавіч расказваў, як шчыра зайздросціў суседнім народам, гартаючы салідныя выданні па самых розных відах рускага, украінскага, польскага, літоўскага народнага мастацтва. Пакрысе стала выспяваць думка: ну не пустэльня ж нейкая ў Беларусі! Гэтае перакананне і змусіла маладога настаўніка пратаптаць сцежку ў аспірантуру Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі, а пасля яе паспяховага заканчэння застацца там жа на працы.

Не лішне нагадаць, што ў тыя часы традыцыйная народная культура не надта шанавалася. Цярпела яна і ўціск, і скептычныя адносіны да сябе як да нейкага архаізму, але ўсё ж яўнай пагрозы дзяржаўнаму ладу ад яе як быццам не зыходзіла. Даследаванні ў гэтай галіне паблажліва цярпелі, але ж, вядома, "зялёнай вуліцы", як кан'юнктуршчыкам ад палітыкі, зусім не стваралі. Таму ішлі ў гэтую галіну навукі толькі сапраўдныя энтузіясты, якія на надта думалі пра кар'еру і матэрыяльныя даброты, не гарталі ў бібліятэках падшыўкі партыйных газет, здабываючы "матэрыял" для сваіх "прац", а збіралі яго ў самай гушчыні жыцця, спяшаючыся зберагчы тое, што знікала на вачах. Дзе пехатою, дзе на спадарожных машынах, не робячы скідкі ні на выхадныя, ні на адпачынкі, Яўген Міхайлавіч аб'ехаў, абышоў, аблазіў самыя аддаленыя куточкі Беларусі, і там нязменна знаходзіў сапраўдныя залацінкі народнага таленту і шчодра дзяліўся гэтымі знаходкамі і ў перыёдыцы, і ў салідных выданнях. Адзін пералік апошніх чаго варты: "Народная разьба па дрэве", "Беларуская народная кераміка", "Беларускае народнае мастацкае кавальства", "Беларускае народнае мастацтва", "Народнае мастацтва і мастацкія промыслы Беларусі", "Фарбы роднай зямлі. Нарысы пра народнае мастацтва Беларусі", "Мастацкія промыслы і рамёствы Беларусі" (разам з В. Говарам). А яшчэ — шматлікія артыкулы ў энцыклапедыі "Этнаграфія Беларусі", 5-томнай "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі), раздзелы ў 6-томнай "Гісторыі беларускага мастацтва" і інш.

Як вядома, далёка не кожны вучоны валодае талентам прапагандыста, папулярызатара. Яўген Міхайлавіч выдатна спалучае гэтыя якасці і ніколі не адмовіцца выступіць — хоць перад выхавацелямі дзіцячых садоў, хоць перад выкладчыкамі вышэйшых навучальных устаноў. Сёння, у часы нацыянальна-культурнага адраджэння, попыт на такія выступленні асабліва вялікі, тым больш што неабходных выданняў, падручнікаў, дапаможнікаў катастрафічна не хапае. Тысячы людзей розных узростаў і прафесій пасля эмацыянальных лекцый Яўгена Сахуты зведалі сапраўднае адкрыццё датуль малавядомага кантынента, імя якому — народная мастацкая культура Беларусі.

Грамадска-культурная актыўнасць даследчыка праявілася і ў яшчэ адным важным напрамку. Дзесяткі гадоў то ўздымалася, то згасала ідэя пра стварэнне нейкага творчага аб'яднання народных майстроў, але рэалізавалася толькі ў новыя, хоць і вельмі нялёгкія для рэспублікі часы. Яўген Міхайлавіч — стваральнік і старшыня Саюза майстроў народнай творчасці Беларусі, самага маладога творчага саюза, які тым не менш ужо ўпэўнена заявіў пра сябе канкрэтнымі справамі. Сёння, праўда, на глебе народнай творчасці ўзнікае шмат розных аб'яднанняў, але на фоне таго дылетантызму, якім вызначаецца іх дзейнасць, Саюз майстроў народнай творчасці вылучаецца высокім навукова-метадычным узроўнем, у чым несумненная заслуга яго кіраўніка.



...Не кожнаму навуковаму калектыву пад сілу зрабіць столькі, колькі зрабіў у мастацтвазнаўстве Яўген Сахута. А яму ж яшчэ — толькі 50. Самы творчы росквіт. Будзем жа чакаць новых прац шчырага руплівіца на ніве народнай мастацкай культуры Беларусі.

**Валянціна ВОЛАХ**

*г. Гродна*

# ЯГО ВЯЛІКАСЦЬ АРХІЎНЫ ДАКУМЕНТ

*(Пачатак на стар. 5)*

— У нашым музеі сабраны дакументы, звязаныя пераважна з партызанскім рухам у гады нямецка-фашысцкай акупацыі. А вось як праходзілі на яе тэрыторыі франтавыя аперацыі, як, скажам, вызваляўся ў 1944 годзе той ці іншы населены пункт — такіх дакументаў у нас няма.

**— Як і дакументаў, дзе адлюстравана колькасць загінуўшых у апошнюю вайну на тэрыторыі нашай рэспублікі?**

— Так, і гэтых дакументаў. Яны знаходзяцца ў галоўным архіве Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі (раней Мінабароны СССР) у г. Падольску пад Масквой. Архіў гэты ўзначальвае цяпер, дарэчы, наш зямляк магіляўчанін палкоўнік Брылёў.

Шмат архіўных дакументаў, звязаных з нашай краінай, знаходзіцца ў архівах Польшчы. Напрыклад, дакументаў, што тычацца гарадоў і селішчаў былой Заходняй Беларусі. І калі ў расійскіх архівах нам заўсёды ідуць насустрач, дык палякі на нашы пісьмы і запытанні часта наогул не адказваюць. У значнай ступені я звязваю гэта з тым, што сістэма архіваў у нашага заходняга суседа адрозніваецца ад нашай. Там шмат архіваў ведамасных, якія не маюць нейкага аднаго каардынуючага органа. Таму і дамаўляцца з імі цяжка.

Больш спрыяльна да нас ставяцца ў германскіх архівах, якія вызначаюць традыцыйныя нямецкія акуратнасць і парадак.

**— З нашай сённяшняй гаворкі, Аляксандр Мікалаевіч, я вынес думку, што вядомы выраз: "Спісаць у архіў", які азначае, што некага ці нешта час ужо выключыць з актыўнага жыцця ці паўсядзённага ўжытку, далёкі ад сапраўднасці. Яго вялікасць архіўны дакумент, перажыўшы многія пакаленні людзей, увабраўшы іх вопыт, з'яўляецца неацэнным інструментам пазнання гістарычных падзей, змен, што адбываюцца ў грамадстве.**

**Мне застаецца толькі падзякаваць вам за цікавую гутарку.**

# АДСВЯТКАВАЛА ЛІРА ЗАЛАТАЯ...

*(Пачатак на стар. 1)*

Песні, якія размясціліся на 12-ці верхніх прыступках конкурснай "лесвіцы", і склалі магнітальбом "Залатая ліра-94". Касета з'явілася на свет дзякуючы падтрымцы камерцыйнымі структурамі найперш самой праграмы "Залатая ліра" — падтрымцы людзей, якія заахвочваюць развіццё беларускай нацыянальнай эстраднай песні. Гэта "ВІТТ" на чале з В. Мацулевічам, "Белгазаўтасервіс" (генеральны дырэктар М. Супрановіч), "Свакада" (прэзідэнт А. Дзямідаў), "Rözen" (прэзідэнт В. Гулевіч), "Сатурн" (прэзідэнт А. Навумовіч) ды інш. Прынамсі, галоўную ўзнагароду "Залатой ліры-94" устанавіла кампанія "Астап" (прэзідэнт В. Стасевіч): гэта пуцёўка на Кіпр, і атрымаў яе А. Ярмоленка.

Касета выйшла дзякуючы таксама фундатару "Залатой ліры" — польскаму прадпрыемству "Вігма" (генеральны дырэктар А. Драпей, прэзідэнт В. Гжэсяк). Дзівосная аператыўнасць! Навінка паступіла ў продаж адначасова з выхадам у эфір перадачы пра сам конкурс. Якасць запісу, ажыццёўленага з дапамогай тэхнічных сродкаў лепшых сусветных фірмаў, — выдатная! Прыгожае афармленне: паліграфія рабілася ў Кракаве...

Доўгачаканая падзея сталася нагодай для свята-прэзентацыі першай касеты з лепшымі беларускімі песнямі года. Яно адбылося дзякуючы фірмам "Вігма" ды "Памакс" (прэзідэнт Ж. Няхайчык). Прыйшлі дзеячы культуры, музыканты ды паэты, афіцыйныя асобы ды прадстаўнікі дзелавых колаў... Сярод іх — міністр культуры і друку А. Бутэвіч, генеральны дырэктар дырэкцыі праграм БТ Б. Бахціяраў, радца па культуры пасольства Рэспублікі Польшча М. Галкоўскі, аташэ па культуры пасольства Італіі А. Леуцэ. Пасля афіцыйнай часткі вечарыны, якую вяла З. Бандарэнка са сваімі памочнікамі-дыктарамі, адбыўся вялікі канцэрт, складзены з ужо вядомага рэпертуару нашых выканаўцаў і з песенных прэм'ер.

Паспрабуй, пералічы ўсіх прысутных! Апроч тых, каму ўдалося трапіць у аб'ектыў нашага фотарэпарцёра, былі паэты А. Бадак, Л. Дранько-Майсюк, А. Зэкаў, А. Лягчылаў, У. Някляеў, кампазітары Э. Зарыцкі, А. Елісеенкаў, Д. Даўгалёў.. Адно аднаму дарылі песні С. Герасімаў, В. Разанаў, ансамбль "Бліскавіца" А. Балотніка, Я. Паплаўская ды А. Ціхановіч, Н. Тамела, А. Ют, Ю. Шыкунец... Маладыя дыктары І. Аляксеева ды А. Байкоў разам з Д. Смольскім склалі вясёлую пеўчую тройцу. А "Польку беларускую" спявалі ды скакалі ўсе разам — пад акампанемент І. Лучанка...

Адказны сакратар генеральнай дырэкцыі праграм Беларускага тэлебачання, аўтар папулярных музычных праграм, у тым ліку й "Залатой ліры", яна ж арганізатар гэтага свята, Л. Палкоўнікава выказала надзею, што шчаслівы тандэм "Вігмы" ды "Залатой ліры" будзе трывалым і дапаможа развіццю беларускай эстрады. Тым больш, што замоўлены выпуск другога альбома, з астатнімі песнямі, якія гучалі ў фінале тэлеконкурсу. Удзельнікі свята неаднаразова і зусім слушна падкрэслівалі важнасць кантактаў "Залатой ліры" з польскай фірмай "Вігма", якая па-добрасуседску, па-сяброўску паставілася да нашых праблем і падтрымала менавіта беларускую песню.

Новы магнітальбом распаўсюджваецца ў краінах СНД, з якімі "Вігма" падтрымлівае гандлёвыя адносіны. Натуральна, што заказы на доўгачаканую касету прыйшлі з многіх беларускіх гарадоў. Ну, а ў сталіцы што? Ужо за першую гадзіну з моманту паступлення "Залатой ліры-94" у фірменны кіёск было прададзена 15 касет. Ёсць, значыць, попыт...

С. Б.

*Фота Віт. АМІНАВА*



*"Зорны дуэт" — Іна АФАНАСЬЕВА і Аляксандр САЛАДУХА ды прэзідэнт фірмы "Вігма" Веслаў ГЖЭСЯК (у цэнтры).*



*Дыктар БТ Алесь БАЙКОЎ і артыстка студыі "Сябры" Алеся.*




*У рэтра-стылі...*



*Васіль ды Сяргей РАІНЧЫКІ, салістка "Верасоў" Ірына ДАРАФЕЕВА.*

## АЎТАРЫТЭТ ГРАМАДЫ РАСЦЕ

**Як паведамляе друк, на апошнім пасяджэнні рады Мінскай гарадской арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады ў члены партыі былі прыняты вядомы наш мастак-графік Уладзімір Басалыга, народны мастак Беларусі, рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў Васіль Шарангові і былы міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь, прэзідэнт Фонду эканамічнага і палітычнага прагназавання Пётр Краўчанка. Такое папаўненне шэрагаў БСДГ несумненна паспрыяе павышэнню аўтарытэту партыі, асабліва сярод нашай творчай і навуковай інтэлігенцыі. Апошняя акалічнасць напярэдадні выбараў набывае асабліва важнае значэнне.**

**Ю. З.**

## ГАНЧАР? НЕ — МАСТАК...

**Што такое кераміка, Сяргей Несцяроўскі спазнаў з маладых гадоў. Ягоны бацька Мікалай Лаўрэнцьевіч — вядомы ў рэспубліцы мастак-кераміст, і лепшай школы, чым майстэрня бацькі, цяжка ўявіць. Сяргея ўражвала, як мяккі, паслухмяны кавалак простай гліны ў вопытных руках ператвараўся ў прыгожую фігурку народнага музыканта альбо ў фантастычную птушку. І хацелася самому зрабіць штосьці падобнае.**

**Вядома, у юнацкія гады спакуса многіх іншых захапленняў час ад часу адсоўвала кераміку на другі план. А пазней вучоба ў Беларускім політэхнічным інстытуце амаль зусім не пакідала часу на працу ў майстэрні. Атрымаўшы дыплом архітэктара, Сяргей некаторы час займаўся праектнай работай, але хутка пайшоў на Мінскі мастацкі камбінат, дзе ствараў вітражы.**

**Рашэнне поўнасцю прысвяціць сябе кераміцы прыйшло ў той час, калі паўсюль пачалі стварацца розныя кааператывы. Вось і вырашылі з сябрам заняцца вытворчасцю кафлі для печаў. Узялі ў вёсцы ў арэнду памяшканне, паставілі печ. Сяргей з гумарам успамінае, колькі шуму, у прамым сэнсе, было ад іх работы. На жахлівы гул пячной гарэлкі збіралася паўвёскі — паглядзець, што гэтыя дзівакі твораць. І хоць вырабы атрымліваліся нядрэнныя, асаблівага прыбытку праца не давала. Слабымі камерсантамі, відаць, былі. Ад гэтага давялося адмовіцца.**

**Хто ведае, магчыма, і да лепшага гэта было, бо заняўся Сяргей творчай працай. Ён звярнуўся да таго, што заўсёды яго вабіла, — традыцыйнай народнай керамікі.**

**Даведзеныя да дасканаласці рукой майстра формы ўражваюць сваёй прыгажосцю. Захоплена працуе Сяргей і ў галіне дробнай пластыкі. Яго сувенірныя вырабы карыстаюцца вялікім попытам. З'яўляючыся членам Саюза майстроў народнай творчасці Беларусі, Сяргей Несцяроўскі пастаянна ўдзельнічае ў выставах. І самае галоўнае, што кераміка, стаўшы яго прафесіяй, не стала для Сяргея проста работай. Яна засталася ягоным захапленнем.**

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛІНФАРМ**

*На здымку: Сяргей Несцяроўскі і яго работы.*

*Фота аўтара*

***"Прававая дзяржава", "правы чалавека" — "свабода слова" — словазлучэнні, якія сёння ва ўсіх на слыху, хоць масавай свядомасцю ўспрымаюцца як паняцці, што амаль не маюць практычнага зместу. Тлумачыцца гэта, відаць, тым, што, як піша аўтар артыкула "Дыктатура і права" прафесар А. Вішнеўскі, "падобныя прынцыпы патрабуюць поўнага адмаўлення ад каманднa-адміністрацыйных метадаў кіраўніцтва грамадствам, устанаўлення поўнай канстытуцыйнай законнасці. Калі раней супраціўленне ўсяму гэтаму зыходзіла ад партыйных органаў КПБ-КПСС, дык цяпер ад структур бюракратычных, карумпаваных і мафіёзных".***

***Пачатак станаўлення таталітарнай дзяржавы, якое скрупулёзна прасочваецца аўтарам артыкула, быццам і аддзелена ад сённяшняга дня чарадой дзесяцігоддзяў, і, відаць, знойдуцца людзі, якія скажуць: "Навошта варушыць старое?" Але ці такое яно ўжо і "старое"? Тое, што наша грамадства і сёння на кожным кроку сутыкаецца з рэцыдывамі бальшавізму — сумная рэальнасць.***

# ДЫКТАТУРА І ПРАВА

Тэорыя аб прававой дзяржаве нарадзілася шмат стагоддзяў таму назад у старажытнай Грэцыі. Менавіта антычныя мысліцелі Платон, Арыстоцель, Палібій і іншыя ўпершыню вызначылі важнейшы прынцып прававой дзяржавы — прынцып панавання закона над усімі, у тым ліку і над правіцелямі.

Бальшавікамі паняцце "прававая дзяржава", як і паняцце "правы чалавека" ад пачатку захопу імі ўлады ў 1917 годзе былі аб'яўлены буржуазнымі прымхамі. У аснову дзяржаўнага будаўніцтва было пакладзена імі марксісцкае вучэнне аб палітычнай дзяржаве, аб дзяржаве дыктатуры пралетарыяту. У выніку створаная бальшавікамі ўлада з'явілася перш за ўсё зброяй падаўлення палітычных праціўнікаў — людзей інакшага ладу жыцця, інакшага ладу мыслення. Разам з абмежаваннем правоў часткі насельніцтва краіны свабоды, фактычна, пазбавіўся і ўвесь народ. Палітыка жорсткага падаўлення асобы, мноства неабгрунтаваных забарон на ідэалагічнай аснове, жорсткія палітычныя рэпрэсіі падарвалі давер да самой дзяржаўнай улады, да закона, нарадзілі ўсеагульны прававы нігілізм. Што ж датычыць самога факта існавання дыктатуры пралетарыяту, то, на мой погляд, даўно наспела неабходнасць пераацэнкі поглядаў тэарэтыкаў права, гісторыкаў, філосафаў, іншых грамадазнаўцаў на гэтую праблему.

Як вядома, праграмнае рашэнне аб дыктатуры пралетарыяту было пастаўлена і прынята ў 1903 г. на II з'ездзе РСДРП. Але ўжо тут, у ходзе дыскусій, выказвалася думка аб магчымасці дыктатуры пралератыяту толькі ў тым выпадку, калі рабочы клас складзе большасць нацыі. Больш таго, яшчэ ў другой палове XIX ст. многія мысліцелі не без падстаў досыць скептычна ставіліся да ідэі К. Маркса аб дыктатуры пралетарыяту. Сярод іншых, у пачатку яе не прызнаў і вядомы рэвалюцыянер М. Бакунін. "Калі ўвесь пралетарыят, — пісаў ён, — будзе пануючым саслоўем, то над кім ён будзе панаваць?" І далей анархіст М. Бакунін сцвярджаў, што ўвесь рабочы клас адначасова дыктатарам быць не можа, а за яго прадстаўнікамі, якія нібыта выяўляюць народную волю, будзе хагацца дэспатызм кіруючай меншасці.

Бальшавікоў перш за ўсё вызначала імкненне ўсімі сіламі ўтрымаць манаполію на ўладу. Асабліва гэта праявілася тады, калі партыя, што стаяла ва ўладзе, пацярпела буйное паражэнне на выбарах ва Устаноўчы сход. Як правіла, афіцыйны друк, вучэбная літаратура гэта абыходзіла маўчаннем. РКП(б) атрымала тады толькі 25 працэнтаў галасоў, што і паслужыла падставай для разгону бальшавікамі гэтага сходу. У дадзеным кантэксце цікава будзе адзначыць, што першай генеральнай рэпетыцыяй па разгоне Усерасійскага Устаноўчага сходу з'явіўся разгон Першага Усебеларускага з'езда, які праходзіў у Мінску з 5 па 17 снежня 1917 г.

Многія былыя члены РСДРП з абурэннем успрынялі акт разгону Устаноўчага сходу. Асабліва перажываў Р. Пляханаў. Хутка ён з горычу напіша: "Іх дыктатура ўяўляе сабой не дыктатуру працоўнага насельніцтва, а дыктатуру адной часткі яго, дыктатуру групы. Менавіта таму ім даводзіцца ўсё больш і больш узмацняць ужыванне тэрарыстычных сродкаў".

Аб'ектыўны аналіз сітуацыі дазваляе зрабіць выснову, што актыўнасць пралетарыяту ў першыя дні-тыдні пасля Кастрычніка змяняюцца расчараваннем, пасіўнасцю, якія часам перарастаюць у канфлікты з новай уладай. У канцы вясны — пачатку лета 1918 г. незадаволенасць Савецкай уладай у гарадах узмацняецца ў сувязі з разрухай, беспрацоўем, гаротным харчовым становішчам. Што тычыцца сялянства, то адносіны з ім у бальшавікоў яшчэ больш абвастраюцца пасля ўвядзення ў маі 1918 г. так званай харчовай дыктатуры. Паводле апошніх дадзеных, толькі ў 1918 г. у выніку ўзброенага супраціўлення сялян на хлебанарыхтоўках загінула больш за 20 тысяч байцоў харчовых атрадаў. У Беларусі, напрыклад, вясной 1918 г. узброенае супраціўленне палітыцы бальшавікоў у вёсцы аказалі сяляне Віцебскага, Горацкага, Гарадоцкага, Аршанскага і многіх іншых паветаў.

З мэтай умацавання манапольнай улады ў Саветах бальшавікі адмовіліся ад прынцыпу ўсеагульнага, роўнага выбарчага права. Згодна артыкулу 65 Канстытуцыі РСФСР 1918 г. у заканадаўчым парадку пазбавіліся права выбіраць і быць выбранымі ў Саветы тыя катэгорыі грамадзян, якія з'яўляюцца прадстаўнікамі так званых эксплуататарскіх класаў. Уводзілася няроўнасць нормаў прадстаўніцтва рабочых і сялян пры выбарах у Саветы. Згодна артыкулам 25 і 53 Канстытуцыі, рабочыя карысталіся пяціразовай перавагай у параўнанні з сялянамі. Такім чынам, і тыя грамадзяне, якія атрымалі права голасу па першай савецкай Канстытуцыі, не валодалі роўнымі выбарчымі правамі. На гэта не маглі не звярнуць увагі ў сваёй антыбальшавіцкай прапагандзе апазіцыйныя партыі. Летам 1918 г. гэтыя партыі кантралявалі не толькі многія павятовыя і асобныя гарадскія, але і некаторыя губернскія Саветы, што прывяло да рэзкага звужэння тэрытарыяльнага ўплыву бальшавіцкіх Саветаў, а значыць і ўлады правячай партыі. І зноў на рэальную пагрозу манапольнай улады бальшавікі адказалі недэмакратычнымі дзеяннямі. Гэта выявілася ў тым, што 14 чэрвеня 1918 г. ВЦВК РСФСР пастанавіў выключыць са свайго складу меншавікоў, правых эсэраў і эсэраў цэнтра, а таксама прапанаваў усім Саветам выдаліць прадстаўнікоў гэтай фракцыі са свайго асяроддзя. Меней чым праз месяц V Усерасійскі з'езд Саветаў выключыў і левых эсэраў са складу Саветаў.

Каб нейтралізаваць антыбальшавіцкія пазіцыі сельскіх Саветаў, у чэрвені 1918 г. былі створаны надзвычайныя органы ўлады — камітэты вясковай беднаты. Шматлікія архіўныя дакументы сведчаць аб тым, што камбеды часта не толькі прысвойвалі функцыі Саветаў, а і распускалі апошнія.

У час працы ў многіх архівасховішчах былога СССР мне давялося азнаёміцца з пажухлымі ад часу дакументамі, якія сведчылі пра тое, што беларуская вёска летам 1918 г. адказала на арганізацыю камбедаў так званымі "кулацка-эсэраўскімі" мяцяжамі ў Віцебскім, Горацкім, Сенненскім, Полацкім, Аршанскім, Рагачоўскім і іншых паветах. У перыяд з 11 па 17 лістапада 1918 г. амаль уся Віцебская губерня, напрыклад, была ахоплена "контррэвалюцыйнымі паўстаннямі".

Асаблівае незадавальненне сялян выклікала ўвядзенне ў студзені 1919 г. харчовай развёрсткі, якая паставіла іх у апазіцыю да бальшавіцкай улады, і якая, аднак, з'яўлялася, на думку Леніна, асновай усёй палітыкі "ваеннага камунізму", важнейшым пачаткам прамога пераходу да сацыялізму. Так, 25 лютага 1919 г. больш за 300 заможных сялян Кармянскай воласці аказалі ўзброенае супраціўленне органам улады. П. Лепяшынскі паведамляў тады ў Магілёўскі губком партыі, што 20 чалавек з ліку арыштаваных за ўдзел у кармянскім паўстанні былі расстраляны. Сяляне Рагачоўскага, Клімавіцкага і іншых паветаў Магілёўскай губерні ў сакавіку 1919 г. падтрымалі Стракапытаўскі мяцеж, адобрыўшы мэты і лозунгі "Палескага паўстанцкага камітэта" наконт спалучэння прыватнай і дзяржаўнай ініцыятывы ў гандлі і прамысловасці, ажыццяўлення грамадзянскіх свабод, перадачы зямлі ва ўласнасць народу, перадачы ўлады Устаноўчаму сходу.

Няцяжка заўважыць, што з канца 1918 г. выразы "партыя кіруе", "партыя пануе", "правячая партыя", "дыктатура партыі" робяцца рэгулярнымі ў бальшавіцкім друку, у публічных выступленнях партыйных і дзяржаўных дзеячаў. І гэта невыпадкова. Партыя "пануе і павінна панаваць над аграмадным дзяржаўным апаратам", — піша У. І. Ленін (т. 41, с. 404).

Убачыўшы "высокую" эфектыўнасць жорстка цэнтралізаваных метадаў кіравання ва ўмовах грамадзянскай вайны, бальшавікі вырашаюць прадоўжыць палітыку ваеннакамуністычных мер і ў мірны час, разглядаючы іх у якасці магістральнага накірунку пабудовы сацыялізму.

Толькі крызіс вясной 1921 г., які ахапіў эканамічную і палітычную сістэму, рэальная пагроза страты ўлады прымусілі бальшавіцкае кіраўніцтва адмовіцца ад палітыкі "ваеннага камунізму". Справа ў тым, што ў 1920 — пачатку 1921 года незадаволенасць Савецкай уладай ярка выявілася ў шырокім паўстанцкім антыбальшавіцкім руху: "антонаўшчына" — у Тамбоўскай губерні, "махноўшчына" на Украіне, аналагічны рух разгортваўся на Паволжы, у Сярэдняй Азіі, Беларусі. Архіўныя матэрыялы сведчаць аб узброеных выступленнях сялян летам, восенню і зімой 1920 г. у Ігуменскім, Барысаўскім, Слуцкім і іншых паветах Беларусі. "У кастрычніку-снежні 1920 года супрацоўнікі міліцыі прымалі ўдзел таксама ў ліквідацыі антысавецкіх выступленняў у Мінскім, Мазырскім, Слуцкім, Ігуменскім і іншых паветах рэспублікі", — паведамлялася ў справаздачы Галоўнага Упраўлення рабоча-сялянскай міліцыі і Крымінальнага вышуку НКУС БССР аб рабоце за год. "Супрацоўнікі міліцыі Віцебскай губерні прымаюць удзел у ліквідацыі кулацкіх мяцяжоў", — паведамлялася ў справаздачы за 1920 г. "Усё левабярэжжа Дняпра Гомельскай Губерні і вярхоўе Бярэзіны ахоплена бандытызмам", — паведамлялася ў ліпеньскіх зводках 1920 г. аб дзейнасці 16-й арміі, накіраваных у Рэўваенсавет Заходняга фронту. У адрозненне ад Тамбоўскай губерні, Паволжа, Заходняй Сібіры, дзе камплектаваннем антысавецкіх узброеных сялянскіх фарміраванняў займаліся валасныя і раённыя камітэты "Сялянскага саюза", у Беларусі гэтым кіравалі павятовыя і валасныя аддзяленні савінкаўскага "Народнага саюза абароны радзімы і свабоды", у арганізацыйных адносінах больш дасканалага. Заходні абласны камітэт "саюза" знаходзіўся ў Гомелі.

Мілітарысцкім ладам мыслення, ідэалогіяй "ваеннага камунізму", падзелам людзей на "ворагаў" і "сваіх" можна растлумачыць увядзенне ў СССР органаў пазасудовай расправы — Асобай нарады пры НКУС і падпарадкаваных яму "троек" на месцах, розных спецкалегій, трыбуналаў і г. д. Не хто іншы, як Ф. Дзяржынскі садзейнічаў сваім аўтарытэтам у партыйным асяроддзі пашырэнню пазасудовых функцый АГПУ. Напрыклад, у 1924 г. ён піша заліску ў Палітбюро, у якой прапаноўвае для барацьбы з так званым бандытызмам падпарадкаваць чэкістам у аператыўных адносінах міліцыю і крымінальны вышук, а таксама дазволіць АГПУ пазасудовы разгляд спраў усіх удзельнікаў бандыцкіх фарміраванняў. Адметна, што прапановы Дзяржынскага сустрэлі ў той час рашучую нязгоду многіх членаў урада. "Далейшае пашырэнне правоў АГПУ на пазасудовы разгляд спраў калегія НКЗС лічыла б небяспечным", — пісаў нарком замежных спраў Г. Чычэрын. Тым не менш Палітбюро і Прэзідыум ЦВК пагадзіліся з прапановай старшыні АГПУ.

Панаванне ў партыі ідэалогіі і настрояў "ваеннага камунізму", характэрных для грамадзянскай вайны, знайшло адлюстраванне ў канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў і ў тэорыі права. Справа дайшла да патрабавання асобных "тэарэтыкаў" "спрасціць" крымінальны працэс. На шчыт уздымаецца тэорыя "небяспечнага стану" асобы, адпаведна з якой падставай для крымінальнай адказнасці павінна быць не канкрэтная віна, а "небяспечны стан" асобы, які вызначаецца, напрыклад, яе сацыяльным паходжаннем. Тым самым стваралася спрыяльная глеба для росквіту нігілістычных адносін да права, да законнасці. Невыпадкова большасць дэлега-

таў XV з'езда ледзь не высмеяла спробы генпракурора СССР Н. Крыленкі даказаць неабходнасць для пракуратуры кіравацца законам, а не адвольна тлумачанай мэтазгоднасцю.

Аналіз працэсу развіцця і ўмацавання апарату прымусу ў СССР дазваляе сцвярджаць, што ён фарміраваўся ў арганічнай сувязі са складзенай да 30-х гадоў адміністрацыйна-каманднай сістэмай, якая абумовіла і канцэнтрацыю ў руках Сталіна і яго акружэння ўсёй паўнаты палітычнай улады. Ужыванне ў масавым маштабе пазасудовых рэпрэсій прывяло да шырокага распаўсюджвання парушэнняў законнасці ў краіне. Усё гэта разам узятае і з'явілася той глебай, на фоне якой пачаў складвацца культ асобы. Па меры ўзрастання ў СССР вядомых негатыўных тэндэнцый пазасудовыя органы цалкам трансфарміраваліся ў карны апарат рэпрэсій і гвалту. У краіне ўзнікла атмасфера нецярпімасці, варожасці, падазронасці. Адміністрацыйна-каманднае ўпраўленне перарадзілася ў адміністрацыйна-карнае.

Па сутнасці, у краіне склалася сталінская дыктатура, якая, абапіраючыся на адміністрацыйна-камандную сістэму, цалкам падмяніла і да таго слабыя Саветы і падпарадкавала сабе судовую ўладу. Іначай кажучы, дыктатарская ўлада, на чале якой апынуўся ўсемагутны Сталін, распаўсюдзілася на ўсе сферы жыцця грамадства — у эканоміцы, палітыцы, духоўным жыцці. Сістэма такой улады выключала свабоду асобы ў яе дэмакратычным і гуманістычным сэнсе. Бяда памнажалася і тым, што дыктатарскія метады кіравання самога Сталіна капіраваліся і тыражаваліся пераважнай большасцю партыйных і дзяржаўных дзеячаў як у цэнтры, так і на месцах.

Каб з вышыні сённяшняга дня зразумець псіхалогію чалавека, які жыў у эпоху дыктатуры Сталіна, яго страх перад партыйна-дзяржаўнай машынай, мы не павінны выпускаць з-пад увагі тое, што ён быў пастаўлены ў рамкі самых жорсткіх абмежаванняў. Вось толькі некаторыя факты юрыдычнага боку гэтага пытання: 1932 год — увядзенне пакарання смерцю або дзесяцігадовай катаргі за выкраданне калгаснага дабра, устанаўленне турэмных пакаранняў за збор каласоў на палях; суд над рабочымі і служачымі за тры прагулы ў месяц (1938 г.), а потым і проста за невялікае спазненне (1940 г.); забарона пераходу па сваім жаданні з аднаго прадпрыемства на другое (1940 г.) і амаль поўнае абмежаванне ўсялякай свабоды пераезду калгаснікаў, пазбаўленых агульнаграмадзянскіх пашпартоў (якія з'явіліся ў асобнай часткі насельніцтва ў 30-я гады); увядзенне турэмнага пакарання навучэнцаў рамесных, чыгуначных вучылішчаў і школ ФЗА за парушэнне дысцыпліны і самавольнае пакіданне вучылішча (1940 г.) і г. д.

У гэтай абстаноўцы Сталін меў усе падставы сцвярджаць: уладараць не тыя, якія галасуюць і выбіраюць, а тыя, хто правіць, кіруе выканаўчымі апаратамі дзяржавы.

Часцяком даводзіцца сустракацца са сцвярджэннем, што з пераходам да індустрыялізацыі і суцэльнай калектывізацыі ўмацоўвалася адзінства партыі і народа. Як правіла, у дадзеным выпадку спасылаюцца на рост удзельнай вагі выбаршчыкаў у выбарчых кампаніях ці то ў маштабе Саюза, ці то ў асобна ўзятай рэспубліцы. Сапраўды, напрыклад, у Беларусі ў аднапартыйных выбарах у сельскія Саветы ў 1924 г. удзельнічала 35,5 працэнта выбаршчыкаў, у 1927 г. — 46,3 працэнта, у 1931 г. — 66,3 працэнта, у 1934 г. — 92,3 працэнта, а ў 1939 г. — 99,25 працэнта. Такое ж назіралася і ў іншых рэспубліках. Думаю, прыведзеныя лічбы сведчаць не аб умацаванні адзінства блока камуністаў і беспартыйных, а наадварот, аб тым, што з умацаваннем Савецкай дзяржавы, таталітарнага ладу павялічвалася псеўдаактыўнасць выбаршчыкаў. Павялічвалася з-за страху стаць аб'ектам праследавання з боку ўладных структур.

Такім чынам, гістарычны вопыт сведчыць, што небяспека бюракратызацыі жыцця грамадства, усеўладдзя бюракратычнага апарату можа быць пераадолена толькі шляхам рашучых эканамічных рэформ, разам з глыбокім пераўтварэннем палітычнай сістэмы грамадства, яе дэмакратызацыяй, фарміраваннем прававой дзяржавы. Падобныя прынцыпы патрабуюць поўнага адмаўлення ад каманднa-адміністрацыйных метадаў кіравання грамадствам, пераадолення прававога нігілізму, валюнтарызму і суб'ектывізму, устанаўлення поўнай канстытуцыйнай законнасці і забеспячэння строгай юрыдычнай адказнасці. Але калі раней супрацiўленне ўсяму гэтаму зыходзіла з партыйных структур, (КПБ—КПСС), то цяпер ад структур бюракратычных, карумпаваных і мафіёзных.

У тэарэтычных адносінах сур'ёзную інерцыйную, адмоўную ролю адыгрывае тое, што савецкая юрыдычная навука доўгі час лічыла непрымальнай саму ідэю прававой дзяржавы, паколькі яе прынцыпы былі выпрацаваны яшчэ ў перыяд еўрапейскіх буржуазна-дэмакратычных рэвалюцый. Сама тэорыя прававой дзяржавы была аб'яўлена буржуазнай ілжэнавукай, якую скарыстоўваюць ідэйныя праціўнікі камунізму ў падрыўных мэтах. Яе прыхільнікі падвяргаліся праследаванням. Асноўныя палажэнні тэорыі прававой дзяржавы ці катэгарычна адмаўляліся (як, напрыклад, прынцыпы грамадзянскага грамадства, падзелу ўлад, непарушнасці свабоды асобы), альбо скажаліся (як, напрыклад, прынцыпы дэмакратызму заканатворчасці, верхавенства закона, адказнасці за правапарушэнні і г. д.). Такі падыход адлюстроўваў, і, на жаль, яшчэ адлюстроўвае негатыўныя адносіны да тых агульначалавечых каштоўнасцей, якія складваліся тысячагоддзямі ў сферы дзяржаўных, прававых адносін.

**А. ВІШНЕЎСКІ**
**доктар гістарычных навук, прафесар**

# ЦЯЖКАЯ СПРАВА ВЯРТАННЯ...

Ва ўсіх цывілізаваных краінах свету існуюць дзяржаўныя структуры, якія займаюцца вяртаннем гісторыка-культурных каштоўнасцей. На міжнародным сімпозіуме ў ЗША, прысвечаным гэтай праблеме, адна Беларусь была прадстаўлена грамадскай камісіяй "Вяртанне" ў асобе дырэктара Нацыянальнага цэнтра імя Скарыны Адама Мальдзіса. На чарговым пасяджэнні камісія якраз і слухала Адама Іосіфавіча, які досыць займальна распавёў пра ход і цікавыя эпізоды сімпозіума, дзе ён выступіў з дакладам.

Мы даведаліся, што там прысутнічалі 43 прадстаўнікі ад Германіі і 20 ад Расіі, паміж якімі і ўсчалася асноўная дыскусія. Яна разгарнулася вакол каштоўнасцей, вывезеных з Германіі ў 1945—46 гг. у якасці кантрыбуцыі. Немцам было за што змагацца: золата цара Прыама і выданні Гутэнберга таго вартыя...

Беларусі таксама ёсць **што** вяртаць, ды пакуль няма **каму**. На ведамасным узроўні, як адзначыў галоўны архівіст рэспублікі А. Міхальчанка, такія пытанні не вырашаюцца. Між тым у Дзяржаўнай бібліятэцы і гістарычным музеі ў Маскве знаходзіцца 166 выданняў Францішка Скарыны, многія з якіх маюць красамоўную пазнаку: "Реквизировано во время государственного мятежа 1863 года". Затое ў родным горадзе першадрукара Полацку — ніводнага асобніка... Была агучана запаветная мара: а раптам Б. Ельцын у час маючага быць візіту прывязе ў падарунак не сумніцельныя гістарычныя акты, а поўны камплект Скарыны?

Старшыня Дзяржаўнай інспекцыі па ахове помнікаў Д. Бубноўскі абнадзеіў прысутных: робяцца канкрэтныя крокі, вядуцца перамовы з расійскімі ўладамі наконт вяртання рарытэтаў, слуцкіх паясоў і іншага.

Наконт "іншага" было сказана, што 97 працэнтаў каштоўнасцей, якія вывезены з Беларусі ў час апошняй вайны, нават не апісаны. Між тым фашысты разрабавалі каля дваццаці музеяў, у тым ліку Магілёўскі абласны гістарычны музей, дзе і захоўваўся славуты Крыж Ефрасінні.

Прагучала і добрая вестка: па абмене павінна вярнуцца на радзіму з Кіева бібліятэка Храптовіча. Дарэчы, Украіну ўпаміналі як прыклад у справе вяртання нацыянальных скарбаў.

Каб трохі ведалі і пра нас, пажадана выдаваць даведнікі на розных мовах і бясплатна пасылаць у бібліятэкі розных краін. Гэтая прапанова прагучала з месца і падалася слушнай.

Паездка за акіян не аказалася марнай яшчэ і таму, што прывезена некалькі цікавых дакументаў з Ватыкана, а таксама ўзор віншавання, якое штогод на 25 сакавіка губернатары штатаў дасылаюць амерыканскім беларусам.

**Г. К.**

# Валянцін РАБКЕВІЧ

6 лютага на 58 годзе жыцця памёр пісьменнік Валянцін Рабкевіч.

Валянцін Іванавіч Рабкевіч нарадзіўся 15 лютага 1937 г. у вёсцы Аксаміты Капыльскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і. У 1960 г. скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. Настаўнічаў на Валожыншчыне. Вучыўся ў аспірантуры пры Мінскім педінстытуце. У 1968—74 гг. — старшы рэдактар, загадчык рэдакцыі літаратуры, мовы, фальклору і этнаграфіі выдавецтва "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя". Неацэнны яго ўклад у рэдагаванні і своечасовым выхадзе першых тамоў гэтага выдання. Патрыёту роднага краю і шчыраму пабарніку беларускасці, яму было нялёгка ў нашым жыцці. З 1974 г. — рэдактар, з 1975 г. — старшы рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура".

Першы верш апублікаваў у 1957 г. Яго пяру належаць зборнік вершаў для дзяцей "Ад зімы да зімы", кніжка прыказак і прымавак "Паслухай, што людзі кажуць". Выступаў у друку з артыкуламі па культуры беларускай мовы. На яго творчым рахунку пераклады твораў М. Гогаля, М. Зошчанкі, Коба Абэ, К. Маккалаў, М. Чарамшыны і іншых майстраў сусветнай літаратуры. Высокапрафесійны рэдактар, ён шмат аддаваў увагі выхаванню маладых перакладчыкаў.

Пайшоў ад нас руплівы працаўнік на ніве літаратуры і мастацкага перакладу, выдатны таварыш.



Светлы вобраз Валянціна Іванавіча Рабкевіча назаўсёды застанецца ў сэрцах сяброў і ўсіх, хто яго ведаў.

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ,**
**ВЫДАВЕЦТВА "МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА"**

# УПАРТЫ, НЕ РАХМАНЫ БЕЛАРУС

Ён быў беларусам — шчырым, непахісным, свядомым. Раб, закуты ў кайданы любові да ўсяго беларускага, толькі перад Богам пакорліва схіляў галаву ды яшчэ перад беларускім словам. Настаўнічаў, вучыўся і слухаў голас матчынай мовы. Па слоўку, па паўслоўку збіраў самыя неацэнныя скарбы, мала ўдалося надрукаваць і выдаць прыказак, прымавак, артыкулаў і даследаванняў па пытаннях беларускай мовы, бо гэта не трэба было як верным ленінцам, так і самааб'яўленым кумірам.

Калі ў Акадэміі навук палявалі на ведзьмаў нацыяналізму, трапіў у сіло і Валянцін Рабкевіч. Апынуўся без працы, без пэўнага прытулку, толькі пад пільным наглядам. Але і ў такіх умовах пісаў, запісваў фальклор, перакладаў.

Апошнія два дзесяцігоддзі працаваў у выдавецтве "Мастацкая літаратура". Як сказаць, як напісаць, як перакласці — усе ішлі раіцца да дарадцы, да Валянціна, да спадара Рабкевіча, да Валянціна Іванавіча. На ўсіх яго хапала. І ўсім нам будзе не хапаць сябра, паплечніка, аднадумцы. А мне асабліва.

Усё збіраўся Валянцін завезці мяне да сябе на радзіму, каб убачыў я, як цвіце сад ягонага бацькі. Здаецца, учора цэлую навелу праслухаў я, як робяць кулі. Дакладней, як рабілі некалі, як рабіў Валянцінаў бацька, а сын яму дапамагаў. Раіў я сябру запісаць гэта ды шмат чаго іншага, каб не прапала, каб не забылася. Бо ўсё трэба, каб лячыць ад нацыянальнага бяспамяцтва.

Бог за нешта карае нашую зямлю, бо забірае лепшых усё часцей і часцей. А можа, Усявышняму таксама трэба добрыя людзі. Можа, і на небе, у господняй госпадзе іх не гэтак ужо й багата.

Хілю чало перад памяццю сумленнага й мужнага сябра й развітваюся з ім вершам:

## РЭДКІ БАЦЬКА

**Дрыжэў, як рэдкі бацька над дзіцём,**
**Над кожным гукам беларускай мовы.**
**Жыў Беларуссю, каб сплаціць жыццём**
**За вернасць Бацькаўшчыне ў век**
**сталёвы.**
**Ніжэла неба, шлях гусцеў асцём,**
**Дзе конь спагады не губляў надковы.**
**Як волат, дух змагаўся з небыццём,**
**Каб прах тачыў чужыншчыны аковы.**

**Пацвердзіць Бог і вёска Аксаміты:**
**Цкаваны, прадаваны, самавіты,**
**З душы абтрос паклёпаў чорны друз,**
**Як Судны дзень, у вочы катаў глянуў**
**Пан Валянцін Рабкевіч, сын Іванаў,**
**Упарты, не рахманы Беларус!**

**Рыгор БАРАДУЛІН**


**ЛіМ** ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

**Выходзіць з 1932 года**

***Газету рэдагавалі***

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932–35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935–41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945–46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947–49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949–50)* |
| *В.Вітка* | *(1951–57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957–59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959–61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961–69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969–72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972–76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976–80)* |
| *А.Жук* | *(1980–86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986–90)* |





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**

**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 11216.
Нумар падпісаны 2.2.1995 г.
Заказ 6.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

